— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

25 КАСТРЫЧНІКА 1996 г. № 43 (3867) Кошт 2 500 руб.

# Наша "НЕ!" і наша "ТАК!"

## Заява пісьменнікаў Беларусі

Мы, пісьменнікі Рэспублікі Беларусь, удзельнікі агульнага пісьменніцкага сходу, выказваем пачуццё глыбокай занепакоенасці і трывогі з прычыны той грамадска-палітычнай сітуацыі, якая склалася ў нашай краіне. Беларусь апынулася перад рэальнай пагрозай, што навісла над яе лёсам, над яе дэмакратычнымі інстытутамі, канстытуцыйным ладам, нацыянальна-культурным адраджэннем, над самім існаваннем яе як суверэннай дэмакратычнай прававой дзяржавы.

На нашых вачах рыхтуецца, па сутнасці, неабальшавіцкі пераварот — склікаецца так званы усебеларускі народны сход, якім яго арганізатары маюць на мэце падмяніць законнавыбраны Вярхоўны Савет. Гэта ні чым іншым, як махлярствам і падманам народа, не назавеш. Ні чым іншым, як палітычным ашуканствам і маніпуляцыяй воляй народа, не назавеш і задуманы А.Лукашэнкам так званы рэферэндум.

Характэрна, што ўсё гэта робіцца як быццам для навядзення парадку ў краіне. Неверагодна, але дайшло да таго, што за ўзор, за мадэль такога парадку прыводзіцца нават той, які ў свой час быў навязаны нямецкаму народу дыктатарскім гітлераўскім рэжымам.

Мы, пісьменнікі Беларусі, бачым іншыя шляхі выхаду краіны з крызісу і ўсталявання ў ёй сапраўднага правапарадку. Гэта — рэальнае і паслядоўнае, па-дзяржаўнаму мудрае і адказнае ажыццяўленне дэмакратычных пераўтварэнняў ва ўсіх галінах жыцця краіны і, у прыватнасці, яе нацыянальна-культурнае і духоўнае адраджэнне на грунце паважлівага стаўлення да роднай мовы, айчыннай гісторыі, нацыянальных традыцый і сімвалаў.

Пісьменнікі кажуць сваё рашучае "не!"

**Не!** — дыктатуры.

**Не!** — непатрэбнаму, гвалтоўна навязанаму народу рэферэндуму.

**Не!** — антыдэмакратычнай і антынацыянальнай палітыцы.

**Не!** — парушэнням канстытуцыйнай законнасці.

**Не!** — дыскрымінацыі беларускай мовы і беларускага друкаванага слова.

**Не!** — рэпрэсіям супраць нацыянальна-свядомай навуковай і творчай інтэлігенцыі.

**Не!** — хлусні, фальсіфікацыям, сацыяльнай дэмагогіі, спекуляцыйнаму папулізму, маніпуляванню грамадскай думкай, запалохванню замежнай пагрозай.

Пісьменнікі кажуць сваё рашучае "так!"

**Так!** — сапраўднай дэмакратыі, у тым ліку і дэмакратыі прадстаўнічай, парламенцкай.

**Так!** — канстытуцыйнай законнасці.

**Так!** — захаванню правоў чалавека.

**Так!** — беспярашкоднаму нацыянальна-культурнаму адраджэнню.

**Так!** — свабодзе думкі і слова.

**Так!** — мірнаму, канструктыўнаму суіснаванню палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў.

**Так!** — незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай прававой дзяржаве -- Рэспубліцы Беларусь.

*Мінск, 16 кастрычніка 1996 г.*



# ПА ЗАКОНАХ ЗМЕНЛІВАСЦІ ЧАСУ

***Не намі гэта прыдумана — па-асабліваму ставіцца да юбілеяў майстроў мастацтва. Зразумела, яны з тых, што навідавоку. Але і тое слушна, што артыст ці мастак сваёй асабістай значнай датай нагадаюць нам, што з традыцыяй павіншаваць чалавека ёсць магчымасць зазірнуць у часы, над якімі сёння варта задумацца.***

***Такую нагоду дае нам кінарэжысёр, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Віктар Тураў. Яму — 60. Больш за сорак з іх ён з кінематографам. Ад студэнцкай лаўкі ў цяпер ужо замежным Інстытуце кінематаграфіі да студэнцкай аўдыторыі ў Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе падрыхтаваў першы выпуск маладых рэжысёраў.***

Час — катэгорыя жорсткая. Яны, сучасныя студэнты, без прыдыхання вымаўляюць: Тураў. Яны рацыянальныя і без падманнай інтанацыі скажуць, што фільмы іхняга майстра — гэта, мякка кажучы, іншая эпоха. Яны па-свойму маюць рацыю. Таму што жыццё і мастацтва, як і жыццё ў мастацтве цяпер страцілі абаяльную мінулую наіўнасць. Калі нельга было ствараць, не маючы перад вачыма светлага небакраю. Нават калі ствараў фільм пра вайну.

*(Пацяг на стар. 11)*

# КОЛА ДЗЁН

***І ўсё-ткі унікальны мы народ, беларусы. Гэта ж трэба так — давесці напружанне ў краіне да найвышэйшай кропкі і, у рэшце рэшт, спусціць усё “на тармазах” і супакоіцца, задаволіцца: абышлося... Што абышлося? Нічога ж не змянілася. Колькі яшчэ гэта будзе працягвацца? Можа, хопіць? Бо калі ўжо натура ў нас такая: “абы ціха”, дык давайце, можа, і кіраўніцтва абяром адпаведнае? І будзем паціху-патроху, не спяшаючыся, але і не торгаючыся ўправа-ўлева, будаваць сваю дзяржаву. А то абрыдлі гэтыя несусветныя паскарэнні перад надуманымі “мерапрыемствамі”. Тыя ж, хто раз за разам уздымае “на дыбкі” дзяржаву, бо іначай кіраваць не ўмее, хай пашукаюць сабе іншы народ, га? Можа, й так. Але, каб сказаць гэта “тым”, трэба нам самім стаць іншымі, не “абыціхімі”. Падзеі мінулага тыдня якраз і паказалі, што ўсё больш беларусаў разумее гэта і мужна, нягледзячы ні на якія запалохванні, паўстае за тое, каб “людзьмі звацца”. Так — пераможам. Найперш — саміх сябе!***

## СУПРАЦЬСТАЯННЕ ТЫДНЯ

Кангрэс, мітынг, сход — тры падзеі мінулага тыдня, якія завяршылі падзел беларускага грамадства на два лагеры. Ініцыятарам усіх іх практычна быў адзін чалавек — прэзідэнт. Не было б сходу — не было б кангрэса і не было б мітынгу. Такім чынам можна даць адказ на пытанне, адкуль сёння ідуць флюіды канфрантацыі... Сход не апраўдаў затрачаных на яго падрыхтоўку сродкаў — галоўнае пытанне, дзеля якога ён збіраўся, на ім вырашана не было: прэзідэнт сам прапанаваў перанесці рэферэндум на зацверджаную парламентам дату. Не будзем гадаць, што стала прычынай гэтага. Але маральную перамогу ў гэтым супрацьстаянні ўсё-ткі атрымала апазіцыя: яна здолела згуртавацца, з’яднацца перад пагрозай дыктатуры і адбіць першую атаку на дэмакратыю.

## ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

На ўсебеларускім народным сходзе быў адзін цікавы момант: галасаванне за рэзалюцыю УНС. Усіх, хто галасаваў “супраць”, папрасілі ўстаць... Без перабольшвання, трэба было мець немалую мужнасць, каб зрабіць гэта на вачах у некалькіх тысяч ужо “адобрыўшых”. Сярод тых адзінаццаці (ці ўсё ж 33?), хто адкрыта выказаў сваю нязгоду, быў і старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык... Літаральна за некалькі дзён да сходу, пасля выступлення прэзідэнта на Форуме спартыўнай грамадскасці, Прэзідыум СФПБ прыняў заяву, у якой ёсць і такія словы: “Федэрацыя прафсаюзаў не прымае палітыкі ігнаравання дзеючых законаў, прыняцця рашэняў “імем рэвалюцыі”, і заклікае Вас, паважаны Прэзідэнт, кіраўнікоў органаў выканаўчай улады да аб’яднання намаганняў з прафсаюзамі ў вырашэнні праблем, у тым ліку фізкультуры і спорту, у рамках сацыяльнага партнёрства, а не канфрантацыі”. Такім чынам, хоць афіцыйны прафсаюз і не далучыўся афіцыйна да апазіцыі ўладам, але адкрыта заявіў, што цвёрда будзе стаяць на пазіцыі законнасці і канстытуцыйнасці. Шкада толькі, што мы вымушаны сёння адзначаць (заўважаць і захапляцца) тое, што ў нармальнай дзяржаве з’яўляецца справай звычайнай...

## СТРЭЛ ТЫДНЯ

Назаўтра пасля заключнага слова прэзідэнта на УНС, у якім ён назваў нібыта сфармаваны апазіцыяй “ценявы ўрад”, была абстраляна машына “прэзідэнта” гэтага “ўрада” Генадзя Карпенкі. Адбылося гэта ў самым цэнтры Мінска — на скрыжаванні праспекта Скарыны і вуліцы Сурганава. Г.Карпенкі ў машыне не было. Злачынцы на дзвюх “іншамарках” з месца здарэння зніклі. У адрозненне ад у нечым падобнай “справы Ганчара”, парламент “справу Карпенкі” абмяркоўваць не стаў.

## ВЫДАННЕ ТЫДНЯ

З’яўленне экстраннага выпуску газеты “Свабода” многія палітычныя аглядальнікі параўналі з выбухам бомбы. З-за надрукаванай у ім “дакладной запіскі” пра спецпадрыхтоўку ўнутраных войск да “аховы грамадскага парадку 19—20 кастрычніка”. Была ці не была “запіска”, была ці не была “падрыхтоўка”, ёсць такі “палкоўнік Шкун” ці няма яго — разбярэцца следства. Відавочна адно — у многім дзякуючы менавіта гэтай папераджальнай публікацыі кроў на вуліцах Мінска 19 кастрычніка не пралілася. Шматлікія міліцыянеры і салдаты паводзілі сябе надзвычай карэктна, а “агітатары” з міліцэйскіх машын з узмацняльнікамі звярталіся да мітынгоўшчыкаў выключна па-беларуску. Калі тое, што адбылося ў Мінску 19 кастрычніка пасля публікацыі “запіскі”, было з боку міліцыі экспромтам, то, трэба прызнаць, экспромт атрымаўся ўдалым.

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Тое, як спакойна (чыста знешняе ўражанне) успрымаў калектыў “Народнай газеты” ўсе перамены, што адбываліся з газетай апошнім часам, шчыра прызнацца — здзіўляла. Ад агульнанацыянальнай дэмакратычнай “Народнай газеты” за некалькі месяцаў засталіся “рожкі ды ножкі”. Пры гэтым калектыў застаўся той самы. Ну як тут чытачам не падумаць пра “прафсаюзных журналістаў”, якім усё роўна, пра што і як пісаць...

Але мінулы тыдзень паказаў, што супраціўленне ціску пацізу спела і ў “НГ”. Спачатку 20 вядучых журналістаў “НГ” надрукавалі ў “Свободных новостях-плюс” адкрыты ліст — “У “Народнай” ёсць і меркаванне народа”, у якім адмежаваліся ад апублікаванага ў “НГ” артыкула “Пятае вымярэнне Генадзя Карпенкі” (2 кастрычніка г.г.), “таямнічага аўтара Уладзіміра Кастрова”. Ліст гэты ў сваёй газеце журналісты надрукаваць не маглі... А 23 кастрычніка, ужо ў самой “НГ” надрукаваны яшчэ адзін адкрыты ліст, які падпісалі больш за 50 супрацоўнікаў газеты. Ліст адрасаваны прэзідэнту, спікеру парламента і генеральнаму пракурору. Калектыў просіць разабрацца ў сітуацыі, што склалася пасля прызначэння Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам “сваіх” галоўных рэдактараў газеты і прызнання КС не адпавядаючым Канстытуцыі ўказа прэзідэнта аб рэарганізацыі “НГ”. Тады, калі калегі чакалі ад калектыву “НГ” рашучых дзеянняў (прэзідэнт здымаў Сярэдзіча, Галко, закрываў і адкрываў АО) — ён маўчаў. Хай і запозненае, але жаданне сказаць сваё слова можна толькі вітаць. Рашучасці і мужнасці, прынцыповасці і паслядоўнасці вам, калегі!

## МАРНАТРАЎСТВА ТЫДНЯ

Мінскі паліграфкамбінат на мінулым тыдні атрымаў тэрміновы заказ з адміністрацыі прэзідэнта: вырабіць 2 мільёны каляндарыкаў з надпісам: “Твой голос 7 ноября. Референдум”. Калі заказ быў выкананы, паведамляе “Свабода” (22 кастрычніка г.г.), з адміністрацыі загадалі спыніць друкарскія станкі — прэзідэнт “перанёс” рэферэндум на 24 лістапада... Мільённыя страты паліграфкамбіната адміністрацыя пакрываць не збіраецца. Спех, кажуць, людзям на смех. Але кіраўніцтву паліграфкамбіната не да смеху.

## СВЯТАТАЦТВА ТЫДНЯ

У ноч з 20 на 21 кастрычніка ў Заслаўі згарэла Спаса-Прэабражэнская царква, помнік архітэктуры XVI стагоддзя, сімвал горада... Падазрэнне ў падпале падае на невядомых сатаністаў, якія пакінулі на сцяне надпіс “смерть христианам”. Будынак, упэўнены, будзе адноўлены, а вось многія старажытныя, музейныя абразы, кнігі, што знаходзіліся ў ім, страчаны назаўсёды...

Адгалоскі

# ХТО ПАДЫМЕ БЕЛЫ СЦЯГ?



Генерал-маёр міліцыі, у якога карэспандэнт расійскага тэлеканала НТВ браў інтэрв’ю пасля мітынгу, што адбыўся ў Мінску 19 кастрычніка і праходзіў пад дэвізам “У абарону дэмакратыі, супраць дыктатуры”, быў вельмі ажыўлены і гаваркі. Расказваючы, што абстаноўка ў сталіцы “насуперак змрочным прагнозам асобных палітыкаў” спакойная, што размовы аб надзвычайных мерах, якія нібыта будуць ужыты органамі ўнутраных спраў супраць апазіцыйных прэзідэнту сіл — суцэльная лухта, генерал міла пажартаваў: “Бачыце, у Свіслачы падводных лодак для разгону дэманстрантаў няма”.

Сапраўды, той дзень абышоўся практычна без сутычак. Але ці заслуга гэта ўлад? Што датычыць “змрочных прагнозаў асобных палітыкаў”, пра якіх згадваў генерал, дык сярод іх найперш трэба назваць Юрыя Георгіевіча Малумава, намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, даверанай асобы прэзідэнта ў парламенце. Менавіта ён за колькі дзён да згаданых падзей з парламенцкай трыбуны “вещал” аб масавых беспарадках, якія нібыта збіраецца ўчыніць прэзідэнцкая апазіцыя. Помніцца, гэтае выступленне спадара Малумава многімі дэпутатамі-дэмакратамі было названа правакацыйным. А хутчэй за ўсё хацелася спадару намесніку спікера апраўдаць сапраўды беспрэцэдэнтную мабілізацыю сіл і сродкаў органаў унутраных спраў у пярэдадзень 19 кастрычніка.

Рэдакцыі газеты “Свабода” ўдалося здабыць строга засакрэчаны дакумент, які ўяўляў сабой дакладную запіску начальніка баявой падрыхтоўкі корпуса аховы намесніку камандуючага — начальніку аператыўнай і баявой падрыхтоўкі ўнутраных войск МУС, дзе выкладалася справаздача аб ступені падрыхтоўкі органаў правапарадку для барацьбы з “хулиганствующими элементами”. Сіла збіралася немалая: снайперы і аўтаматчыкі, забяспечаныя баявымі і халастымі патронамі, бронетранспарцёры, спецсродкі “Чаромха”, “Альха”, “Омут”, нейкі новы газ “Піён”, прызначаны для паражэння адразу вялікай колькасці людзей, вадамётныя і пажарныя машыны, нават спецыяльна абучаныя сабакі і да т.п. Каб неяк апраўдаць усё гэта, і была пушчана ў ход дэзінфармацыя аб нібыта існаванні ў рэспубліцы ўзброенай апазіцыі, і каб такім спосабам павярнуць абывацеля супраць “ворагаў” прэзідэнцкай улады.

Адзін з падобных “дакументаў” я выняў з паштовай скрынкі раніцай 18 кастрычніка. Меў ён назву:”О развёртывании народной войны” і ўяўляў сабой інструкцыю для вядзення ўзброенай барацьбы супраць улад: дзе і як здабываць зброю, дзе і як яе хаваць (“Оружие никогда не хранят дома, никому тайника не показывают, особенно подружкам”), як зброю прымяняць (“Стрелять первый раз, целясь в солнечное сплетение. По цели в бронежилете — по ногам. Второй раз стреляют в голову”)... Застаецца дадаць, што ўлётка была выпушчана пад грыфам “УНСО Беларусі”. А каб у чытача не заставалася сумненняў адносна таго, хто стаіць за ўлёткай, ёй прадпасланы вядомы дарэвалюцыйны верш Якуба Коласа “Я мужык, ды гонар маю”, але чамусьці падпісаны імем М. Багдановіча (узровень ведання беларускай паэзіі складальнікамі “дакумента” — “людзьмі ў цывільным”). Ды як бы там ні было, але ў той жа дзень пачуў ад сваіх суседзяў пагалоску, што 19 кастрычніка “БНФ будзе страляць у міліцыю”... Вось так.

Арганізатары мітынгу чакалі, што ў ім прыме ўдзел 40—50 тысяч чалавек. На плошчы Парыжскай камуны ля Опернага тэатра сабралася значна менш. Амаль не было студэнцкай моладзі. “Сакрэт” гэтага раскрыў сам Аляксандр Рыгоравіч, які ў сваім дакладзе- выступленні на “народным сходзе” ў Мінскім Палацы спорту сказаў з пафасам, што трэба падзякаваць міністру народнай адукацыі Стражаву, які перад гэтым два тыдні са сваім апаратам як след “папрацаваў” са студэнцкай моладдзю, настроіўшы яе на пэўны лад. Многія студэнты расказваюць, што “настройванне” гэтае заключалася ў тым, што ў суботу 19 кастрычніка ва ўсіх ВНУ сталіцы вучэбныя заняткі былі сплánаваны па максімальным варыянце — чатыры “пары” (8 гадзін запар), а каб ніхто з іх не збег, усе дзверы ў навучальных карпусах былі зачынены. Да таго ж, усе студэнты былі афіцыйна папярэджаны, што за пропуск заняткаў у гэты дзень яны будуць адлічаны з навучальных устаноў.

Усяго гэтага, вядома, не ведалі 5 тысяч дэлегатаў “усебеларускага сходу”. А каб і ведалі, думаецца, толькі б ухвалілі гэткія меры прэзідэнцкай адміністрацыі. У гэтым можна не сумнявацца, ведаючы, як ішло вылучэнне дэлегатаў сходу, хто ў ім прыняў удзел — у асноўным наменклатура з месцаў і “лепшыя прадстаўнікі” рабочага класа, калгаснага сялянства і народнай інтэлігенцыі. Як у “приснопамятные” часы пры такіх нагодах. Каментатар аднаго з расійскіх тэлеканалаў параўнаў беларускі сход (ці народнае веча, як узнёсла назвалі яго афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі) з колішнімі з’ездамі КПСС, што праводзіліся ў Крамлёўскім палацы з’ездаў і збіралі прыблізна столькі ж дэлегатаў. Сапраўды, вонкавае падабенства кідалася ў вочы. Той жа паказны энтузіязм, тое ж аднадушнае “адабраем”. Не, здаецца, не такое ўжо і аднадушнае. 11 дэлегатаў сказалі сваё рашучае “не” таму, што адбывалася пад скляпеннямі Палаца спорту. Некалькі дзесяткаў пры галасаванні ўстрымаліся. Заўважым, галасаванне было адкрытае, шляхам простага ўзняцця рук. Які б быў яго вынік, калі б волевыяўленне дэлегатаў вызначалася праз тайнае галасаванне, прадбачыць не вельмі цяжка.




*Фота Аляксандра АМЕЛЬЧАНКІ.*

Але галоўнай сенсацыяй сходу было агалошанае прэзідэнтам рашэнне перанесці дату рэферэндуму з 7 на 24 лістапада, г.зн. на дзень, прапанаваны парламентам. Хто ўважліва сачыў за палітычнымі баталіямі апошняга часу, ведае, што спадар Лукашэнка маніякальна настойваў на правядзенні рэферэндуму менавіта 7 лістапада і, не атрымаўшы згоды на гэта Вярхоўнага Савета, прыгразіў, што калі не парламент, дык “усебеларускі сход” дасць яму карт-бланш на прапанаваную ім дату правядзення рэферэндуму.

Чым выклікана згаданая ўступка парламенту — тэма асобнай гаворкі. Тут жа толькі заўважым, што “ўсебеларускі сход” па прапанове прэзідэнта звярнуўся да Вярхоўнага Савета з прапановай адазваць так званы парламенцкі праект Канстытуцыі, які таксама павінен быць вынесены на рэферэндум.

У панядзелак 21 кастрычніка Вярхоўны Савет на сваім пленарным пасяджэнні ўнесці ў парадак дня разгляд згаданай прапановы большасцю галасоў адмовіўся, матывуючы гэта адсутнасцю ў парламенце самога тэксту звароту. Але нават калі ўсе звязаныя з гэтым фармальнасці будуць захаваны, думаецца, наўрад ці Вярхоўны Савет падыме белы сцяг.

**Міхась ЗАМСКІ**

Кангрэс

# "ДЫЯГНАЗ" ПАСТАЎЛЕНЫ

Кангрэс у абарону Канстытуцыі, супроць дыктатуры стаў альтэрнатывай так званаму Усенароднаму сходу і адбыўся на дзень раней. Праўда, яго не трансліравалі па ТВ (з падключэннем усіх расійскіх праграм), не ахоўвалі ўнутранымі войскамі, не пасялялі дэлегатаў у "Планеце" і не ладзілі для іх культурнай праграмы. Усё было сціпла, прыстойна, добра арганізавана і ў дзелавым духу. Палац прафсаюзаў з цяжкасцю змясціў дэлегатаў, гасцей і журналістаў — як айчынных, так і замежных (усяго было прадстаўлена 68 сродкаў масавай інфармацыі). Як паведаміла мандатная камісія, зарэгістравана 1293 дэлегаты ад 16 партый, шматлікіх грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў. Падчас выступленняў ніхто не спаў, зала рэагавала жыва і аднадушна. Адзінокі папяровы самалёцік з балкона, мабыць, на сумленні студэнтаў. (Нездарма іх назаўтра, у дзень мітынгу, "нагрузілі" суботнікам, дадатковымі лекцыямі і застрашылі адміністрацыйнай праверкай).

Сярод лідэраў дэмакратычнага сходу такія вядомыя палітыкі, як Ю. Захаранка, Г. Карпенка, Ю. Хадыка, М. Грыб, Г. Бураўкін, С. Шушкевіч, П. Краўчанка, Г. Таразевіч і іншыя. У прэзідыум запрасілі і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі — Я. Брыля, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, А. Вольскага, В. Іпатаву, В. Дашука, М. Купаву, А. Лойку, М. Крукоўскага, В. Тараса. Усе выступленні — і стрыманыя, і палемічна завостраныя — канстатавалі крах дзяржаўнай і сацыяльнай палітыкі першага прэзідэнта Беларусі. Па сутнасці, на кангрэсе пастаўлены "дыягназ": ён не спраўляецца са сваімі абавязкамі, а значыць — прафнепрыгодны. І хоць эканамічныя цяжкасці пачаліся не пры ім (што таксама адзначана), але толькі ў апошнія гады хлусня стала дамінантай дзяржаўнай палітыкі, і праз мясцовыя радыё і тэлебачанне, прыбраныя к рукам прэзідэнцкай камандай, ідзе разбурэнне грамадства, псіхікі людзей, іх сумлення. За два гады не зроблена нічога з абяцанага народу. Больш таго: першая асоба сама стала крыніцай напружанасці і супрацьстаяння ў краіне. У рэзалюцыі кангрэса гаворыцца: "Парушаючы закон, кіруючы рэжым становіцца злачынным". Цалкам незаконнай акцыяй будзе і чарговы рэферэндум. Як сказана ў Звароце да міжнароднай супольнасці: "Той факт, што прэзідэнцкі рэферэндум не мае пад сабой законных падстаў, аўтаматычна робіць нелегітымнымі любыя яго паследствы".

Шматтысячны суботні мітынг стаў своеасаблівым падвядзеннем вынікаў кангрэсу, яго сэнсавай і эмацыянальнай кропкай. Кангрэс у абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры пацвердзіў, што ў краіне ёсць здаровыя сілы, здольныя аб'яднацца і стаць на абарону закона, дэмакратыі і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**НАШ КАР.**

**P. S.** Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" ўступнае слова на Кангрэсе Янкі Брыля, а таксама выступленні Ніла Гілевіча і Вольгі Іпатавай.

Вольга ІПАТАВА

## ДЫКТАТУРА ПАЎЗЕ

**З падзямелляў Сусвету,**
**з глыбінь векавечнае ночы,**
**З гістарычнага сметніка страшных,**
**нялюдскіх ідэй**
**Дыктатура паўзе. І блішчаць яе хіжыя вочы**
**У імгле, што згушчаецца**
**над Беларуссю штодзень.**

**Дыктатура паўзе.**
**Праз стагоддзі мяняе аблічча:**
**То Неронам спявае (і поўны рабоў стадыён),**
**То Адольфа уздыме, а то беларусаў пакліча**
**У свет, дзе пануе адзін і паўсюль — толькі ён,**
**толькі ён,**

**Дзе заглушыць душу**
**бессаромнай хлусні пустазелле,**
**Дзе трымае народ, як жабрак,**
**кашалёк свой пусты,**
**Дзе краіну маю вурдалак на чартоўскім вяселлі**
**Апаіўшы атрутай, зацягвае прагна ў кусты.**

**Дыктатура паўзе.**
**Мне б у схованкі ціхае ўлонне —**
**Колькі іх, што ланцуг выстаўляюць,**
**нібы медалі!**
**Толькі я уздымаю, як шчыт,**
**як заслону, далоні.**
**Скажуць дзеці: "Бацькі ёй прайсці не далі".**

**Нам пакінуць бы ім**
**гэтай светлай надзеі усходы.**
**А яшчэ падарыць бы пасаг у касмічны**
**іх шлях:**
**Залатыя, як зоркі, зярняты свабоды,**
**Што стагоддзе дваццатае**
**ўсё не аплоціць ніяк...**

*18 кастрычніка 1996 г.*

Янка БРЫЛЬ

## МУЖНАСЦЬ І МУДРАСЦЬ

Днямі, калі мне быў прапанаваны высокі гонар выступіць перад вамі, дарагія сябры, калі я ўваходзіў у клопат, што і як сказаць, у памяці ўсплылі радкі незабыўнага Пімена Панчанкі, напісаныя ў франтавым сорак другім, далёка ад паняволенай Беларусі:

**І адна у мяне — пра Радзіму —**
**Сягоння трывога,**
**І адна у мяне — на Радзіму —**
**Сягоння дарога.**

Які балючы парадокс, якая сумная рэальнасць, — у мірны час, у сталіцы суверэннай дзяржавы, у цэнтры Еўропы трэба збірацца ў вялікай патрыятычнай трывозе за сваю сапраўдную незалежнасць, за сваё права на родную мову, школу, культуру, за права на дэмакратыю, за найбольш адпаведную ёй канстытуцыю, за найвярнейшую дарогу ў светлую будучыню роднага народа.

Не бачаны раней нахрап злачыннасці, афіцыйнай ілжы, дзікае падзенне спрадвечнай чалавечай маралі, катастрафічна няспынная хада ўподбежку дарагавізны і ўсеагульнай галечы. А над усім — жахлівы прывід дыктатуры!..

Як быццам наш народ мала яшчэ нацярпеўся, напакутаваўся за вякі. Агонь і меч разнамасных "вызваліцеляў", крывавы бізун прыгону, Курапаты і Трасцянец, і "божы палец", як называлі ў даваеннай Польшчы паліцэйскі гумавы кій, што ў нашы дні зноў увarваўся ў моду...

І самі дзівімся, і людзі дзівяцца, высакародна дзівіўся і наш вялікі зямляк — Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі: як ён выжыў, як захаваў сябе — беларускі народ?!

Дзівіцца трэба яшчэ і з таго, колькі было іх, ахвотнікаў намі пакіраваць, пакрасавацца неабмежаванай уладай на фоне нашай славутай рахманасці, па-невуцку панастаўляць нас, як трэба жыць дома, у межах краіны, дзе сабралася столькі моў і веравызнанняў, як трэба сябраваць з вялікімі і меншымі суседзямі.

Мы ведаем і самі, каго нам і як ды завошта трэба паважаць і любіць на поўначы і поўдні, на захадзе і ўсходзе, перад нікім не стоячы ў агіднай позе беднага, прыгорбленага сваячка, з ліслівым выскалам манкурта, гатовага за нішчымнае сачавічнае пойла на любое ахвярнае слугаванне.

Нам трэба вольная, мірная, нейтральная, дэмакратычная Беларусь. Права на гэта яна заслужыла сваімі пакутамі, сваёй гераічнай барацьбой з нацызмам, сваёю верай у чалавечую справядлівасць. Нам трэба раўнапраўная дружба з усімі народамі, мы любім і ўмеем дружыць. Мы хочам быць не лішнімі, не смешнымі, не жалю, а то і пагарды вартымі ў прагрэсіўнай сям'і чалавецтва, мы хочам, каб нас паважалі, каб з намі лічыліся.

Грубай, нахабнай сіле сваёй і чужой рэакцыі, шавіністычнай ды прафашысцкай дэмагогіі, як бы яе шматвопытныя ці дылетанцка-шустрыя вяршыцелі пад любое святкаванне ні перабельвалі свае хатыпалаты, як бы слінява ні абдымаліся ў патайных нячыстых задумах ды намаганнях, трэба і неабходна бескампрамісна супрацьпаставіць нашу цярплівую беларускую мужнасць, абавязкова спалучаную з абачлівай мудрасцю — на сёння, на заўтра і назаўсёды. Трэба не проста пагаманіць, паахкаць, пакрычаць, сабраўшыся, а сур'ёзна, дзелавіта параіцца, актыўна і разумна вырашыць, што і як трэба рабіць.

А прыгадаўшы, як гэта нашы бацькі, дзяды і прадзеды шанавалі шчырую, справядлівую, святую працу, давайце самі сабе і ўсім добрым людзям, і ў гэтай, на жаль, не надта прасторнай, зале, і за сценамі яе, бліжэй і надалей, па-людску, па-мазольнаму паўторым народнае:

Памагай Бог!

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ЗА КУЛЬТУРУ — СУПРОЦЬ НЕВУЦТВА, ДЗІКУНСТВА І ЦЕМРАШАЛЬСТВА

Вельмі шаноўныя дэлегаты і госці Кангрэса!

Грамадства, да якога мы належым, ужо далёка не тое, якім яно было дваццаць і нават дзесяць гадоў назад. Адбыліся велізарныя і незваротныя перамены ў светапоглядзе, у псіхалогіі, у маральным самапачуванні соцень тысяч людзей. Зрабіць іх зноў палітычнымі інфантамі, сляпымі, зашоранымі дагматыкамі, няўцямнымі паслухмянымі пешкамі — немагчыма. Людзі пачалі цаніць сваю чалавечую і нацыянальна-дзяржаўную годнасць. І ім ужо невыносна цярпець палітычную і маральную экзекуцыю, перасяляцца ў нейкае Пашахонне, дзе законы не пісаны, дзе Канстытуцыя — пустая паперка, а міжнародныя канвенцыі — міф і не болей. Тым не менш людзей хочуць у такое бяспраўнае, дэспатычнае царства пасяліць, у тым ліку і з дапамогай усенародных рэферэндумаў.

Многія паразумнелыя нарэшце грамадзяне называюць запланаваны рэферэндум непатрэбным і абсурдным. Правільна і справядліва! Аднак пры гэтым чамусьці не гавораць, што мінулагодні рэферэндум быў гэтаксама і непатрэбны і абсурдны. І больш таго — вельмі подлы. Вынікі яго аказаліся страшнымі. У грамадстве адразу ж рэзка абазначылася канфрантацыя, адбыўся амаль поўны раскол інтэлігенцыі. Многія з вядомых у краіне людзей прадбачылі гэта і своечасова папярэджвалі нашу грамадскасць. Але рэферэндум, на жаль, быў падтрыманы, і не толькі кандовым электаратам. Чаму? Таму што галоўнымі сваімі пунктамі ён быў скіраваны супроць праславутага несмяротнага беларускага нацыяналізму, таму што мэтай яго было паправіць "нацыяналістычную" Канстытуцыю Беларусі. Удумайцеся толькі, добрыя людзі! У Беларусі — нацыяналістычная варожая да іншых народаў і краін Канстытуцыя! Большага, прабачце, глупства, большага абсурду каб і хацеў — не прыдумаеш. Але гэта многім імпанавала: "Да, да, конечно, национализм надо пресечь!" У поспеху рэферэндуму, асабліва па такіх пытаннях, як мова і сімволіка, можна было не сумнявацца. Але поспех акрыліў ініцыятараў плебісцыту. Ага! — усклікнулі яны. — Раз удалося паправіць Канстытуцыю, то на наступным рэферэндуме ўдасца і зусім яе ліквідаваць, замяніць новай, такою, якая патрэбна "мне", усенародна абранаму. Вось што значыць боязь гэтак званага беларускага нацыяналізму, а на самай справе — беларускага патрыятызму. Вось што значыць не разумець элементарнай ісціны, што незалежную, прававую, моцную сваю дзяржаву можна пабудаваць толькі на грунце нацыянальнай ідэі, што ні адна аўтарытэтная сёння дзяржава ў свеце іншым шляхам не прыйшла да свайго сучаснага паважнага становішча.

Прыхільнікі мінулагодняга рэферэндуму хапаліся за пункт аб раўнапраўным статусе дзвюх моў. Як быццам не разумелі, што ніякага раўнапраўя не будзе, а будзе адкат да мінулага, да таго бядотнага становішча, у якім канчаткова гінула-канала мова 10-мільённага славянскага народа. У верасні 1994-га А. Лукашэнка публічна абазваў мову беларускага народа неразвітай і недасканалай. Уявіце на хвіліну, што падобнае зрабіў кіраўнік якой-небудзь еўрапейскай дзяржавы. Што сталася б з ім? Што сказаў бы яму глыбока абражаны народ? У нас жа бальшыня насельніцтва па вядомых прычынах не абразілася і нават падтрымала гэтую нялюдскую пазіцыю на рэферэндуме. Што зробіш: сотні гадоў выхоўвалі народ у такім антыбеларускім, антыпатрыятычным духу, нацыянальны нігілізм увайшоў у плоць і кроў, у гены многіх пакаленняў. На радыкальную генную трансфармацыю патрэбна як мінімум некалькі дзесяткаў гадоў, што і прадугледжвае праграма нацыянальнага адраджэння. Дзесяткі гадоў спакойнай, але зацікаўленай і натхнёнай працы, нармальнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў спрыяльных умовах.

Калі прагучала гэта публічная абраза беларускай мовы, падкрэслю — дзяржаўнай мовы, па Канстытуцыі, стала ясна: у ліпені 1994-га ў краіне здарылася не проста прыкрая памылка, а вялікая бяда-няшчасце, здарылася памылка, якая можа перарасці ў агульнанацыянальную трагедыю. Рэч у тым, што людзі, якія гэтак "мудра" рашаюць лёс мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры, гэтак жа будуць вырашаць і эканамічныя, і сацыяльныя, і палітычныя, і ўсе іншыя жыццёва важныя праблемы. Іначай яны проста не могуць. Такі іх агульны культурны ўзровень — узровень іх маралі, іх духоўнасці, іх прафесійнай прыгоднасці. І гэты адметны пашахонскі ўзровень ужо накладае свой адбітак на ўвесь лад і стыль жыцця, мы ўсе яго ўжо адчулі — і ўжо чырванеем ад сораму перад светам, які пачынае з нас смяяцца і адварочвацца ад нас. У краіне пачынае панаваць стыль усеагульнага таталітарнага марнатраўства, калі разумнае, таленавітае, творча перспектыўнае і плённае ідзе на здзек і глум, а бязглуздае, бяздарнае, бесперспектыўнае бярэ верх і пачынае дыктаваць сваё. Вось чаму

*(Працяг на стар. 4)*

Варункі

# ЦІКАВАЯ КНІЖКА

*"У беларускім батальёне не ўладаючыя беларускай мовай у падафіцэры не праізводзяцца".*

З цыркуляра беларускага батальёна ў літоўскім войску

**У Беластоку ў 1995 годзе пабачыла свет надзвычай цікавае гістарычнае даследаванне вядомага беларускага гісторыка, які жыве ў Польшчы, Алега Латышонка "Bialoruskie formakje wojskowe". Цэлая змагарная эпоха даўжынёю ў сем гадоў з 1917 па 1923 год ахоплена ім, калі беларусы са зброяй у руках адчайна прабіваліся да незалежнасці.**

**Савецкія гісторыкі старанна імкнуліся сфальсіфікаваць нашую праўдзівую гісторыю, і ў тыя гады, паводле іх, па беларускіх лясах гойсалі адно бандыты. У той час, як Алег Латышонак падрабязна распавядае пра беларускі вайсковы рух у 17-м годзе, Цэнтральную Вайсковую раду, якая прычынілася да ўтварэння БНР, вызваленне Мінска ад бальшавікоў у лютым 1918 года беларускімі атрадамі, пра беларускія палкі ў Мінску і Горадні, беларускія вайсковыя адзінкі ў літоўскім войску, пра Беларускую Вайсковую Камісію, пра змаганне беларускага войска С. Булак-Балаховіча, а таксама пра збройны супраціў 1-й Слуцкай брыгады стральцоў і пра беларускую партызанку ў 1-й пал. 20-х гадоў.**

**Савецкім гісторыкам было што хаваць. Аказваецца, тысячы і дзесяткі тысячаў беларусаў змагаліся супраць расійскага панавання, савецкай улады і камуністаў, жадаючы быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Формы гэтага змагання былі разнастайныя, але, на жаль, не было моцнай палітычнай арганізацыі, якая б здолела аб'яднаць збройны незалежніцкі рух у адзінае цэлае, не было матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі еўрапейскіх дзяржаў.**

**З гэтага даследавання я з цікавасцю даведаўся пра Койданаўскую незалежную рэспубліку, якая ўтварылася ў лістападзе 1920 года і праіснавала чатыры дні. Я даведаўся, што ўпершыню бел-чырвона-белая адзнака ў вайскоўцаў-беларусаў была зацверджана 11 снежня 1917 года, і што зараз я жыву ў той частцы Мінска, якая ў лютым 1918 года кантралявалася польскай камендатураю, я працую на тэрыторыі, якая была пад кантролем беларускіх вайсковых атрадаў.**

**Я з замілаваннем гляджу на фотаздымак беларускіх вайскоўцаў, што на вокладцы кніжкі. Светлымі поглядамі пазіраюць яны на нас. На цэшках праглядаюцца замглёныя ад часу Пагоні. Беражліва распрастаны, ляжыць на каленях наш сцяг.**

**Пасля прачытання даследавання ў мяне склалася перакананне, што нашы продкі спрабавалі зрабіць немагчымае ў выключна неспрыяльных для Беларусі ўмовах. Падаецца, што іхнія нашчадкі значна больш рахманыя і баязлівыя.**

**Сённяшняе ж "беларускае войска", якое стаіць на нашых землях, па духу — якое хочаш, толькі не беларускае.**

**Чым толькі ў школе і ў ВНУ нам ні забівалі галовы. Вось жа, пачытаўшы такое даследаванне, пачынаеш разумець — гэта наша праўдзівая гісторыя.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## ЛІСТ ДА ПРЭЗІДЭНТА

**Зноў мяне клічуць на веча, клічуць аддаць свой голас, абяцаючы гарачую ваду ў кватэры. Дзякуй, але мне наўрад ці патрэбна і халодная — мне паветра перакрылі. Адлучылі ад працы, парушылі любімы тэатр, зрабілі з яго другі Чарнобыль, разбэсцілі лепшых, адораных богам людзей. Калі я пісьмова, а затым і публічна сказаў пра гэта спадару з прэзідэнцкай вертыкалі, які кіруе тэатрам, ён, уладальнік шыкоўнага кабінета, шапнуў мне ў цёмным закулісным калідоры: "Вы страцілі ўсё..." Не ведаю, ці па канстытуцыі гэта і па якой? Ліст, з якім я звярнуўся да Прэзідэнта Рэспублікі, не толькі з-за асабістай справы, на нейкім этапе хтосьці абыякава выкінуў у кошык для смецця ці, мабыць, адправіў назад у тэатр, бо адказу — няма...**

**Таму я звярнуўся ў рэдакцыю з просьбай апублікаваць змест ліста да Прэзідэнта — друкаванае слова да яго ўжо, мабыць, не схаваюць.**

**Дык вось, я, Марозаў Дзмітрый Максімавіч, саліст оперы, лаўрэат Міжнароднага конкурсу музыкантаў-выканаўцаў, ведаю тэатр з 1967 года, калі пасля конкурсу быў залічаны ў трупу, яшчэ займаючыся ў кансерваторыі. Перажыў шмат кіраўнікоў... Цяпер тэатр расцягалі, прынізілі... Калі за балет адказвае адзін Елізар'еў, які, магчыма, не дапусціць той мяжы, ад якой рэанімацыя будзе немагчымаю, дык у опернай частцы кіруюць усе, не зважаючы на адказнасць. Зрабілі з тэатра палігон для "абкаткі" выездаў за мяжу. Вялікія фондавыя спектаклі перарабляюць у пастаноўкі-недарэкі. Усё перакладаюць на замежныя мовы. Бяруць адданых людзей і едуць за мяжу, пакідаючы ў родных сценах неўкамплектаваныя ні выканаўцамі, ні касцюмамі спектаклі. Асабіста мне ў такім спектаклі даводзілася выходзіць на сцэну ў тым, у чым выходзіў з трамвая, прыкрыўшыся плашчом. І гэта — у Дзяржаўным акадэмічным тэатры!**

**Цяпер, каб "развязаць сабе рукі" і не думаць пра тутэйшага гледача, пад выглядам неабходнасці рамонту хочуць адбойным малатком разбурыць яшчэ й сцены тэатра, на якіх, вобразна кажучы, не прасохла пазалота ад папярэдняга рамонту. Кожны будынак, зразумела, мае патрэбу ў рамонце, але цяпер, калі краіна — у жабрацтве разам з артыстамі, я перакананы: з рамонтам пачакаць можна. Нельга зараз рабіць "азонавую дзірку" ў бюджэце Рэспублікі, тым больш — дзеля зручнасці і жадання махляроў.**

**Толькі беднасць прымусіла людзей, адораных ад бога, падпарадкавацца гэткім кіраўнікам, заплюшчыць вочы на знішчэнне тэатра, на нізкі ўзровень спектакляў, пагадзіцца жыць паводле воўчых законаў — толькі б узялі ў замежную паездку.**

**Пра ўсё гэта я гаварыў дырэктару Картэсу і галоўнаму дырыжору Анісімаву, заклікаў іх да прыстойнасці і аб'ектыўнасці ў складанні спісаў тых, хто едзе на гастролі, нагадваючы пра жабрачае становішча тых, хто застаецца працаваць на стацыянары. Пасля аднаго з такіх публічных выказванняў калектыў у знак падтрымкі абраў мяне старшынёй цэхкома, але дырэктар і галоўны дырыжор праз месяц вымусілі тых, хто падымаў за мяне рукі, прагаласаваць за кандыдатуры, якія назвалі самі. Мяне знялі з тых партый у спектаклях, на якія самі ж і прызначалі, па сутнасці растаптаўшы мой творчы лёс. Незалюбілі тых, хто адмовіўся выступіць супраць мяне як старшыні цэхкома.**

**Самае небяспечнае для тэатра тое, што цяпер у ім цалкам знікла творчае спаборніцтва, на партыі ў операх прызначаюцца не патрэбныя галасы, а патрэбныя людзі. Можна сабе ўявіць, як матэрыяльна забяспечаны тыя, хто ездзіў за мяжу па пяць разоў, ды "сямейна" і хто — ніводнага разу.**

**Перапрашаю за недасканалы стыль, але за кожнае слова ў сваім лісце я гатовы адказаць перад Прэзідэнтам, дадаўшы канкрэтныя факты і выказаўшы свае прапановы. Спадзяюся, што ў мяне будзе такая магчымасць.**

**Д. МАРОЗАЎ,**
**саліст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы**

## ЛІСТАПАД, ДОМ ЛІТАРАТАРА

**"Калі паэт сваёй эпохай дыша..." — вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння М. Чарота, якая пройдзе 5 лістапада.**

**Аўтарскі вечар У. Юрэвіча запланаваны на 14 лістапада.**

**19 лістапада адзначаюцца 675-ыя ўгодкі смерці італьянскага паэта Дантэ Аліг'еры, на вечарыне пойдзе гаворка аб перакладзе яго "Боскай камедыі" на беларускую мову.**

**90 гадоў назад пачалася літаратурная дзейнасць Я. Коласа. З нагоды гэтага 21 лістапада адбудзецца вечар "Колькі вы радасці людзям прынеслі, Колас жытнёвы і Колас-паэт!"**

**Згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.**

**А вось "круглы стол" на тэму "Беларуская школа сёння": стан і перспектывы развіцця" пачне работу 27 лістапада ў 16 гадзін.**

**Адпаведна 20 і 26 лістапада збіраюцца на свае пасяджэнні секцыі паэзіі і літаратуры для дзяцей і юнацтва. Пачатак — у 15 гадзін.**

# ЗНАК ПРЫЗНАННЯ



Імя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ўжо некалькі дзесяткаў гадоў вядома не толькі ў Беларусі і на адной шостай зямлі, але і ўва ўсім свеце. Гэтая вядомасць прыйшла да пісьменніка дзякуючы яго творам, яго чалавечай і грамадзянскай пазіцыі ў адносінах да падзей, якія адбываюцца ў грамадстве. Сёння імя Васіля Быкава асацыіруецца з нацыянальным адраджэннем, з незалежнасцю нашай краіны, з барацьбой за правы чалавека. І таму не дзіўна, што менавіта цяпер, у гэты складаны палітычны час, у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джан Лука Берцінета ўручыў ордэн Італьянскай Рэспублікі "За заслугі" народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву. Гэтая ўзнагарода, па словах пісьменніка, — знак прызнання беларускай нацыі, беларускай літаратуры, беларускай культуры. Наш штотыднёвік шчыра віншуе Васіля Уладзіміравіча з высокай узнагародай і жадае яму далейшых поспехаў на ніве беларушчыны.

*Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

# "...І РОБІЦЬ НАС ВЫСАКАРОДНЫМІ"

## ЗАЎТРА ЗАВЯРШАЮЦЦА ДНІ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ МАЛДОВА НА БЕЛАРУСІ

Славутая Марыя Біешу, якую звязвае з Мінскам даўняя і ўзаемная сімпатыя, на сустрэчу з журналістамі не прыйшла: рэпетыцыя ў філармоніі, падрыхтоўка да ўрачыстага канцэрта. Расказвалі, што там, за кулісамі, з ёю як з роднаю віталіся ўсе: і адміністратары, і нават стары вахцёр, а Элеанора Язерская ледзь не задушыла ў абдымках... А потым сваю гарачую прыхільнасць да Боскага пеўчага таленту Марыі Біешу выказала мінская публіка.

Заўтра ўвечары публіка будзе вітаць яшчэ аднаго даўняга свайго куміра — знанага кампазітара Яўгена Догу, які на сустрэчы ў прэс-цэнтры быў і паабяцаў прадставіць у праграме свайго аўтарскага канцэрта (ён завершыць Дні) новыя сімфанічныя творы, напісаныя ім для кіно.

Дарэчы, сустрэча малдаўскай дэлегацыі з беларускімі журналістамі сама па сабе сталася досыць змястоўнай і паказальнай.

Высветлілася, што, як бы ні развіваліся палітычныя погляды, якім бы ўскладнёным ні было эканамічнае жыццё, мастацтва развіваецца па сваіх вышэйшых законах, робіць больш высакароднымі ўсіх нас, гуртуе вакол сябе людзей самых розных.

Высветлілася, што, нягледзячы на перапынак у нашых "культурных зносінах" на афіцыйным узроўні (сёлетнія Дні — першыя, наладжаныя паміж суверэннымі Беларуссю ды Малдовай), сувязь паміж дзеячамі мастацтва двух народаў ніколі не перапынялася. Фальклорныя калектывы з Малдовы прыязджалі на беларускія фестывалі. У Мінску з поспехам выступаў выдатны оперны саліст Міхаіл Мунцяну, юныя музыканты з Беларусі ўражвалі публіку на малдаўскім фэсце "Маленькі прынц", хор студэнтаў Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам нашага маэстра Віктара Роўды "забраў" галоўны прыз міжнароднага фестывалю ў Кішынёве...

Высветлілася, што нашым сябрам удалося захаваць у сваім календары цудоўную "часіну года" — фестываль з 30-гадовымі традыцыямі "Мэрцішор" і зрабіць традыцыйнай прэстыжную, высокага міжнароднага ўзроўню імпрэзу оперных ды балетных салістаў і дырыжораў — "Запрашае Марыя Біешу". Па-ранейшаму радуе свет сваім мастацтвам ансамбль народнага танца "Жок" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Курбета. А ў Музычным ліцэі гадуецца таленавітае пакаленне, якое "збірае лаўры" самых розных выканаўчых конкурсаў...

Калі ў краіне цяжка, сама прырода робіць так, каб народ праз свае таленты, праз сваю культуру "прабіваў" сябе ў жыццё, у вялікі свет, — мудра заўважыў хтосьці з нашых гасцей. Хай бы яно так і было! Бо, нягледзячы на імкненне да інтэграцыйных працэсаў у эканоміцы, народы імкнуцца захаваць сваё аблічча, адметнасць свайго мастацтва. Здаецца, і міністр культуры Малдовы Міхай Чабатару, і яго беларускі калега Аляксандр Сасноўскі пагадзіліся на тым, што ні ў якім разе немажліва будаваць нейкую "субкультуру". Трэба заставацца самімі сабой. А так званая культурная прастора — яна ж ніколі не ведала межаў і ва ўсе часы была адзінай міратворчай сілай...

**С. Б.**

---

У рамках Дзён культуры Рэспублікі Малдова ў Беларусі ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося адкрыццё выставы малдаўскіх мастакоў. З прывітальным словам выступілі міністр культуры Малдовы М. Чабатару, міністр культуры Беларусі А. Сасноўскі. З экспазіцыяй выставы гледачоў пазнаёміў малдаўскі мастак С. Кучук.



Малдаване прывезлі з сабою так званы "залаты" фонд — работы мастакоў за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў, усяго 74 работы 50 мастакоў. Тут і жывапісныя палотны класікаў — бунтара-авангардыста М. Грэку, І. В'еру, славутага сваімі распрацоўкамі нацыянальнай тэматыкі, тут і вядомыя лісты графіка Г. Урабіе. А побач з імі — маладыя, аб'яднаныя больш абстрактным накірункам, але захаваўшыя пры гэтым жыццярадасную сакавітасць малдаўскіх мастацкіх традыцый.

Малдаўскае мастацтва даўно і цесна звязана з Беларуссю. У былыя савецкія часы работы мастакоў абедзвюх рэспублік віселі ў маскоўскіх залах звычайна насупраць. Галоўны мастак тэатра імя Я. Купалы Б. Герлаван — родам з малдаўскага краю. Народны мастак Беларусі Г. Вашчанка, пражыўшы колькі год у Малдове, пакінуў у мастацтве гэтай краіны значны след, яго работы займаюць пачэснае месца ў Нацыянальным мастацкім музеі Малдовы. Таму выставу, якую прывезла малдаўская дэлегацыя, не зрабілі па ўкаранёнай апошнім часам звычцы "чамаданнай". І прадстаўлены на ёй выдатныя жывапісныя, графічныя і скульптурныя арыгіналы.

**Н. Ш.**

# ЗА КУЛЬТУРУ — СУПРОЦЬ НЕВУЦТВА, ДЗІКУНСТВА І ЦЕМРАШАЛЬСТВА

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

наш Нацыянальны Кангрэс ёсць не толькі кангрэсам у абарону Канстытуцыі — супроць дыктатуры, але і Кангрэсам у абарону культуры — супроць невуцтва, дзікунства і цемрашальства.

У мінулым годзе з дапамогай рэферэндуму ў нашага народа быў адабраны нацыянальны Дзяржаўны Сцяг, нацыянальны Дзяржаўны Герб, у беларускай мовы адабраны статус адзінай дзяржаўнай, цяпер рашылі адабраць у народа свята Дзень Незалежнасці, галоўнае нацыянальнае свята краіны, — каб нават слова Незалежнасць не гучала з высокіх трыбун, святочна і ўрачыста. Ну, што ж, калі гэты гвалт усё-такі ўчыняць і Свята незалежнасці скасуюць, нам застанецца адно: святкаваць Дзень Незалежнасці, устаноўлены яшчэ ў 1918 годзе — дзень 25-га сакавіка.

Грамадзянін Лукашэнка сам пра сябе сказаў столькі вымоўнага, што наўрад ці ільга нешта істотнае дадаць. Але хацеў бы трохі сказаць пра тых, што падтрымліваюць ягоны гібельны для дэмакратычнай Беларусі курс. Іншы раз, слухаючы іх з экрана ці чытаючы ў газеце, хочацца закрычаць: Людзі! Вы, былыя кіраўнікі рэспублікі, абласцей і гарадоў, былыя міністры і падміністры! Што з вамі сталася? Як можна так непаважаць сябе? Вы, дактары і кандыдаты гуманітарных навук! Вы ж ведаеце, якія прававыя, філасофскія, маральныя прынцыпы прыняты ў дэмакратычных краінах. Як можаце вы падводзіць навуковы базіс пад хлусню і дурноту, пад цынізм і подласць? Чаму вы абараняеце тое, што абараніць немагчыма?

На шчасце, ёсць у нас, і нямала, людзей зусім іншага гарту, і з ліку былых дзяржаўных дзеячаў, і з ліку вядомых навукоўцаў, працаўнікоў культуры і адукацыі, якіх бачу і тут, у гэтай зале, і якімі я, скажу па шчырасці, проста ганаруся, таму што гэта дастойныя мужы нашай маладой дзяржавы. Ганаруся імі і ўсімі вамі, сябры, таму што іменна з імі і з вамі я звязваю надзею, што мы выстаім і абаронім гонар нацыі.

Асабіста я, многія з вас ведаюць, быў і застаюся праціўнікам прэзідэнцкай формы кіравання наогул. Перакананы, што напрадвесні 1994-га, калі прымалася Канстытуцыя, была дапушчана ракавая памылка, пра што і казаў тады ж, калі яшчэ збіраліся ўвесці прэзідэнцтва. На жаль, мой голас, як і некаторых іншых дэпутатаў, пачуты не быў. Парламенцкая Рэспубліка Беларусь была ліквідавана, утварылі — прэзідэнцкую, ды з такімі паўнамоцтвамі ў руках прэзідэнта, што абраны на гэту пасаду чалавек адразу ж зразумеў: калі ліквідаваць або падпарадкаваць сабе ўлады Заканадаўчую і Судовую — можна стаць поўным і адзіным гаспадаром краіны. Зняўшы клятвенную руку з тэксту Канстытуцыі, гр.Лукашэнка і паставіў перад сабой такую задачу.

Празмерна амбіцыйны чалавек, узнесены збегам абставін занадта высока, прысвоіў сабе манапольнае права на ісціну, на адзіна разумнае рашэнне эканамічных, сацыяльных, палітычных і іншых праблем у краіне. А ўсе, хто мае сваю думку наконт шляхоў і спосабаў рашэння названых праблем, — гэта злачынцы і ворагі працоўнага народа: ні больш, ні менш. Усе яны не хочуць эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага ўзвышэння Беларусі. Вось такая жалезная "логіка" павінна запанаваць у канцы XX стагоддзя ў адной з краін усходняй Еўропы!

Трывогай і неспакоем за лёс дзяржавы, за будучыню народа Беларусі сёння ахоплены не толькі розныя, але нават і процілеглыя па стратэгічных мэтах палітычныя партыі, грамадскія рухі, ідэалагічныя суполкі, і ўсе яны выступаюць адзіным фронтам у абарону Канстытуцыі і дэмакратычнай, прававой дзяржавы. Здавалася б, з гэтым відочным фактам нельга не лічыцца — у вялікай палітыцы такое ігнараваць проста неразумна. На жаль, я не знаходжу падстаў спадзявацца, што чалавек на пасадзе прэзідэнта ўбачыць, наколькі складаная палітычная сітуацыя ў грамадстве, і зразумее, што ігнараваць гэтую складанасць — гэта безадказнасць, бо гэта значыць канчаткова заводзіць сітуацыю ў тупік, выйсцем з якога можа быць толькі выбух.

Перад кожным, хто мае цвярозы розум і пачуццё адказнасці за лёс Бацькаўшчыны, паўстае пытанне: дзеля чаго ўсё гэта робіцца — увесь гэты замах на Канстытуцыю, на законнасць, на Вярхоўны Савет, на Канстытуцыйны Суд? Нашто гр. Лукашэнку яшчэ большая ўлада, калі, па яго словах, яна і так у яго царская? Дзеля чаго яму патрэбны нічым не абмежаваныя паўнамоцтвы? Дзеля чаго ён хоча стаць, па ягоных жа словах, дырыжорам над усімі трыма галінамі ўлады? Прычына і мэта адна: дзеля таго, каб мець магчымасць лёгка і проста, ні ў кога не пытаючы згоды, сваім царскім указам ліквідаваць суверэнную незалежную дзяржаву Беларусь і гэтым выканаць ускладзеную на яго гістарычную місію. Кім ўскладзеную — пытанне, думаю, лішняе.

# КАЛІ І ПЕРАМОГА, ДЫК ПІРАВА...

## КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа" МІХАСЬ ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З ДЫРЭКТАРАМ ІНСТЫТУТА САЦЫЯЛОГІІ АН БЕЛАРУСІ, АКАДЭМІКАМ ЯЎГЕНАМ БАБОСАВЫМ

**М. ЗАМСКІ: Не сакрэт, што за савецкім часам улада як агню баялася галоснага сацыялагічнага зандажу грамадскай думкі...**

Я. БАБОСАЎ: Пры Сталіне сацыялогія, як генетыка і кібернетыка, была аб'яўлена буржуазнай ілжэнавукай.

**— Пасля смерці тырана яе, здаецца, так ужо не называлі. Сацыялагічнымі службамі абзаваліся розныя органы партыйнай і дзяржаўнай улады, не кажучы ўжо пра КДБ. Не так даўно ў "Известиях" былі апублікаваны знойдзеныя ў архівах ЦК КПСС некалькі запісак старшыні КДБ СССР Юрыя Андропава, адрасаваных Палітбюро ЦК. У тых запісках, датаваных 1981 годам пад грыфам "Сакрэтна", да ведама кіраўніцтва краіны даводзіліся агентурныя дадзеныя аб настроях насельніцтва дзвюх абласцей — Варонежскай і Арлоўскай, жыхары якіх, па данясенні агентаў, выказвалі незадавальненне пустымі паліцамі ў магазінах, нізкай зарплатай і да т. п. Таксама свайго роду сацыялагічнае даследаванне...**

— Трымаліся ў вялікім сакрэце вынікі амаль усіх сацыялагічных апытанняў грамадзян. Згадаю такі выпадак. У 1981 годзе, я тады працаваў у Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук, мы правялі вывучэнне становішча з рабочай сілай у рэспубліцы. Былі апытаны сотні людзей, і перад намі, сацыёлагамі, паўстала досыць змрочная карціна. Не буду зараз дэталізаваць яе, скажу толькі, што асабліва непрыемна ўразіла незайздросная доля жанчын, тысячы і тысячы якіх выкарыстоўваліся на самай цяжкай фізічнай працы, чаго не было ні ў адной цывілізаванай краіне свету.

Вынікі гэтага даследавання былі сумíраваны і абагулены ў досыць аб'ёмным двухтомніку, рукапіс якога я, паводле існуючых тады правілаў, панёс для азнаямлення сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі, выклаўшы пры гэтым нашу просьбу выдаць даследаванне хоць бы ў колькасці 100—150 экземпляраў — па колькасці існуючых тады ў рэспубліцы раёнаў, каб кожная раённая ўлада магла мець гэтую працу. "Ніякіх 150 экземпляраў", — сказаў мне сакратар. — Тыраж будзе такі — загінай пальцы: адзін экземпляр першаму сакратару ЦК КПБ, адзін — у ідэалагічны аддзел ЦК, адзін — Саўміну, адзін — віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук СССР Федасееву (ён курыраваў у акадэміі грамадска-палітычныя навукі), адзін — прэзідэнту АН БССР і адзін — табе. Усяго — сем. Будзе больш, скажы, хто будзе насіць табе перадачы..." Апошняе было сказана, вядома, жартам, але ў кожным жарце...

За таталітарным рэжымам баяліся сацыялагічных даследаванняў, бо яны ўскрывалі балячкі ў грамадстве. А пра балячкі не прынята было гаварыць.

**— Як толькі Гарбачоў дазволіў уголас гаварыць пра іх, так сістэма адразу і рассыпалася...**

— Ды і сёння сацыёлагаў "наверсе" не вельмі любяць. Два гады назад і над нашым інстытутам згусціліся хмары — у кіраўніцтва акадэміі "ўзнікла" думка аб'яднаць наш інстытут яшчэ з нейкай навуковай установай, а калі папраўдзе — прыкрыць нас.

**— Тым не менш, інстытут ваш, дзякуй Богу, застаўся. Але ў вас, здаецца, нямала канкурэнтаў. Група сацыёлагаў працуе ў Белдзяржуніверсітэце, у Беларускім Цэнтры стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад", працуюць сацыёлагі ў адміністрацыі прэзідэнта і г. д.**

— Я ніколі не лічыў іх канкурэнтамі. Ды і ўвогуле манаполіі ў гэтай справе не павінна быць. Аўтарытэт любой сацыялагічнай службы залежыць ад яе здольнасці прагназаваць сітуацыю на падставе строга навуковага падыходу да прадмета вывучэння, незалежна ад таго, ідзе гаворка пра спажыванне алкаголю ці пра рэферэндум. Як толькі сацыёлаг у сваёй прафесійнай дзейнасці пачынае кіравацца формулай "чаго пажадаеце", лічыце, што песенька яго спетая, усякі давер да сябе ён згубіць.

**— Ой, не кажыце, Яўген Міхайлавіч! Два з нечым гады назад у час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў прэсе часта з'яўлялася прозвішча сацыёлага, доктара навук І. Катлярова, які на падставе сваіх даследаванняў прадвызначаў немінучую перамогу Кебічу, прытым з вялікім адрывам ад іншых канкурэнтаў.**

— Так, сапраўды, тады, паводле дадзеных І. Катлярова, Кебічу аддавалі перавагу 51 працэнт выбаршчыкаў, а Лукашэнку — 17 працэнтаў. Выбары ж засведчылі абсалютна процілеглую карціну.

**— Тым не менш, гэткі "прагноз" ніяк не адбіўся на кар'еры спадара Катлярова. Наколькі я ведаю, зараз ён узначальвае Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў, які "працуе" на адміністрацыю прэзідэнта. Да таго ж, як вядома, Ігар Васільевіч стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, з'яўляецца старшынёй адной з парламенцкіх камісій.**

— "Каваў" перамогу Кебічу на прэзідэнцкіх выбарах і папярэднік Катлярова на пасадзе дырэктара згаданага вышэй інстытута Іван Іванавіч Антановіч, які атрымаў гэты інстытут пасля прыезду з Масквы, дзе працаваў сакратаром у палазкоўскім ЦК КПРФ. Цяпер ён, як вы ведаеце, намеснік міністра замежных спраў Беларусі і карыстаецца вялікім даверам прэзідэнта. Адным словам, што і казаць, пути господни неисповедимы...

Дарэчы, Катляроў ужо не дырэктар... Але вернемся да нашага інстытута. Магістральны напрамак у яго дзейнасці — вывучэнне розных аспектаў сацыялогіі асобы і сацыяльнай структуры грамадства, якая за апошнія гады ў нас істотна змянілася. Калі раней лічылася, што савецкае грамадства складаецца з трох галоўных кампанентаў — рабочага класа, калгаснага сялянства і праслойкі працоўнай інтэлігенцыі, дык сёння, пры ўсёй нібыта захаванасці гэтых структур, нельга не заўважыць іх неакрэсленасці, размытасці, што з'яўляецца вынікам з'яўлення новых сацыяльных груп — менеджэраў, прадпрымальнікаў, фермераў, рэкеціраў, прастытутак і да т. п.

**— Вы ставіце ў адзін рад прадпрымальнікаў і прастытутак?**

— А якая паміж імі розніца? Адны гандлююць чужым таварам, а другія сваім целам...

**— Дзіўна сёння чуць такія вызначэнні. Гэта нейкі вульгарны марксізм... Дарэчы, калі гаварыць пра тых, хто гандлюе "чужым" таварам, дык, зрэшты, эканамічная магутнасць такіх краін, як Вялікабрытанія, пачыналася з накаплення менавіта гандлёвага капіталу.**

— Давайце не будзем паглыбляцца ў гэтыя матэрыі... Яшчэ адзін сацыяльны пласт насельніцтва, пра які я не згадаў — беспрацоўныя, колькасць якіх, па афіцыйных звестках, складае ў нас 3,6 працэнта ад усёй рабочай сілы. Але калі ўлічыць схаванае беспрацоўе, тых людзей, якія заняты на вытворчасці не поўны працоўны тыдзень або адпраўляюцца ў неаплачваемы адпачынак, дык згаданы паказчык можна смела памножыць на пяць. Усё гэта людзі, якія сядзяць на шыі ў грамадства.

**— Зауважым, не па сваёй віне. Але ж, Яўген Міхайлавіч, беспрацоўе існуе ва ўсім свеце, у тым ліку і ў самых эканамічна развітых краінах. Нават лічыцца, што наяўнасць беспрацоўных стымулюе вытворчасць працы. Людзі, якія чакаюць ля варотаў фабрыкі, фактычна прымушаюць тых, хто стаіць ля станкоў, працаваць лепей, каб не страціць месца.**

— У нас гэты фактар не дзейнічае. Хоць бы ўжо па той прычыне, што мала хто ў нас трымаецца за тую ж рабочую прафесію, бо аплачваецца яна мізэрна. Пры кожным зручным выпадку чалавек пакідае заводскі цэх і ідзе гандляваць у кіёск, дзе зарабляе ў дзесяць разоў болей. Наогул, у нас наглядаецца трывожная тэндэнцыя люмпенізацыі грамадства. Пра што ж інакш можна гаварыць, калі дыпламаваныя ўрачы, інжынеры, настаўнікі ідуць працаваць у "камкі", пачынаючы займацца бізнесам і да т. п.

**— Вы іх лічыце люмпенамі? Люмпен, па марксісцкім веравучэнні, дэкласаваны элемент. Як раней пісалася ў тлумачальных слоўніках? "Люмпен-пралетарыят — у капіталістычным грамадстве дэкласаваны пласт людзей, што страцілі сувязь з вытворчасцю — злачынцы, басякі, бадзягі, жабракі і да т. п." Дарэчы, кіраўнік адной з самых магутных у Расіі банкаўска-фінансавых груп "Мост" Гусінскі ў свой час заканчваў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва па спецыяльнасці тэатральны рэжысёр. Няўжо і яго сёння можна аднесці да люмпенаў, як згаданых вамі ўрачоў і інжынераў, што падаліся ў бізнес?**

— Не трэба спрашчаць. І ўсё-такі, грамадства, у якім чалавек, які шэсць гадоў вывучаў у інстытуце медыцыну, а цяпер сядзіць у ларку і прадае снікерсы з памперсамі, — нездаровае. Але сацыёлаг не павінен даваць ацэнак таму, што адбываецца ў грамадстве. Яго задача — высветліць, выявіць, прааналізаваць дынаміку тых або іншых з'яў жыцця.

**— Але, хоць мы і называем сёння наша грамадства постсавецкім, асаблівых структурных змен у ім у параўнанні з папярэдняй грамадскай фармацыяй не адбылося. Ва ўсякім разе не як пасля Кастрычніка семнаццатага, калі "хто быў нікім", стаў "усім", і наадварот.**

— З гэтым можна пагадзіцца, хоць сякія-такія змены і адбыліся. Хто, да прыкладу, у савецкі час быў гаспадаром жыцця? Вядома, той, хто належаў да партдзяржнаменклатуры. Чым вышэйшую прыступку на іерархічнай лесвіцы ён займаў, тым большую ўладу меў і адпаведна тым большы дабрабыт — кватэра ў элітным доме, карыстанне спецыяльным медыцынскім абслугоўваннем, лепшымі санаторыямі і да т. п.

**— Дык і цяпер тое самае...**

— Так, і цяпер жывецца няблага тым, хто знаходзіцца бліжэй да палітычнага алімпу. Але найбольш багатымі сталі людзі, якім удалося захапіць частку былой агульнанароднай уласнасці.

**— Да вызначэння "агульнанароднай" я б далучыў дадатак "так званай". Бо нічым наш народ не валодаў. Гэта толькі ў песні спявалася: "І ўсё вакол калгаснае, і ўсё вакол маё". Усё "вакол" было дзяржаўным, а хто абсалютна бескантрольна распараджаўся дзяржаваю, мы ведаем... Дык хто ж ўсё такі ўсё гэта захапіў?**

— Захапілі прадпрымальнікі, банкіры, дзялкі ценявой эканомікі, цесна звязаныя са злачынным светам, і да т. п.

**— Сярод самых "крутых" дзялкоў называюць і прозвішчы некаторых былых буйных партыйных і дзяржаўных дзеячаў.**

— Так, па маіх звестках, сярод дзесяці самых багатых людзей краіны, шасцёра тых, каго сёння завуць "новымі беларусамі", астатнія — прадстаўнікі былой партдзяржнаменклатуры.

**— Яны няблага ведалі, дзе што ляжыць...**

— Магчыма. Так звычайна і адбываецца ў грамадстве, дзе праходзіць змена палітычных фармацый.

**— Такі "кактэйль"...**

— Аналіз такога, як вы кажаце, "кактэйлю" неабходны нам, сацыёлагам, для вызначэння рэйтынгаў розных сацыяльных і палітычных груп у грамадстве ў час выбараў, рэферэндумаў і іншых мерапрыемстваў, звязаных з волевыяўленнем грамадзян.

**— І да якіх высноў вы прыйшлі перад ініцыяваным прэзідэнтам усенародным рэферэндумам?**

— Усё досыць складана і неадназначна. Цікава, што зараз назіраецца збліжэнне палітычных пазіцый самых багатых людзей (2-3 працэнты ад агульнай колькасці насельніцтва) і самых бедных (17 працэнтаў). Збліжэнне на глебе рэзкай апазіцыі прэзідэнцкай уладзе. Першых не задавальняе цяжкі падаткавы прэс, які стрымлівае прыватную ініцыятыву, другіх — нізкія тэмпы эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы і адсюль адпаведны жыццёвы ўзровень. Адным словам, гэтыя 20 працэнтаў (3+17) складаюць сёння ці не самую апазіцыйную ў адносінах да прэзідэнта частку грамадства.

Найбольшую ж падтрымку, па нашых звестках, прэзідэнт мае ў людзей сярэдняга дастатку, ветэранаў вайны і значнай часткі пенсіянераў (у першую чаргу — вясковых).

**— Як вы прагназуеце ўдзел насельніцтва ў ініцыяваным А. Лукашэнкам рэферэндуме?**

— Мы вывучалі гэтае пытанне на прыкладах Магілёўскай вобласці і горада Мінска. У Магілёўскай вобласці — на сваёй радзіме — прэзідэнт, як вядома, мае досыць адчувальную падтрымку. У Мінску ж, наадварот, дае сябе адчуваць апазіцыя прэзідэнцкай уладзе.

Цяпер наконт удзелу людзей у рэферэндуме. Па Магілёўскай вобласці, па нашых апытаннях, у ім прыме ўдзел 73 працэнты дарослага насельніцтва, у Мінску — 78 працэнтаў. Такім чынам, рэферэндум адбудзецца.

**— Асноўнае пытанне рэферэндуму, дзеля чаго і задумвалася ўсё гэтае мерапрыемства — праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, які дае фактычна неабмежаваныя правы і паўнамоцтвы прэзідэнту. Які тут расклад думак?**

— Па Мінску на пытанне "Як вы адносіцеся да новага праекта Канстытуцыі?" станоўчыя адносіны засведчылі 32,6 працэнта апытаных, хутчэй станоўчыя — 18,7 працэнта. Разам — 51,8 працэнтаў. Адмоўна ставяцца 31 працэнт апытаных. Па Магілёўскай вобласці новая рэдакцыя Канстытуцыі спадабалася значна большай колькасці рэспандэнтаў.

**— Ёсць такое паняцце, як маніпуляцыя грамадскай думкай. З атрыманых вамі вынікаў апытання атрымліваецца, што больш паловы людзей ставіцца да новай рэдакцыі Канстытуцыі станоўча. Няўжо людзі (тая ж даярка з фермы, ці рабочы з Магілёўскага завода хімічных валокнаў) так добра вывучылі такі складанейшы палітыка-прававы дакумент, якім з'яўляецца Канстытуцыя? У ім жа цяжка арыентавацца нават вопытнаму юрысту-правазнаўцу. Ці не здзек гэта, Яўген Міхайлавіч, са здаровага сэнсу? І яшчэ. Як вядома, дзеючая ў краіне Канстытуцыя прымалася ў Вярхоўным Савеце паартыкульна, пасля працяглых прынцыповых спрэчак. Тут жа, на рэферэндуме, фактычна новую Канстытуцыю хочуць, кажучы па-руску, "всучить" народу агулам. Хіба можна выказаць свае адносіны да ўсіх разам артыкулаў Асноўнага закона адным "за" ці "супраць"?**

— Пры сацыялагічным апытанні мы імкнуліся высветліць думку рэспандэнтаў і адносна асобных палажэнняў новай рэдакцыі Канстытуцыі. Да прыкладу, іх стаўленне да прадугледжанага ёю пераўтварэння аднапалатнага Вярхоўнага Савета ў двухпалатны Нацыянальны сход з верхняй палатай — Сенатам, трэцюю частку членаў якога будзе прызначаць сам прэзідэнт. Дык вось, у апытальным лістку было сфармулявана такое пытанне: "Якім павінен быць парламент Беларусі — аднапалатным, як сёння, ці двухпалатным?" За аднапалатны выказаліся 27,5 працэнты рэспандэнтаў, за двухпалатны — 21 працэнт, 22 працэнта адказалі, што ім усё роўна, 28 — не ведаюць адказу.

**— Тым не менш, гэта зусім не выключае, што тыя, якім усё роўна, і тыя, што прызналіся, што не разбіраюцца ў гэтай справе, — прагаласуюць за новую Канстытуцыю. Тут дзейнічаюць іншыя фактары. Здаецца, у "Свабодзе" было змешчана пісьмо студэнткі Белдзяржуніверсітэта, у якім расказвалася, як вядзецца апрацоўка студэнтаў, каб яны "аднадушна" прагаласавалі за пытанні рэферэндуму. А што казаць пра нейкую вясковую непісьменную бабулю, якой брыгадзір загадае адказаць станоўча на ўсе пытанні, што будуць у лістку? Што яна, не паслухаецца яго?**

**Кажуць, Яўген Міхайлавіч, якое пытанне — такі і адказ. Зрэшты, многае залежыць і ад самой фармулёўкі пытання. Вось калі б вы маглі спытаць: ці хацелі б людзі, каб на чале краіны стаяў чалавек з неабмежаванай уладай?**

— Уявіце сабе, што такое пытанне мы задавалі. Нават сфармуляванае яшчэ больш жорстка: "Ці патрэбна ў краіне "жалезная рука"? І, што ж... 17 працэнтаў апытаных згодныя на такую форму праўлення.

**— Гэта значыць, на дыктатуру адной асобы?**

— Так, за тое, каб мець свайго фюрэра.

**— Як людзі ставяцца да эканамічнай палітыкі прэзідэнта?**

— На той жа Магілёўшчыне падтрымліваюць яе 38 працэнтаў, часткова падтрымліваюць — 48,6 працэнта, зусім не падтрымліваюць — 12,4 працэнта. Што да палітычнага курсу А. Лукашэнкі, дык тут за поўную падтрымку яго выказваюцца 42,6 працэнта, частковую падтрымку — 44,6, не падтрымліваюць — 11 працэнтаў. Гэта, падкрэсліваю, на Магілёўшчыне.

**— Па вашых дадзеных, недзе 70-75 працэнтаў насельніцтва мае намер прыняць удзел у рэферэндуме. Яны што, ускладаюць на яго нейкія надзеі, спадзяюцца, што пасля гэтага мерапрыемства стане жыць лепей?**

— На пытанне "Як паўплывае рэферэндум на эканамічнае становішча ў краіне" 42,6 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што ніяк не паўплывае, 17,8 — што адбудзецца станоўча,

*(Працяг на стар. 12)*

## КРЫХУ ВЯСЁЛАЯ, КРЫХУ СУР'ЁЗНАЯ

**А менавіта такой задумана "Дзіцячая газета", першы нумар якой нядаўна прыйшоў да чытача. А што яна і на самай справе будзе і вясёлай, і сур'ёзнай, лёгка пераканацца, пазнаёміўшыся з матэрыяламі першага нумара. Змешчана нямала цікавых, дасціпных твораў, сярод якіх і займальныя вершы Галіны Багданавай "Блыта-блыта", шмат малюнкаў — і звычайныя ілюстрацыі, і малюнкі-расфарбоўкі, і пачатак серыяла "Самы маленькі гном", разлічанага на некалькі нумароў. А яшчэ рэдакцыя аб'явіла конкурс дзіцячага малюнка "Восень", пераможцы якога атрымаюць... салодкія прызы. Аб гэтым парупіцца спонсар конкурсу — гандлёвае аб'яднанне "Прадсервіс".**

**"Дзіцячая газета" — газета яшчэ і сямейная. І не толькі таму, што яе можна чытаць усёй сям'ёй, сабраўшыся вечарам за чаем... Будуць друкавацца розныя парады і рэцэпты пад рубрыкай "Гаспадынька", і прыкметы надвор'я...**

## КАРТА — КАЛЯНДАР — ПАДРУЧНІК

**У музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя плакатаў-календароў "Старажытная Беларусь" і "Уладары старажытнай Беларусі". Карту часоў Вітаўта Вялікага распрацавалі старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы і сябра клуба Ігар Курыцын. Намаляваў — Алесь Цыркуноў. Карта адметная тым, што на ёй пададзена летапісная Літва, якая знаходзілася паміж Навагрудкам і Заслаўем, Слонімам і Лідай. На плакаце пададзена таксама і этнаграфічная карта (паводле Карскага), і паказана тая тэрыторыя, якая належала Вялікаму княству Літоўскаму — ад мора Балтыйскага да мора Чорнага, ад вусця Віслы да Вязьмы, Ржэва, Бранска, Курска, Белгарада. На карце пададзены ўсе бітвы, якія прынеслі славу беларускім палкам, а таксама бітвы, дзе ўдзельнічалі беларусы. Пададзены гербы ўсіх знакамітых радоў беларускай шляхты. На другім баку карты — уладары старажытнай Беларусі — трыццаць восем князёў, пачынаючы ад Рагнеды і Рагвалода да апошняга князя ВКЛ Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Усе 38 партрэтаў намаляваў мастак Анатоль Крывенка. Камп'ютэрны дызайн зроблены мастаком Зміцерам Герасімовічам. З уступным словам на прэзентацыі плакатаў-календароў выступіў Анатоль Белы. Пра тую ролю, якую павінны адыграць у нашым жыцці гэтыя плакаты, падзяліліся з прысутнымі сваімі думкамі Мікола Ермаловіч і Леанід Лыч.**

**Адначасова ў музеі адбылася прэзентацыя кнігі вядомага гісторыка Георгія Штыхава "Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі" (падручнік па гісторыі для шостага класа). Аўтар падручніка расказаў, якія цяжкасці яму давялося пераадолець, каб адстаяць тую канцэпцыю дзяржаўнасці Беларусі, на якой афіцыйна стаіць Інстытут гісторыі АН Беларусі. Трэба адзначыць, калі ў першым падручніку гісторыі пад рэдакцыяй Абэцэдарскага не было ніводнага прозвішча князёў Беларускай дзяржавы, то цяпер мы маем не толькі іх прозвішчы, але і каляровыя выявы, якія дапамогуць нашым дзецям у вывучэнні гісторыі роднай зямлі.**

## МОЖНА ПАДПІСАЦЦА

**З 1 студзеня 1997 года выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачынае выпуск у свет Збораў твораў народных пісьменнікаў Беларусі, чыя творчасць стала гонарам роднай літаратуры і ўключана ў школьныя праграмы. У кнігарнях "Белкнігі", "Белдруку" і "Белспажыўсаюза", якія займаюцца распаўсюджваннем твораў беларускай літаратуры, вы можаце падпісацца на:**

**9-томны Збор твораў Янкі Купалы;**

**2-томны (руская мова) Збор твораў Максіма Танка;**

**1-томны (руская мова) Збор твораў Максіма Гарэцкага;**

**6-томны Збор твораў Кандрата Крапівы,**

**а таксама на першыя тамы Збораў твораў Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Івана Чыгрынава.**

**Знаёмства з набыткамі айчыннай літаратуры, з творчасцю яе майстроў, якія дастойна прадстаўляюць гонар Бацькаўшчыны, дасць усім аматарам роднага слова шчаслівую магчымасць дакрануцца да духоўнай скарбніцы народа.**

**Чакаем вашых заказаў!**

*Выдавецтва "Мастацкая літаратура"*

*тэл. 223-58-09;*

*факс: 226-91-12.*

Сярод кніг

***Кніга Уладзіміра Гніламёдава "Янка Купала: Новы погляд", выпушчаная выдавецтвам "Народная асвета", не прайшла не заўважанай. Па-першае, яна прыйшлася даспадобы многім выкладчыкам беларускай літаратуры — Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь якраз і рэкамендуе яе ў якасці дапаможніка для настаўніка. Звярнуў на яе ўвагу і так званы масавы чытач, усе тыя, хто любіць паэзію і найперш творчасць аднаго з самых выдатных нацыянальных паэтаў. Нарэшце, пра гэта паведамлялася ўжо, даследаванне У. Гніламёдава адзначана Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка, якую, дарэчы, Саюз беларускіх пісьменнікаў сёлета прысудзіў упершыню. Тым больш ёсць падставы, каб пагаварыць пра гэтую працу слыннага крытыка і літаратуразнаўцы, што, несумненна, на сённяшні дзень успрымаецца і на самай справе новым, прытым вельмі аб'ектыўным поглядам на ролю, месца і значэнне Я. Купалы ў беларускай літаратуры, а яшчэ надзіва ўважлівым стаўленнем да тых момантаў і бакоў у яго творчасці, якія доўгі час па розных прычынах замоўчваліся ці падаваліся (а прычыны таксама знаходзіліся розныя) у скажоным выглядзе ці падглянцоўваліся ва ўгоду ідэалагічным меркаванням.***

# ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ ЯНКУ КУПАЛУ

Паколькі, як ужо гаварылася, кніга пазначана як вучэбна-метадычны дапаможнік, аўтар яе прытрымліваецца храналічнага прынцыпу падачы матэрыялу, згадвае і асноўныя моманты жыцця песняра, пачынаючы ад нараджэння і завяршаючы трагічнай развязкай, што, як вядома, адбылася ўлетку сорак другога ў Маскве. Праўда, пры гэтым не прытрымліваецца пэўнай версіі наконт смерці паэта, а абмяжоўваецца такой канстатацыяй: "Апошні акт жыццёвай драмы вялікага беларускага нацыянальнага паэта да гэтага часу пакрыты таямніцай. Ёсць небяздоказныя меркаванні, што Купала памёр не сваёй смерцю, што яго ўсё ж такі наздагнала няўмольная сталінская "ласка" і сістэма жорстка расправілася з варожым ёй "элементам". Такі падыход, думаецца, апраўданы, паколькі задачы спрачацца з кімсьці ці прымаць пэўны пункт погляду — У. Гніламёдаў перад сабой не ставіў ды і калі б і паспрабаваў зрабіць гэта, то відочным стала б парушэнне кампазіцыйнай стройнасці кнігі. Для лепшага ж засваення матэрыялаў у канцы тлумачацца некаторыя паняцці і імёны, якія сустракаюцца ў працы, што таксама будзе карысным і для настаўнікаў, і для вучняў ды і для кожнага, хто возьме кнігу ў рукі.

Аднак пра само перачытванне Я. Купалы, пра той новы погляд, які і дэкляруе аўтар... Што У. Гніламёдаў смела адыходзіць ад хрэстаматыйнага ўяўлення пра творчасць народнага песняра, відаць ці не з першых старонак. Прынамсі, не забывае нагадаць, што "ў пачатковы, "жалейкаўскі" перыяд малады Купала актыўна звяртаецца як да вершаў, так і да жанру паэмы". А згадваючы паэмы "У піліпаўку", "За што?", "Зімою", акцэнтуе ўвагу на момантах, якія дагэтуль асобнымі даследчыкамі не прымаліся пад увагу, паколькі ў нечым разбуралі схему, у якую яны вымушаны былі падганяць творчасць Я. Купалы: "У ранніх паэмах Купалу — як гэта ўласціва рамантыкам — цікавяць пытанні чалавечага лёсу. Ён гатовы прыйсці да высновы, што светам кіруе нейкая злая воля. Героі гэтых твораў у большасці сваёй выступаюць як ахвяры "сусветнага зла". Звычайны чалавек, апынуўшыся ў арбіце "сусветнага зла", падпарадкоўваецца антыгуманным законам асяроддзя, грамадства, самой прыроды, спалучаецца з варожым для яго светам, страчвае "натуральнасць", набывае якасці, якія робяць яго часцінкай, механізмам "сусветнага" зла".

Але, што заўважаецца адразу, асноўная мэта даследчыка падпарадкавана таму, каб як мага больш пераканаўча, даходліва і разам з тым аргументавана давесці думку, што Я. Купала, пачынаючы з ранніх сваіх твораў, пісаў з думкай і клопатам пра Айчыну свабодную, незалежную. Да "ідэі нацыянальнага вызвалення Беларусі" ён узнімаўся ўжо ў зборніку "Жалейка", "а таксама ў іншых творах гэтага перыяду, якія ў зборнік не ўвайшлі". Паэзія Я. Купалы, пра што не прамінае сказаць У. Гніламёдаў, "з самага пачатку набыла апазіцыйны характар у адносінах да існуючага ладу". Пясняр заклікаў да барацьбы. І тым самым дзейнічаў у рэчышчы свайго часу: "Сёння знаходзяцца людзі, гатовыя папракнуць яго заклікам да насілля, але гэта ідэя тады проста насілася ў паветры".

Уладзімір Гніламёдаў, канечне ж, разглядае творчасць Я. Купалы ў кантэксце часу, у якім ён жыў, але, разумеючы, што падобныя тытаны духу ў многім свой час апярэджваюць, як заззвычай, робіць падагульненні і высновы, што і дазваляюць адчуць і ўбачыць празорлівасць творцы, яго магчымасць і ўменне жыць не аднымі задачамі дня, хоць і гэта само па сабе не можа не заслугоўваць увагі, а і ўзірацца ў новыя далягляды, якія пакуль у нечым і мройныя, тым не менш абрысы іх ужо не могуць не вымалёўвацца. У нечым і афарыстычным успрымаецца такое падагульненне даследчыка: "Купала... не выбіраў паміж хлебам і свабодай, а патрабаваў таго і другога разам, бо ведаў, калі аддасі перавагу хлебу, то не будзеш мець ні хлеба, ні свабоды. Спалучэнне сацыяльнага падыходу з нацыянальным, духоўна-прававым прадухіляла небяспечную аднабаковасць грамадскіх ідэалаў і памкненняў".

Асаблівую ўвагу У. Гніламёдаў удзяліў тым творам Я. Купалы, якія доўгі час сучаснаму чытачу былі амаль невядомы ды і даследчыкамі "забываліся". Напрыклад, паэма "На куццю". Як не пагадзіцца з такой ацэнкай гэтага твора — "Прадметна-рэалістычнае напаўненне паэмы зведзена да мінімуму. Абмеркаванне нацыянальнай праблемы адбываецца на такіх вышынях духу, на якія ўваход усяму матэрыяльнаму забаронены. Умоўныя сродкі выразнасці атрымліваюць тут паэтычнае, філасофскае і драматычнае абгрунтаванне". І яшчэ, як на маю думку, дык асабліва правільна гэта: "Устанаўленне духоўнага кантакту са старой літвінскай спадчынай азначала для Купалы вырашэнне праблем нацыянальнай ідэнтыфікацыі, атрыманне адказу на пытанне "Хто?"

І сапраўды, падобнае пытанне нязменна (няхай і не напрамую, а падтэкстава) прысутнічае ва ўсёй мастакоўскай спадчыне народнага песняра. І не ў апошнюю, а хутчэй за ўсё ў першую чаргу ў творах, што на многія дзесяцігоддзі знаходзіліся ў запасніках. Паэма "На куццю" з такога шэрагу. На жаль, абмежаваны памер даследавання не дазволіў У. Гніламёдаву шырока паразважаць пра несумненныя вартасці гэтага твора. Нешта падобнае адбываецца і крыху далей, калі даследчык пільна прыглядаецца да драмы "Тутэйшыя". Чытачу пайшло б толькі на карысць, калі б ён меў магчымасць больш дэталёва абгрунтаваць свае правільныя і актуальныя меркаванні.

Ды не будзем пра тое, што б у кнізе магло быць, а лепей удакладнім яшчэ колькі момантаў, якія акурат і пераконваюць, наколькі У. Гніламёдаў зірнуў на Я. Купалу па-новаму. Несумненна, заслугоўвае ўхвалы яго аб'ектыўнае стаўленне да падзей трыццатых гадоў. Канечне ж, і настаўнікам, і вучням будзе не лішне ведаць, што трагедыя напаткала не толькі самога Я. Купалу, а і блізкіх яму людзей. Не паспеў пясняр вярнуцца ў Мінск з Масквы, дзе праходзілі ўрачыстасці ў сувязі з 25-годдзем яго літаратурнай дзейнасці, "як слых апаліла нечаканая вестка: пад раскулачванне трапілі маці Бянігда Іванаўна і сястра Леакадзія, якія жылі ў Акопах. Пасля адпаведных захадаў цягнік з раскулачанымі, які вёз іх у Котлас, удалося дагнаць у Барысаве, маці і сястра былі вызвалены, але, як аказалася, гэты крайне прыкры, абуральны выпадак не з'яўляўся выпадковым. Хмары навісалі над галавой самога паэта".

Пасля ўсяго, а яшчэ больш пасля таго, як у роспачы спрабаваў пакончыць жыццё самагубствам, Я. Купала канечне ж быў канчаткова надломлены духоўна, а ў выніку (пра што і гаворыць аўтар кнігі) у яго пачалі з'яўляцца рытарычныя вершы, што пісаліся толькі на патрэбу дня. Своеасаблівы "сацыяльны заказ" Я. Купала выконваў і падчас напісання добра вядомай паэмы "Над ракою Арэсай". У гэтым "своеасаблівым лірычным рэпартажы", як слушна сцвярджае даследчык, знайшлі адлюстраванне "шмат у чым утапічна-ілюзорныя погляды на навакольную рэчаіснасць", хоць "паэма вырасла з рэальных фактаў" стварэння сельскагаспадарчай камуны ў адным з глухіх куткоў Беларускага Палесся".

І яшчэ нельга не сказаць, што У. Гніламёдаў першы так па-новаму глыбока прачытвае знакаміты "ляўкоўскі цыкл", які да нядаўняга часу лічыўся вяршыняй лірыкі Я. Купалы 30-х гадоў. Да гонару даследчыка, ён праяўляе пры гэтым здзіўляючую тактоўнасць, не кідаецца ў крайнасці, як гэта, на жаль, часам назіраецца з боку крытыкаў, калі робяцца спробы пераасэнсаваць творы, напісаныя ў гэты перыяд. У. Гніламёдаў, шукаючы ісціну, здатны зразумець тагачасны стан песняра, які, з аднаго боку, пісаў тое, чаго патрабавалі ад яго ўлады, але разам з тым не мог не вітаць чалавека працы, не мог не паэтызаваць людзей, з кім неаднойчы сустракаўся: "Купалу — аўтару "ляўкоўскага цыкла" вершаў — нельга адмовіць у высакароднасці і патрыятызме, што выявілася ў славутым вершы "Лён", які ўвасобіў у сабе істотныя рысы беларускага народнага характару — прыгажосць душы, працавітасць, добразычлівасць, адданасць у каханні". Разумеючы, што ў яго могуць знайсціся апаненты, даследчык тут жа ўдакладняе думку: "Можна, вядома, папракнуць аўтара ў недахопе праўды жыцця, і гэты папрок будзе ў многім справядлівым, аднак варта ўлічваць і традыцыйную своеасаблівасць паэтыкі гэтага мастака, уласцівую яго стылю сказавасць, схільнасць да рамантычна-ідэалізаванага бачання свету".

У раздзеле ж "Замест заключэння" аўтар кнігі акцэнтуе ўвагу на тым, як сучасная беларуская літаратура наследуе купалаўскія традыцыі. Не абышлося і без звычайнага ў падобным выпадку пераліку прозвішчаў, але знайшлося месца (што, вядома, радуе) і трапным назіранням, якія дазваляюць адчуць, наколькі відочная прысутнасць Я. Купалы ў сённяшняй нацыянальнай паэзіі.

Апошнюю старонку кнігі закрываеш не толькі з удзячнасцю аўтару за глыбокую і аргументаваную гаворку пра Я. Купалу і яго творчасць, а і са спадзяваннем, што ў перспектыве з'явяцца чарговыя працы, у якіх гэтаксама па-новаму будзе пераасэнсоўвацца тое, што навечна прапісалася ў нацыянальнай літаратуры. Я. Купала падобнага стаўлення да сябе заслугоўвае.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*ЛІСТ З ПАРЫЖА*

# АД ВАНДРОЎНАГА РЫЦАРА ДА ДЭТЭКТЫВА

***У рамках святкавання 170-й гадавіны са дня свайго заснавання французская газета "Фігаро" друкуе серыю публіцыстычных артыкулаў, якія некалі былі напісаны для гэтай газеты вядомымі пісьменнікамі і крытыкамі. Прапаную чытачам "ЛіМа" артыкул Поля Марана "Ад вандроўнага рыцара да дэтэктыва", змешчаны ў газеце "Фігаро" 14 студзеня 1935 года.***

**ПЕРАКЛАДЧЫК.**

На з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, які нядаўна адбыўся ў Маскве, Максім Горкі прачытаў даклад на тэму "Паліцэйскі раман". У ім гаворыцца, што "буржуазная літаратура ўзнікла, каб заняць месца рыцарскага рамана. Але яе героі — жулікі, злодзеі, забойцы і агенты паліцыі..." Відавочна, Горкі блытае, дзеля мэт сваёй справы, звычайны раман з паліцэйскім раманам, Бальзака з Габрыё і Мерэдыта з Эдгарам Валасам. "...Буржуазія, — кажа ён далей, — у захапленні ад злодзеяў.., паліцэйскі раман, духоўная ежа закормленых жыхароў Еўропы, трапляючы ў напаўгалоднае рабочае асяроддзе, быў і застаецца адной з прычын росту класавай свядомасці. Ён надае прывабнасць крадзяжу, які выдаецца яго прыхільнікамі за барацьбу супраць буржуазнай уласнасці".

Вось у гэтым і хаваецца павучальны педантызм дыктатур, а таксама нястомнае жаданне прыпісваць мастацтву утылітарныя мэты, якія нам выдаюцца Саветамі за нешта новае, хоць у нас яны пакрыліся пылам амаль за стагоддзе, пачынаючы ад Дзідро і канчаючы Прудонам, і сваёй недарэчнасцю могуць сапсаваць варты ўвагі крытычны твор. Але, тым не менш, ёсць месца, дзе я пагаджаюся з Горкім. Год назад я пісаў у адным з артыкулаў: "Сучасны вандроўны рыцар — гэта дэтэктыў, рыцар без дзіды, узброены электрычным ліхтарыкам, які блукае па гарышчах і падвалах, па вартых славы або сораму кутках нашага грамадства. Гэта Дон Кіхот нашага часу, які выпраўляе памылкі правасуддзя, абараняе ўдоў і сірот, вяртае ў чалавечае супольніцтва адрынутых ім членаў, нічога не ведаючы аб знакамітым героі Сэрвантэса, які адправіўся на вайну з разбэшчаным, страціўшым сумленне светам". Тады я нават падумаць не мог, што аднойчы нехта возьме ў якасці прыкладу паліцэйскі раман,

Алесь ВЕТАХ



# КАНЕЦ ЛЕТА

## АПАВЯДАННЕ

СПЯКОТНА-духотлівы жнівень пасля зацяжных халадоў з дажджамі катаваў горад, але, нягледзячы на такі выкрут прыроды, у душы Яўгена Аляшкевіча панаваў вясновы настрой. А прычына таму была, здавалася б, дзіўная: ён, нядаўні інжынер, а зараз беспрацоўны, звольнены з буйнога сталічнага завода па скарачэнні, пачаў гаварыць па-беларуску. І думаць яму жадалася толькі на роднай мове, хоць гэта яшчэ не зусім атрымоўвалася. Размаўляючы, час ад часу ён не знаходзіў патрэбнага слова, і тады адчуваў, як у галаве ўтваралася нейкая маўклівая, глухая пустэча, у працэс думання нервова падключаўся нябачны перакладчык, які пакутліва вышукваў беларускі адпаведнік да рускага слова. Напэўна, не адзін з былых таварышаў па працы пры сустрэчы з Аляшкевічам быў бы агаломшаны і палічыў бы, што з Яўгенам здарылася нешта неверагоднае: маўляў, чалавек ні з таго ні з сяго ці ад няма чаго рабіць кінуўся ў нацыяналізм. Або, пачуўшы яго беларускую гаворку, са шкадобай падумаў бы, што бядак вальтануўся і яму трэба лячыць галаву.

Аднак жаданне гаманіць па-свойму, так, як гаварылі ягоныя бацькі на роднай Случчыне, нарадзілася ў Яўгена не раптоўна і невыпадкова. І расло гэтае жаданне-памкненне недзе ўсярэдзіне міжволі і нібы на дражджах, п'яніла, акрыляла, несла дасюль невядомую радасць. Аляшкевічу нават здавалася, што ён па-іншаму дыхае, прагна і напоўніцу, таму зусім не зважаў на тое, як чадзіць размякчэлы на гарачым сонцы асфальт, і гэты сінявата-белы дым змешваецца з чорным смуродлівым гарам ад "Ікарусаў", што падыходзяць і адыходзяць ад аўтобуснага прыпынку, паволі падымаецца ў мляўкім паветры ўгору, утвараючы цёмную хмару, якая, нібы даўгавусы дракон, распаўзаецца шырэй і далей, ахутвае людзей, з лютасцю выядае вочы, забівае духі. Аляшкевіч усё ж адчуў, што дыхаць стала цяжка, бо яго заглынуў чадны смог — сіне-чорнае страшыдла. Захацелася падацца назад, вырвацца з лап чорнага дракона, але Яўген разам з невялікай купкай людзей стаяў у чаканні наступнага аўтобуса. Ды і вяртацца ўжо не было куды: бібліятэку, адкуль ён толькі што выйшаў, зачынілі. Не хацелася да апошняга званка дакучаць бібліятэкарцы, асабліва сёння, у пятніцу, бо тая, выдаючы літаратуру, як бы між іншым сказала, што збіраецца ехаць на лецішча паліваць познія агуркі.

Наведвальнікаў у чытальнай зале было ўсяго двое: ён, Яўген, ды я, універсітэцкі выкладчык. З новага навучальнага года мне ўпершыню даручылі чытаць курс лекцый, і таму ўжо другі тыдзень даводзілася карпець у бібліятэцы замест таго, каб бесклапотна з'ехаць у лясную прахалоду ці бліжэй да вады: на Мінскае мора ці да якой-небудзь ракі. Яўген убачыў на маім стале шмат гістарычнай літаратуры, і таму асмеліўся падысці і запытацца, што я чытаю і навошта. Пазней пра сябе з ніякаватасцю сказаў, што нідзе не працуе — з завода, як і многіх іншых, яго звольнілі. Зарэгістраваўся на біржы, і вось чакае, пакуль прапануюць хоць нешта блізкае да ягонай спецыяльнасці. Каб не марнаваць часу, Яўген вырашыў хадзіць у бібліятэку і вывучаць беларускую мову і гісторыю: абклаўся падручнікамі, слоўнікамі, часопісамі. Пасля гаворкі з Аляшкевічам я зразумеў, чаму ён пачаў жыць так, а не інакш, чаму не захацеў больш падпарадкоўвацца масавай інерцыі, зрабіў крок да нацыянальнага самаўсведамлення. Усё роднае, спадчынна-вясковае зачахла і занямела ў ім, заснула, здавалася, назаўсёды. І тое Адраджэнне, што хваляй пракацілася па Беларусі, ніколі б не закранула яго, не дагрукалася, калі б не сямейная драма.

Ад часу вучобы ў інстытуце Яўген стаў выхаванцам рускамоўнага горада, затым жаніўся на мінчанцы, якая рупілася і сачыла, каб ён зжываў сваю вясковасць, пазбаўляўся ў гаворцы акцэнту, беларускіх слоў, правільна рабіў націск. Але іхняе сумеснае звыкла-будзённае жыццё доўжылася толькі сем гадоў. Жонка, закончыўшы інстытут замежных моў, з дапамогай сваёй сяброўкі ўладкавалася ў салідную беларуска-нямецкую фірму. Там скруцілася з нейкім замежным бізнесоўцам, узяла развод і з'ехала ў Германію. Дзяцей падзялілі: з Яўгенам застаўся сын, а яна з сабой забрала трохгадовую дачку. Сына ў школу павёў ён сам. Бацькам, калі тэлефанаваў у вёску, пра тое, што здарылася, больш за паўгода нічога не казаў. Але потым мусіў прызнацца, бо хадзіў на працу, і трэба была чыя-небудзь дапамога. Маці, як даведалася пра сынаву бяду, прыехала на зіму ў горад. У іхняй кватэры загучала вясковая случанская мова. Міхасёк пайшоў у беларускі клас. Чуючы штодзённа тое, як бабуля гаварыла з унукам, Яўгену згадвалася сваё дзяцінства з матчынымі казкамі, сакавітымі выслоўямі. Душу ахоплівала радаснае ўзрушэнне, Аляшкевічу рабілася хораша і ўтульна сярод блізкіх людзей, і ён ачуньваў, прыходзіў у сябе пасля скандальнай дуэлі з жонкай. Пакрысе Яўген пачаў устаўляць у сваю гаворку беларускія слоўцы. Чытаў з сынам буквар, розныя чытанкі і адчуваў, як ціха, незаўважна мяняецца, пераўладкоўваецца нешта ў яго сярэдзіне, быццам ён праходзіць урок паўтарэння, вучыцца зноў пасля доўгіх канікулаў, якія выветрылі ўсё з галавы. Прыйшоў дзень, і Яўген з сынам адкрылі першы падручнік па гісторыі Беларусі. Чытаючы, Аляшкевіч захапляўся апавяданнямі пра мінулае больш, чым Міхасёк. Ён з нейкай юнацкай гаркотай шкадаваў, што калісьці пасля школы не пайшоў на гістфак, а падаўся ў радыётэхнічны інстытут. Гісторыя ў школе яму дужа падабалася: настаўнік Анатоль Іванавіч захапляюча, цікава расказваў пра Случчыну, яе пракаветную даўніну, пра Слуцак, яго паходжанне, князёў, пра іхнія палацы, слуцкі тэатр, Альгерда Абуховіча, пра пісьменнікаў, пра герояў розных бітваў. І ўсё гэта зараз, калі ён вырашыў прысвяціць сваё жыццё выхаванню сына, хацелася пераказаць малому Міхаську. Але тое, што ён памятаў, было абрыўкавае, цьмяна-блытанае. Аляшкевіч адчуў: яму не стае ведаў. Пакуль Міхаська з бабуляю жылі на вёсцы, Яўгену думалася не толькі пра пошукі працы, але і пра тое, што і як ён скажа сыну. Яшчэ ён стаў больш глядзець і слухаць тэлебачанне, радыё, і тое, што чулася пра беларускую мову з вуснаў лысаватага чалавека, пачало выклікаць нязгоду. Бо, здавалася, ганьбавалася яго маці, родная вёска, Случчына, Альгерд Абуховіч, а, галоўнае, яго сын, які перад ад'ездам сказаў, што пойдзе толькі ў беларускі клас. У траўні, на апошнім бацькоўскім сходзе, завуч школы паведаміла, што пяты клас, магчыма, пяройдзе на рускую мову навучання: маўляў, да яе падыходзіла шмат бацькоў з просьбамі пазбавіць іхніх дзяцей ад "непанятнава языка". У душы Аляшкевіча ўздымаліся хвалі абурэння, адтуль выплёсквалася вялікая трывога, і я добра разумеў гэтага чалавека, які тут, у бібліятэцы, калі мы перакурвалі, выгаворваў набалелае.

Аляшкевіч, абкураны і здушаны чадам, увайшоў у аўтобус. Выцер насоўкай з ілба пот, пасля чаго на ёй засталася бурая пляма, паправіў на загарэлым, поўным задумлівасці твары бліскучыя серабрыстыя акуляры. Яму думалася пра нешта сваё, здавалася, што ён — гэта не ён, а толькі лёгкі безжыццёвы цень, які застаўся пасля таго, як ён, Яўген, згарэў у сонечна-пякельным крэматорыі. На хвілю Аляшкевіча працяў свежы струмень паветра, і раптам ён уздрыгнуў, бо нехта моцна торкнуў у спіну. Перад ім вымкнула мажная постаць лабастага мужчыны са сталінскімі вусікамі.

— Прад'явіце праязны дакумент! — запатрабаваў ён.

Ашаломлены, Яўген адразу ўзрушыўся, імгненна згадаў, што яшчэ не закампасціраваў талончык, засунуў руку ў кішэню джынсаў і дастаў аднаразавы чысты білет на паездку.

— А вот эта цяпер не нада, гражданін, — з трыумфальна-пераможным выразам твару сказаў кантралёр і наклаў вялізную ручышчу на кампосцер. — Плаціце штраф!

Яўген зірнуў у акно аўтобуса, які запыніўся ля святлафора. Ён адразу ўзрадаваўся, з палёгкай уздыхнуў:

— Выбачайце, калі ласка, ды я толькі ўвайшоў. Яшчэ не праехаў аднаго прыпынку.

— Не нада, дарагой. Я цібя не відзеў. Плаці штраф! — сурова прамовіў лабасты кантралёр, хапіў безбілетніка за руку і злосна дадаў: — Ад мяне ўвільнуць не ўдасца, так і знай.

— Ды што вы сабе дазваляеце, — спрабуючы вызваліць руку, запратэставаў Аляшкевіч, затым пачаў шукаць вачыма сярод пасажыраў хоць адзін спагадны твар, каб заручыцца падтрымкай, каб хто-небудзь пацвердзіў, што ён толькі што сеў у аўтобус. — Хіба я злачынец, што вы мяне за рукі хапаеце?!

— Еслі хочаш — ты праступнік. І разгаварвай на нармальнам языку. Будзеш вырывацца — у барані рог скручу, — прыгразіў разгневаны правяральшчык.

Людзі ў аўтобусе абыякава адвярнуліся і глядзелі ў вокны. А кантралёр настойваў на сваім, роў над самым вухам:

— Плаці штраф, бэнээфавец! Эта табе не машыны на праспекце варочаць!

— Ніякі я не бэнээфавец. Я звычайны чалавек, — паспрабаваў апраўдацца Яўген.

— Я цібя як на рангене віжу, — з шалёным, ярасным бляскам у вачах крычаў кантралёр. — Сяйчас уміг дастаўлю ў міліцыю, там быстра разбяруцца.

— Вы не маеце права штрафаваць гэтага мужчыну, — пачуўся зусім побач, за спінай Аляшкевіча, аксамітны, поўны гіпнатычна-чароўнай чысціні, жаночы голас. Яўген павярнуў галаву і ледзь не страціў прытомнасць: там, на заднім сядзенні аўтобуса, сядзела не жанчына, а каралеўна ў белай пышнай сукенцы, з асляпляльнымі залаціста-яркімі завушніцамі. Яна смела наважылася ратаваць яго, няшчаснага Аляшкевіча, які стаўся ахвяраю дэспатызму кантралёра: — Мужчына сапраўды толькі ўвайшоў у аўтобус. Пакіньце, калі ласка, яго ў спакоі.

Кантралёр, падалося, зніякавеў ад голасу заступніцы, ён лыпаў шэрымі вялізнымі вачыма, але здавацца, быць пераможаным нейкай красуняй не захацеў:

— Без вас, гражданка, разбяромся. Не лезьце, куда вас не просяць.

— Я ж бачу, што творыцца несправядлівасць, — абурылася белая каралеўна. — Дык што мне маўчаць?

Лавец "зайцоў" ужо рушыў у наступ на абарону Аляшкевіча, у насмешлівым ядавітым тоне запытаў:

— Табе што, хахаляў мала? Ілі іменна этава падавай?

Акурат адчыніліся дзверы аўтобуса, і кантралёр гучна, нібы ў рупар, загарланіў на ўвесь салон:

— Граждане! Асвабадзіце салон, машына дальше не ідзёт. Мы яво даставім у аддзяленне міліцыі.

Пасажыры кінуліся з аўтобуса, як спуджаныя мухі. Але тая, да якой быў прыкаваны позірк Аляшкевіча, не зварухнулася, сядзела, бы яе гэта не тычылася.

— Вам што, гражданачка, асобае прыглашэнія нада? — дзёр горла лабасты і гняўліва памахаў у бок Аляшкевічавай заступніцы партманетам з кантралёрскім знакам: — Выхадзі, а то пажалееш.

Але яна не спалохалася вокрыку, адкінула невялічкую пасму русявых валасоў і ўзрушаным звінячым голасам прагаварыла:

— Вы што тут трыццаць сёмы год учыняеце! Ці мы ўжо туды вярнуліся?

— Знаеш, красотка, прадстаў, што вазвраціліся. Скажы спасіба, што сягодня ўслед за намі не едзет аўтобус з нарадам міліцыі. Этат бы красавец ужэ даўно не вякаў.

— Ведаеце што?! — непакорна, на павышанай ноце выгукнула жанчына ў белым. — У мяне часу багата. Я еду ў міліцыю і буду сведчыць пра ваш здзек і самадурства.

Схоплены, бы абцугамі, рукой кантралёра, Яўген адчуваў сябе ніякавата, брыдка, ён раптам усвядоміў, што ўжо колькі хвілін маўчыць, а за яго змагаецца гэтая незямная прыгожая жанчына. Аляшкевіч вінавата і ўпрослівa зірнуў у вочы кантралёра:

— Давайце, я заплачу штраф. Толькі адпусціце нас.

Але гэтая просьба-мальба, відаць, прыдала кантралёру мацунку, упэўненасці ў сабе:

— Нічаво не палучыцца. Пусць этая раскрасавіца выходзіць, а мы паедзем у пяцідзесятае аддзяленне.

Аляшкевіч з усяе моцы вырваў руку, паспрабаваў адштурхнуць ад сябе апантанага лаўца безбілетнікаў.

Кантралёр залямантаваў, быццам ашпараны:

— За сапраціўленія і сінякі далжнасному ліцу яшчэ атвеціш!

Шафёру, мусіць, надакучыла праз шкло кабіны назіраць за баталіяй у салоне, ён зачыніў дзверы і пагазаваў на канцавую. Кантралёр падаўся да шафёрскай кабіны, пакінуўшы Аляшкевіча і жанчыну ў белым. Яўген нясмела, нібы хлапчук, падняў галаву і зірнуў у яе светла-блакітныя, як у дзіцяці, вочы і занямеў. Жанчына загаварыла першай, яна не то спачувала, не то разважала:

— Ну што вы так задумаліся, што талон адразу не прабілі? Завязе вас гэты вар'ят у аддзяленне, а там бугаі дубінкамі пачастуюць. Мала таго, што грошы на штраф адбяруць, дык пратакол складуць, што вы беднага кантралёра пакалечылі. І штраф яшчэ на сотні тысяч выпішуць. Пасля ні ў якім судзе праўды не знойдзеце. Хіба вы не ведаеце, што ў міліцыянтаў да тых, хто гаворыць па-беларуску, паталагічная нянавісць? Няварта дурняў цвяліць, з імі лепш на трасянцы гаварыць або па-руску, Трэба берагчы сябе ў такі жахлівы час. Памятайце: беларусам быць цяжка.

— Дзякую вам, што заступіліся, — ціха зляцела з вуснаў Аляшкевіча, і яму востра адчулася, што ён хоча працягнуць руку гэтай чароўнай жанчыне.

Узвінчаны, грозны, як навальнічная хмара, кантралёр махаў рукамі, нешта выкрыкваў. Шафёр, адкапыліўшы ніжнюю губу, ціснуў на газ. Аўтобус падкідвала, ён грукацеў, нібы вялізарная парожняя бочка, што кацілася з гары. Дзівосная, казачная красуня падхапілася, узяла сваёй беласнежнай танклявай рукой Яўгена за бронзавую ад загару руку, падвяла да дзвярэй.

— Як вас зваць? — ледзь выдыхнуў Аляшкевіч.

Аўтобус знянацку затармазіў і спыніўся, бы падбіты танк. Трое дзвярэй адчыніліся, і праз пярэднія з іх долу паляцеў кантралёр.

— Не марудзьце, выходзьма хутчэй! — прыспешваючы Аляшкевіча, абазвалася каралеўна.

Яны выскачылі з аўтобуса, нібы гарэзлівыя юнак і дзяўчына, што спазняюцца на дыскатэку.

— Як вас зваць? — з нейкай невыказнапяшчотнай замілаванасцю на хаду зноў папытаў Яўген.

— Надзея, — толькі і паспеў пачуць у адказ ад жанчыны, якая пачала на вачах знікаць, як прывід. Нечакана-неспадзявана яна ператварылася ў нейкую нябачную істоту, якая ўсё яшчэ трымала яго, Аляшкевіча, за руку. "Куды яна знікла? Куды?" — у адчаі затрапятала сэрца і заплакала жаласным жураўліным крыкам ад раптоўнай страты белай лябёдкі...

У панядзелак Аляшкевіч прыйшоў у бібліятэку сам не свой. Я гэта адчуў і папытаў, што здарылася. Ён падрабязна распавёў мне гісторыю, што здарылася з ім у пятніцу, неўзабаве пасля таго, як мы развіталіся каля сталічнага універсама. Не адважыўся ўсумніцца ў тым, што пачуў. Я бачыў, што Яўген зусім не жартуе, а гаворыць усур'ёз:

— Трэцюю ноч яна стаіць перад вачыма ў белай вясельнай сукенцы. Мучаюся, не магу заснуць. — Ён дапытліва зірнуў у мае вочы: — А мо гэта была іншапланецянка ці якая багіня з даўніх часоў? — І працягваў спавядацца: — Яна заваражыла мяне. Без яе баюся ісці ў восень. Я адчуваю, што там мне будзе холадна, золка, адзінока. Як мне адшукаць гэтую жанчыну-мрою?..

## НА СЦЭНЕ — МОНАСПЕКТАКЛІ

**З 10 па 14 кастрычніка ў Мінску адбываўся II Міжнародны фестываль монаспектакляў "Я". Арганізавалі яго Беларускі нацыянальны цэнтр міжнароднага інстытута тэатра, Міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў нашай краіны. Фінансавую падтрымку фестывалю здзейсніў Беларускі фонд Сораса.**

**Монаспектль — гэта унікальны жанр тэатральнага мастацтва, які вымагае гранічных дасканаласці і выразнасці акцёрскага выканання, гармоніі рэжысуры, драматургіі, сцэнаграфіі — усіх складнікаў уздзеяння на гледача. Таму кожны такі спектакль, які вытрымаў праверку сцэнічным жыццём, заслугоўвае ўвагі. У мінскім фестывалі бралі ўдзел госці з Расіі, Кіпра, Польшчы, Украіны, Літвы, Балгарыі. Спектаклі, якія яны прывезлі, самыя разнастайныя па тэматыцы і ўвасабленні, некаторыя можна назваць уласна монаспектаклямі толькі ўмоўна, як спектакль "Мяне завуць "Я" Ніжненоўгарадскага "Маленькага тэатра". Кіпрыёт Фотас Фоціадзес стварыў свой спектакль паводле твораў Сафокла, Еўрыпіда і Эсхіла, прычым выконвае яго на старажытнагрэцкай мове, на падставе ім самім жа адкрытым метадзе вымаўлення меладычна-песеннай антычнай мовы. Польскі тэатр у Познані прывёз спектакль "Ecce homo" паводле філасофскай прозы Ніцшэ, Духоўны тэатр "Воскресіння" з Львова — казку-містэрыю "Пракляты Марко". Навасібірскі тэатр "Чырвоны факел" прадставіў спектакль, у якім гучаць маналогі самых розных герояў рускай класічнай драматургіі. Незалежны, нетрадыцыйны тэатральны клуб "Эдмундас студыя 3" з Шаўляя паказаў спектакль "Іншы", пабудаваны на законах авангарднага тэатра. Драматычны тэатр з Варны звярнуўся да творчасці Гогаля, паставіўшы монаспектакль "Дзённік вар'ята". Нашу краіну прадстаўлялі на фестывалі тэатр-студыя кінаакцёра спектаклямі "Каханне смешнага чалавека" паводле твора Ф. Дастаеўскага і "Айседора. Танец кахання"; Віцебскі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, які таксама звярнуўся да "Запісак вар'ята" М. Гогаля; Мінскі маладзёжны тэатр з пластычнай фантазіяй "Хачу быць каханай", у сюжэтнай аснове якой — лёс амерыканскай "зоркі" Мерэлін Манро. Узяў удзел у фестывалі і унікальны беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" (мастацкі кіраўнік — Галіна Дзягілева). Тэатр прадставіў на фестываль два спектаклі — "Маленькі анёлак" па п'есе С. Кавалёва і "Кроткая" паводле твораў Ф. Дастаеўскага.**

**Н. К.**

## З ПАВАГАЙ І ЛЮБОЎЮ ДА МОВЫ

**Сярод даследчыкаў гісторыі беларускай мовы, народных гаворак была Марыя Жыдовіч. 19 кастрычніка ёй споўнілася б 80 гадоў (памерла 12 лістапада 1977 года). Марыя Андрэеўна — аўтар працы "Назоўнік у беларускай мове" (ч. 1, 1969), сааўтар кніг "Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія" (1957), "Нарысы па гісторыі беларускай мовы" (1957), бібліяграфічнага паказальніка "Беларускае мовазнаўства. 1825—1965" (1967)... Была рэдактарам "Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак" (в. 1—3, 1970—1977).**

## СПАТКАННІ — ТАЕМНЫЯ І ВІДАВОЧНЫЯ



**Пра сваё "Таемнае спатканне" тэатр пантамімы і клаунады "Жэст" абвяшчае на ўвесь голас: яно, першае ў сезоне, мае адбыцца 25 кастрычніка на вучэбнай сцэне Беларускай акадэміі мастацтваў. Прыйдуць або з'явяцца, як заўжды, Алена Сівякова, Галіна Яроміна, Вячаслаў Іназемцаў... І персанажы, якіх прадставяць акцёры. А на старонках "ЛіМа" магчымасць спаткацца з усёй "жэстаўскай" кампаніяй з'явіцца неўзабаве...**

**Ж. Л.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Таемнае спатканне".*

*Фота М. МОРКАЎКІ*

**Уласна фестывальнага досведу Брэст мае няшмат, таму дапушчальна меркаваць, што з 3 па 6 кастрычніка сёлетняга года на міжнародным тэатральным фестывалі "Белая вежа" гэты досвед набываўся ў самых шырокіх маштабах. Заяўленыя Егіпет ды Францыя, даслаўшы факсы пра ўдзел, пэўна, і межаў сваіх не перасяклі. Да апошняга дня высвятляліся імёны ўдзельнікаў з Расіі. На чале журы стаяў скептык — доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі.**

**Ён сам быў у ліку скептыкаў, калі больш за год таму дырэктар Брэсцкага тэатра драмы і музыкі Аляксандр Козак выказваў ды даводзіў сваю фестывальную ідэю. Па-добраму крытык дырэктара разумеў: цяпер фестывалі не ладзіць хіба лайдак з лайдакоў: Маладзечна — ладзіць, Гомель — збірае, Віцебск — арганізуе, так што здаровыя творчыя амбіцыі берасцейца ўражвалі. Натхняў хіба адметна адбудаваны Брэсцкі тэатр...**

**Да гонару А. Козака, матэрыяльную і арганізацыйную базу пад фестываль ён падвёў выдатную. Але, паводле Р. Смольскага, забракавала сілы ды менавіта досведу, каб гэтым падвалінам адпавядала творчая надбудова. Дакладна не знайшлі фестывальнае канцэпцыі, значыць, не вызначыліся са сваімі жаданнямі. Для першага разу мусім пагадзіцца з тым, што арганізатары зладзілі для гараджан файнае тэатральнае свята, тым больш каштоўнае цяпер, калі няма добрых старых гастроляў. Дасціпна была абыграна Камянецкая вежа, тая самая, гістарычная Белая вежа, чые сцены сярод усіх гістарычных мітрэнгаў пабачылі і найшоўшыя, нават раскіданне СССР. Клопат берасцейцаў адчуваўся і ў, мовім так, шчыраванні над новай сімволікай або новай значнасцю падзей на сваіх абшарах: каб надалей Белая вежа абазначала не палітычнае раскіданне, а творчае яднанне. Перадусім — тэатральных майстроў. Бо раз'яднанне, ізаляванне культурнае прасторы як нікому й нічому іншаму шкодзіць самой культуры. А геапалітычнае знаходжанне Брэста — лепш не бывае...**

**Напэўна, кожны з крытыкаў або іншых тэатральных прафесійнікаў бачыў афішу "Белай вежы" па-свойму і, пэўна ж, меў рацыю са сваім спісам лепшага. Але старшыня журы Рычард СМОЛЬСКІ, кранаючы гэтае пытанне, прапанаваў яшчэ раз зважыць на грошы:**

# КАЛІ ЗАМІНАЛА... АФІША

— Напрыклад, з Масквы запрасілі, мовім так, танны спектакль, бо везці звыклых пяцьсем дзейных асобаў, дэкарацыі і да т. п. арганізатары пакуль не ў стане, — удакладніў Рычард Баляслававіч. — Канцэртны варыянт з Тэатра Расійскай Арміі з удзелам Ігара Ледагорава і ягонага маладога партнёра Арцёма Камінскага. Вядома, мастацтва пацярпела. Затое берасцейская публіка адгукнулася ўжо на самае з'яўленне вядомага па кіно і тэлебачанні артыста. На кожную трапную рэпліку — апладысменты. У фінале — авацыя і бясконцыя кветкі. У канцэпцыю фестываля — гарадскога свята гэты спектакль уштукаваўся бездакорна.

Адкрывала "Белую вежу" адметная, выпрабаваная, у добрым сэнсе слова шлягерная "Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча ў рэжысуры М. Пінігіна. Лепшага адкрыцця быць не магло. Каб прадэманстраваць, напрыклад, высокую акцёрскую тэхніку, каб задаць тон ды ўзняць фестывальную ліштву. Віталь Рэдзька, выканаўца адной з цэнтральных роляў, адзінагалосна прызнаны лепшым выканаўцам сярод акцёраў-мужчын. Пасля "Ідыліі", якую вітала перапоўненая зала, акцёры Валынскага тэатра (Украіна) засмучона й ціха кінулі калегам, маўляў, нам пасля такога тут рабіць няма чаго... З нашым узроўнем... І, ацаніўшы сябе самакрытычна, мелі рацыю.

Вызначыць лепшы сярод драматычных і лялечных спектакляў замінала... сама фестывальная афіша. Кожны спектакль вымагаў надта асабістых крытэрыяў ды падыходаў. Ці не кожны мог пад сябе сабраць і афішу, і фестываль. А як лялькам спаборнічаць з драматычнымі артыстамі? Альбо, скажам, падкрэслена эксперыментальны "Спектакль для ненароджаных дзяцей" Віталя Баркоўскага і Уладзіміра Матросава: калі мераць ды ўзважваць яго як "Ідылію" або "Сон на Іванаву ноч" кіеўскага Тэатра на Падоле, дык трэба сумленна зазначыць: ён уяўляе сабой ланцужок бессэнсоўных эцюдаў, якія не ратуе матывацыя нібыта Фёдара Дастаеўскага (ягонае імя значыцца пры назве спектакля) і якія скручваюцца-складаюцца ў адну вялікую бяссэнсіцу. Дарэчы. "Спектакль для ненароджаных дзяцей" запрасілі ў Брэст па маёй рэкамендацыі: я патаемна спадзяваўся, што пані Ганна Блашчак, чыннік Торуньскага тэатральнага фестывалю і журы "Белае вежы", запросіць нашых эксперыментатараў да сябе. Не запрасіла. Далучылася да меркавання журы: так, гэта эксперымент, але не дужа ўдалы і нават бессэнсоўны.

"Сон на Іванаву ноч" у рэжысуры Віталя Малахава з Кіева ўразіў па-добраму... старым добрым Шэкспірам. Хоць калегі-крытыкі не прамінулі папракнуць украінцаў за эстэтыку студэнцкага капусніка. Але спектакль вясёлы, зухаваты, з адметнай сцэнаграфіяй Сяргея Маслабойшчыкава, з дасціпна вырашанымі касцюмамі, з густоўным акцёрскім ансамблем.

Валынцы з музычна-драматычнага тэатра імя Шаўчэнкі расчаравалі адкрытай кан'юнктурнасцю сваёй работы, якая грунтавалася на класічнай спадчыне Лесі Украінкі і называлася "Апантаная". У журы жартавалі: калі б, маўляў, гэта ставілі дваццаць гадоў таму, дык у цэнтры ўвагі апынуўся б, відаць, Валодзя Ульянаў, які з'явіўся пераўтварыць свет і даць усім зямны рай. А сёння — святое месца не пусцее — у тэатральныя героі выправілі Ісуса Хрыста. Але назіраць, як пасрэдны артыст квола і непераканаўча строіць з сябе... скажам, персону, асобу, якая для кагосьці яшчэ і думкаю, і духам не асягнутая, якая для многіх надта недатыкальная й высокая, — дайце веры, не толькі прыкра ды цяжка... А дадаць да ўсяго няпэўную састарэлую эстэтыку... На прыкладзе гэтага спектакля варта было пераканаць арганізатараў, наколькі фестываль вымагае адбору. Адбору, які павінны спраўджваць прафесійнікі. А ў дадзеным выпадку самым прафесійным зрабіўся... тэлефон: спектакль запрашалі на фестываль, відаць, проста патэлефанаваўшы кіраўніцтву тэатра імя Шаўчэнкі. Прасілі, трэба думаць, лепшае. Валынцы дачулі добра, сабраліся порстка і з шумам... праваліліся. І калі б не кіяне, можна было б усур'ёз думаць пра нейкі творчы крызіс на Украіне.

Мальераў "Мешчанін у шляхецтве" з Любліна (а каго не захапляе агульная культура ды прафесійнасць польскага тэатра!) перакінуўся шараговым касцюмаваным відовішчам. У трупе, да ўсіх заганаў, не знайшлося яркага выканаўцы ролі Журдэна, дый рэжысура прапанавала яму надта ўжо звыклае вырашэнне. Тэкст акцёры вывучылі хораша, прамаўлялі выдатна, так што берасцейская публіка сёетое з таго, што меў на ўвазе сам Мальер, зразумела і прывітала.

З вялікай цікавасцю чакалі "Макбета" ў пастаноўцы "Вольнай сцэны", тым больш пра ўдалыя шатландскія паказы ўжо і прэса сведчыла (у тым ліку і "ЛіМ"). Праўду кажучы, ехаць у Камянец пад самую Белую вежу ды глядзець спектакль там не надта карцела. Аўтары спектакля настойвалі на выездзе. І, як высветлілася, мелі рацыю. Ва ўмовах натуральнай пляцоўкі, калі ці не ўсе жыхары Камянца выбраліся паглядзець тэатр (не бачыў яшчэ пры падмостках такой процьмы народа!), а дзесятай гадзіне вечара, калі мясцовыя школьнікі сустракалі гледачоў з факеламі, а школьніцы ўвасаблялі вядзьмарачак... Ды ці можна паспытаць большае асалоды ад тэатра, як толькі не пабегаўшы пры сталічнай пары Макбетаў?! Камянец мусіць скласці з гэтага легенду... А сам спектакль пакінуў супярэчлівыя ўражанні. Перш за ўсё — самім падыходам да Шэкспіра, ягоным сцэнічным адаптаваннем, якое прапанаваў Аляксей Дудараў. Я перакананы: сённяшні адукацыйны ўзровень беларускай публікі дастаткова высокі. Ён, узровень, не вымагае падыходу кшталту "злікvідавання непісьменнасці", калі "Макбета" можна пераказаць за якую гадзіну. Падрыхтаванасць, абазнанасць, часам і спанатранасць нашай публікі вымагае паважлівага стаўлення — да прадмету сцэнічнае гаворкі ў тым ліку. А ў нашым выпадку ўсе Шэкспіравы адметнасці скараціліся да двух забойстваў. Спачатку забівае Макбет, потым забіваюць Макбета. А ў старэйшага пакалення ў памяці "Макбет" Барыса Луцэнкі — зусім іншае трапнасці ды глыбіні! Эксперымент Валерыя Анісенкі (рэжысура) над Шэкспірам выглядае недарэчным. Мяне асабіста здзівілі і выразы, слоўныя выразы, якіх мы ніколі не чулі ад перакладчыкаў класіка-Шэкспіра, перакладчыкаў, дарэчы, самых розных і разнастайных. Кшталту... "выблядка" з вуснаў Макбета — пра дзіця, народжанае па-за шлюбам. У Шэкспіра кожная сітуацыя абмалявана дастаткова літаратурна. А беларуская адаптацыя амаль на мяжы літаратурнае нормы. Гэта не ўпрыгожвае спектакль. Гэта таксама спарадзіла неадназначнасць яго ацэнак: усеагульнага захаплення я не ўбачыў.

Я ўяўляю сабе рэжысёрскую прафесійнасць, якая мусіць адбівацца на кожнай драбніцы ўвасобленага. Прафесійнасць, якая выяўляецца і ў тым, каб стварыць акцёрам прымальныя ўмовы для работы. У выпадку Валерыя Анісенкі акцёрам трэба рваць звязкі на адкрытай пляцоўцы, але далей за чацвёрты рад усё адно не чуваць. І гэта ў надвор'е, спрыяльнае надзіва! Усё-такі тэатр вымагае... тэатра. Але тло (фон) самой Белай вежы спрыяў ацёрскай рабоце Таццяны Жданавай (лэдзі Макбет), выгодна падкрэсліў яе фактуру, голас, пластычнасць. Тыя з калегаўкрытыкаў, якія не ездзілі ў Камянец і бачылі работу Жданавай у іншых умовах, не адразу зразумелі, чаму журы схільнае даць ёй прыз за лепшую жаночую ролю. Праўда, іх хутка пераканалі.



"Месяц на вёсцы" Івана Тургенева, увасоблены Рыдам Таліпавым, абвясціў на поўны голас пра магчымасці ды здольнасці берасцейскай трупы. Спектакль — узор высокай рэжысёрскай прафесійнасці, узор творчага і вельмі сучаснага падыходу да матэрыялу, але і вельмі ашчаднага стаўлення да яго. У выніку — спектакль лірычны, працяты жарсцямі ды глыбокім роздумам пра сэнс чалавечага жыцця, пра каханне, пра ягоную дарэчнасць або недарэчнасць і месца ў чалавечым жыцці. У Таліпава — пазнавальны рэжысёрскі почырк, схільнасць вытрымліваць на працягу паказу ўсе заяўленыя прыёмы, стыльнасць, эстэтычнасць. Вельмі дакладна і ўдумліва распрацаваны акцёрскія партытуры. Пры гэтым пра сямігадовае бадзянне або блуканне трупы па пакутах падчас рамонту тэатральнага будынка ведаюць усе. Няшмат хто чакаў, што высокі выканаўчы патэнцыял нікуды не падзенецца, зберажэцца і прыбудзе...

Таліпаўскі спектакль, на маю думку, засведчыў, што самы перспектыўны кірунак развіцця беларускага тэатра — псіхалагічны. Расповяд пра чалавечую душу. Таліпаў — гуманіст. Ён любіць і сваіх персанажаў, і іх выканаўцаў, сваіх акцёраў. З ягоным імем звязаны нашы надзеі на развіццё псіхалагічнага тэатра, да таго ж гэты кірунак выдатна стасуецца з беларускай тэатральнай прыродай. Беларускі тэатр гадаваўся і гартаваўся ў расповядах пра чалавечую душу...

Тое, што фестываль скончыўся "Месяцам на вёсцы" і пачаўся "Ідыліяй", давяло ягоную, фестывальную перспектыву. Тайнае галасаванне чыннікаў журы палічыла іх лепшымі спектаклямі. А для берасцейцаў гэта — двайны поспех. Кшталтам, узроўнем спектакля зраўняцца з нацыянальным акадэмічным!

Кіраўніцтва горада і вобласці натхнілася шырокім розгаласам фестывалю. Каб замацаваць яго як з'яву культурнага жыцця Беларусі вырашана зладзіць... сабраць "Белую вежу-97", а потым сустракацца ля ейных сценаў раз у два гады.

**Рычарда СМОЛЬСКАГА распытвала і натавала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Брэст—Мінск*

*На здымку: Рычард Смольскі.*

Музыка

# НЯПРОСТЫ ШЛЯХ ДА ОПЕРЫ

Такая знаёмая, такая цудоўная музыка Пятра Ільіча Чайкоўскага акунае нас у святочную атмасферу шляхетнага балю. Таццяну Ларыну не пазнаць. Багата апранутая, прыгожая, упэўненая ў сабе, яна ідзе пад руку з сівым імпазантным генералам, які, здаецца, не можа надыхацца каханнем да жонкі. У ролі Грэміна — уладальнік прыгожага баса з яркім тэмбрам, саліст беларускай оперы Алег Мельнікаў.

Новая імя? У пэўным сэнсе — так.

Спявак нарадзіўся і вырас у Мінску. "Мае бацькі, — гаворыць ён, — рабочыя. Абое любяць спяваць. У бацькі — барытон, у маці — сапрана. Наогул, у нашай сям'і ніводнае свята не абыходзіцца без спеваў".

Шлях да мастацтва быў у Алега нялёгкі. Жаданне прысвяціць сваё жыццё музыцы праявілася ў яго ўжо ў шасцігадовым узросце. Неяк хлопчык глядзеў кінафільм "Сляпы музыка" на сюжэт У.Караленкі і проста-такі зайшоўся ад плачу: "Хачу вучыцца музыцы!". Неўзабаве ён ужо вучыўся ў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры кансерваторыі — па класе баяна. І хаця да гэтага інструмента душа не ляжала, вучань ён быў здольны — дасканала асвоіў баян. З чатырнаццацігадовага ўзросту Алега пачалі запрашаць іграць на вяселлях. К гэтаму часу ён навучыўся добра іграць і на гітары, і на фартэпіяна. Пазней, калі служыў у палкавым аркестры, асвоіў саксафон. У той час набіралі музыкантаў, спевакоў у знаны ансамбль БВА, якім кіраваў Леў Муранаў. Алег быў прыняты ў гэты калектыў, дзе і граў, і спяваў...

Потым ён спяваў у мінскіх рэстаранах. Былы бас-гітарыст "Песняроў" Леанід Тышко запрасіў Мельнікава спеваком-саксафаністам у рэстаран "Юбілейны". Але рэстаранныя канцэрты хутка надакучылі. Была мара — стаць сапраўдным прафесіяналам, спасцігаць сакрэты вакальнага мастацтва. Паступіў на вакальнае аддзяленне Беларускай кансерваторыі. Шчыра кажучы, яму не пашанцавала з выкладчыкам па спецыяльнасці, які, на жаль, не знайшоў ключык да сваго вучня, і юнак быў вымушаны пакінуць кансерваторыю. Аднак на яго звярнуў увагу выдатны педагог загадчык вакальнага аддзялення Мінскага музычнага вучылішча імя М.Глінкі Адам Асманавіч Мурзіч. Алег прыйшоў да яго вучнем — на трэці курс вучылішча...

Праз паўгода адбыўся Рэспубліканскі конкурс вакалістаў, пераможцам якога стаў Алег Мельнікаў. Менавіта тады яму параілі ехаць у Адэскую кансерваторыю да прафесара Яўгена Іванова, у якога вучыліся галоўным чынам басы, барытоны. Вясной 1986-га малады спявак быў ужо ў Адэсе. Суправаджаў яго педагог Адам Мурзіч, які лічыў сябе адказным, каму аддаць "такі матэрыял". На праслухоўванні Алег паспеў праспяваць толькі дзесяць тактаў арыі, як Яўген Мікалаевіч Іваноў з захапленнем сказаў: "Упершыню мне прывезлі студэнта, якога не трэба перавучваць!".

— Да канца свайго жыцця Іваноў адносіўся да мяне па-мужчынску строга, але справядліва, па-бацькоўску апякаў і, мне здаецца, што я быў яго любімчыкам, — расказвае А.Мельнікаў. Ён удзячны і жонцы свайго педагога, таленавітаму выкладчыку камернага класа, заслужанай артыстцы Украіны Людміле Івановай, і канцэртмайстру Таццяне Кнышовай, і рэктару Адэскай кансерваторыі, вядомаму спеваку Мікалаю Агрэнічу, які стварыў спрыяльныя абставіны для адораных студэнтаў, магчымасці для ўдзелу ў самых прэстыжных конкурсах.

Альма матэр паспрыяла станаўленню А.Мельнікава як试 опернага артыста. Ужо з першага курса ён стаў адным з вядучых салістаў славутага Адэскага опернага тэатра. Дэбютаваў у партыі Шчалкалава з оперы М.Мусаргскага "Барыс Гадуноў". Потым быў Пімен таксама з "Барыса Гадунова". Алегу было толькі 26 гадоў, калі яму даверылі гэтую цікавую складаную партыю. Штодзённа яго мучыла думка, як перадаць вобраз мудрага старца... На адзін з першых спектакляў ён прыйшоў у тэатр задоўга да пачатку. Рана прыйшоў і грымёр. Артыст апрануў расу, загрыміраваўся. І раптам адчуў, што яму ўжо не 26, а 90. Цікава, што на гэтым спектаклі Алега Мельнікава ў тэатры ніхто не пазнаў. Нават палічылі, што прыехаў гастралёр...

Цікава, ярка, эмацыянальна выконвае А.Мельнікаў ролю Дона Базіліё ў оперы Д.Расіні "Севільскі цырульнік". На думку ягонага педагога А.Мурзіча, гэта своеасаблівая візітоўка Алега. Ён не шаржуе, не перайграе, па-свойму смешны і вельмі пераканаўчы. У час гастроляў нашага тэатра па Іспаніі такі Дон Базіліё вельмі спадабаўся іспанскім аматарам опернага мастацтва.

Удача артыста — партыя караля Рэнэ ў оперы П.Чайкоўскага "Іяланта", якой, дарэчы, ён дэбютаваў у Мінску пасля васьмігадовай працы на сцэне Адэскай оперы. Няпроста было прыстасавацца да новага калектыву. Але нездарма гавораць: хто выжыў у Адэсе — выжыве ўсюды...

Працуючы ў родным горадзе, спявак паспяхова выступіў у самых розных спектаклях. Нават у параўнальна невялікіх партыях ён выглядае прыкметна, запамінаецца. Глядач не можа не заўважыць яго ў партыі Старога катаржаніна (опера Д.Шастаковіча "Кацярына Ізмайлава, або Лэдзі Макбет Мцэнскага павета"). Трапныя фарбы, таны і паўтаны знайшоў ён для ўвасаблення вобраза Дварэцкага (опера С.Картэса "Візіт дамы"). Скупа, але выразна, як і патрэбна паводле сюжэта, паказвае ён Рамфіса — вярхоўнага жраца з оперы Д.Вердзі "Аіда".

У нядаўняй прэм'еры — оперы А. Барадзіна "Князь Ігар" А.Мельнікаў стварыў два розныя яркія вобразы. Гэта весялун-гуляка Галіцкі і самавіты хан Канчак.

Нядаўна я слухала спевака ў оперы Д.





Вердзі "Дон Карлас". Гэта было канцэртнае выкананне, на мове арыгінала. Спявак быў на вышыні. Голас яго гучаў ярка, прыгожа, як і належыць лаўрэату дзесятка прэстыжных міжнародных вакальных конкурсаў.

У кожным творчым спаборніцтве Алег Мельнікаў дэманстраваў не толькі высокае прафесійнае майстэрства, але і ўменне сабрацца, выступіць упэўнена, бліскуча. У Жэнеўскім конкурсе, напрыклад, было пяць тураў па розных гарадах, адборачны тур працягваўся амаль месяц. У першым Шаляпінскім вакальным конкурсе, дзе цэнз узросту спаборнікаў — 38 гадоў, удзельнічалі толькі салісты оперных тэатраў. У Алега там была бліскучая перамога — першая прэмія!

Але як ні дзіўна, таленавітага спевака Алега Мельнікава лепш ведаюць у Расіі, чым у роднай Беларусі. Вось і нядаўна ў сваім артыкуле ў газеце "Известия" славутая оперная спявачка Ірына Архіпава назвала сярод самых таленавітых маладых оперных артыстаў імя нашага земляка Алега Мельнікава. Дарэчы, разам з Ірынай Канстанцінаўнай ён нядаўна паспяхова выступіў на Міжнародным оперным фестывалі ў Новасібірску, яны разам ўдзельнічалі ў выкананні "Рэквіема" Д.Вердзі. Мне таксама давялося слухаць Алега Мельнікава ў гэтым творы ў Мінску, ён спяваў бліскуча.

Зусім нядаўна яго запрасілі ў Маскву для ўдзелу ў выкананні вакальна-сімфанічнай паэмы Д.Шастаковіча "Пакаранне Сцяпана Разіна" для баса, хору, сімфанічнага аркестра. Дырыжыраваў сын кампазітара Максім, які лічыць Алега Мельнікава лепшым выканаўцам басовай партыі ў гэтым творы.

Неўзабаве і ў Германіі адбудзецца сольны канцэрт спевака. Думаю, не памылюся, калі скажу, што сольнага выступлення А. Мельнікава чакаюць прыхільнікі ягонага майстэрства ў родным Мінску.

На думку канцэртмайстра Л.Талкачовай, гэта вельмі здольны спявак, ягоны голас з цудоўным тэмбрам, у яго прыгожая сцэнічная знешнасць, прыроднае пачуццё сцэны, артыстычнасць. Яшчэ адзін вядомы канцэртмайстар, які працуе з А.Мельнікавым, Г. Карант адзначае, што ў артыста няма праблем з вакальнай тэсітурай, спявак вельмі музыкальны і самакрытычны. Аматары мастацтва, зазначае ён, не могуць не ганарыцца, што на Беларусі ёсць такі даравіты артыст, уладальнік прыгожага баса, якога чакае цудоўная будучыня. Педагог Алега А.Мурзіч з гонарам называе яго лепшым сваім вучнем. Дарэчы, спявак па-ранейшаму ў цесным кантакце з Адамам Асманавічам, вельмі часта прыходзіць да яго "пракамертоніць", бо вакалісту вельмі цяжка без староннята вуха.

Алег Мельнікаў лічыць сябе максімалістам. На яго думку, у мастацтве нічога нельга рабіць напалову. І вядома ж, трэба быць да сябе вельмі патрабавальным, прафесіяналам з вялікай літары і не разменьвацца на халтуры. Яго хвалююць праблемы тэатра: "На мой погляд, вельмі добра было б пры актыўнай падтрымцы дзяржавы ўвесці ў нашым оперным кантрактную сістэму. А з боку адміністрацыі патрэбна гарантыя салісту на ўдзел у пэўнай колькасці спектакляў, інакш — адміністрацыя плаціць няўстойку. Калі ж па віне артыста зрываецца спектакль, дык павінен плаціць ён сам, але сёння з-за вельмі нізкіх заробкаў артыстаў ніхто з іх не зможа аплаціць..."

Алегу Мельнікаву — 34 гады. Ён у росквіце свайго таленту і марыць пра цікавыя басовыя партыі...

**Вера КРОЗ**

*На здымках: Алег Мельнікаў у жыцці і на сцэне — Грэмін (злева) з оперы "Яўгеній Анегін".*

Віншуем!

# ПА ЗАКОНАХ ЗМЕНЛІВАСЦІ ЧАСУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Віктару Тураву — 60. Ужо няма ў жывых Алеся Адамовіча, з якім давялося яму працаваць над дылогіяй "Партызаны". Фільмы "Вайна пад стрэхамі" і "Сыны ідуць у бой" — яны, можа, цяпер для Віктара Турава як тыя цяжкія дзеці. Укладзена было многа добрага, але...

А, можа, такімі пакутлівымі былі гэтыя стужкі таму, што два папярэднія фільмы ўвабралі ў сябе ўсё, што малады тады Тураў ведаў пра вайну? "Праз могілкі" і асабліва "Я родам з дзяцінства" сталі для рэжысёра не проста прыступкамі да вядомасці. Ён тварыў з успамінаў дзяцінства, з пачуццяў, думак, якія хлопчыкам не мог перадаць у слове, з адчування раптоўнасці смерці і няўмення ўявіць сябе нежывым пранізліва лірычны міф пра вайну. Такую, якую бачылі... у снах. А цяпер ужо ніколі не ўбачаць.

Цяжка сказаць, да якой узроставай генерацыі належыць Тураў. Здаецца, ёсць таямнічы, непадуланы пазітыўнаму розуму сэнс у тым, што ў самым сваім знакамітым фільме Тураў аднойчы прызнаўся, што ён... родам з дзяцінства.

Ягоны маскоўскі сябра, тады малады сцэнарыст Генадзь Шпалікаў, які напісаў для Турава гісторыю пра хлопчыка,што чакае з фронту бацьку, наўрад ці здагадаўся, як дакладна знайшоўся парафраз на папулярнага тады пісьменніка-рамантыка Экзюперы. Мала што ў фільме ад біяграфічнага факту, але ёсць дзіўная прыгажосць, якая дапамагае ўявіць васьмігадовага Віцю. Такім, якім ён... вярнуўся з вайны. Ён ведаў яе з пяцігадовага ўзросту. Цяпер вось дзіцячыя ўспаміны дапаўняюцца новымі і новымі падрабязнасцямі. Калісьці ён не вельмі любіў пра гэта распавядаць. І ў гэтым таксама — іншы час, калі можна сказаць, як мясцовыя немцы дапамагалі хворай сястрычцы, як пасля фашысцкага лагеру маці прапанавалі ехаць у Канаду, як скрутна жылі пасля вяртання на Беларусь.

Нядаўна Маргарыта Касымава, рэжысёр, аднакурсніца Віктара Турава па ВГІКу, расказвала, як упершыню да іх на заняткі прыйшоў майстар Аляксандр Пятровіч Даўжэнка. Вы ўсе — дзеці вайны, сказаў ён, акідваючы позіркам Георгія Шенгелая, Атара Іяселіяні, Ларысу Шапіцька, Віктара Турава.

Можна сказаць, што яны былі дзецьмі з дарослым жыццём. Тое, што недабраў Тураў у дзяцінстве, ён дабіраў у карцінах, гуляючы з мастацкім кіно, як з цацкай, як з маляўнічай дзіцячай кніжкай. Сам ён мяркуе, што рабіў кіно ў традыцыях паэтычнага напрамку, закладзенага А. П. Даўжэнкам. Аднак не бывае, каб вучань дакладна паўтарыў майстра. Тым больш Тураў, які ствараў на экране свой свет, — як дарослае дзіця.

Іх пакаленне яшчэ называюць шасцідзесятнікамі. Бо яны ўвайшлі ў жыццё разам з хваляй хрушчоўскай адлігі, абноўленай Масквой, рытмамі рок-н-рола і песнямі пад гітару. Уладзімір Высоцкі тады праспяваў сваім хрыпатым голасам песню ў карціне "Я родам з дзяцінства", гуляючы ў бывалага франтавіка (як хлопчыкі гулялі ў "немцаў" і "нашых"). Паколькі быў час гульні — у парастку свабоды, раскутасць, у веру, што наперадзе чакае толькі шчасце...

Напэўна і тагачасныя фільмы пра ваеннае жыццё атрымліваліся з такой прагай дайсці да добрага ў чалавеку, што потым такія карціны ствараць не ўдавалася.

Калі напярэдадні юбілею па Беларускім тэлебачанні зноў паказалі рэтраспектыву тураўскіх карцін, па іх, як паводле своеасаблівага барометра, бачыўся ўсплеск ці ўзлёт грамадскага настрою.

Дарэмна шукаць у тых карцінах сляды дакументалізму, фактаграфічнасць. У драматургіі стужкі "Праз могілкі" — іншая атмасфера. Яе б назваць няпэўнаю мрояй пра тое, што магло б спраўдзіцца, але не спраўдзілася. Вось праезд Міхася і Сазона Іванавіча праз нямецкія пасты. Доўга рухаецца воз. Вакол — шэрань восеньскага дня, непрыбранасць зямлі, плямы пагарэлых хатаў. Такі просты і шчымлівы краявід, аднак дзіўна, што сэрца толькі на імгненне сціснецца. Убачыўшы вочы Сазона Іванавіча, верыш, што даедзе гэты воз да месца, што абміне бяда, і гэты вобраз застанецца ў памяці як сімвал і знак гора, якое цябе не закране ніколі.

Гэта — тая самая вера ў лепшае, у тое, што свет можна зрабіць гарманічным з дапамогай гульні.

Пайшло, адкацілася ад нас такое кіно, дзе была прастора для ясных пачуццяў, для паўнаты разумення таго, што чалавек трапіў у гэты свет на крылах надзеі.

У Турава заўсёды было абвостранае адчуванне часавых зменаў Адзін зусім неблагі кінакрытык назваў гэта сацыяльным тэмпераментам. Не ведаю, як наконт сацыяльнасці, аднак імпульсіўнасць натуры ўласцівая Тураву. Таму ягоныя фільмы не былі роўнымі, выверанымі па думцы. Ідэя? Ідэя была. Яны падштурхоўвалі зрабіць "Братоў Гуляевых", якія на здымачнай пляцоўцы ператварыліся ў карціну "Час яе сыноў". З прэтэнзіяй на эпічнасць назва, намёк на мастацкі корань з Брэхта, але ж толькі намёк. Бо ў той момант важна было паказаць на экране далучанасць звычайнай сям'і да лёсу краіны. Браты Гуляевы ў аб'ектыве камеры аператара Дзмітрыя Зайцава ператвараліся ў абагульнены партрэт лепшага чалавека. На жаль, бракавала гэтаму партрэту яркай індывідуальнасці...

Адчуваў у той час Тураў гэтую ненатуральную ўзнёсласць, якую лічылі сацыяльна арыентаваным заказам. Яшчэ Бялінскі, помніцца, выказаў думку, што твор мастака трэба ацэньваць па законах ягонага часу. Так і ў сваёй карціне Тураў з дзіцячым азартам... гуляў у сацыяльнасць...

Вось ён на шэрагу фота тых даўніх дзён. Побач з адным са сваіх улюбёных акцёраў Б. Бабкаўскасам. Побач з М. Грыцэнкам. Абодва адышлі заўчасна.

На "Беларусьфільме" расказваюць, што Тураў любіць акцёра, умее з ім працаваць, не заціскае ініцыятыву. На фатаграфіях бачыш, што паміж рэжысёрам і артыстамі — нармальныя чалавечыя дачыненні. Тураў сябруе з тымі людзьмі, якім ён давярае. Акцёры ў яго з "даверчай" катэгорыі...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА**

*Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА*

*Усіх адпускаю нявольніц,*
*Выраю абяцаных,*
*Верных маіх суразмоўніц,*
*Птушак акальцаваных.*

***Папраўдзе сказаўшы, шкода мне дзённіка, гатоў і паплакаць. Малая ўцеха ад мудрасці: страціўшы галаву, па валасах не плачуць. Галава яшчэ пры мне, а вось прадбачлівасці ў яе не хапіла, каб у свой час ладаваць і парадкаваць тое, што занатоўвалася на паперы болей чым за паўвека.***

***З бліжэйшага па часе яшчэ магу сёе-тое расчытаць і то пры дапамозе павелічальнага шкла.***

**усё жыццё"**. *(Павел Фларэнскі, з ліста да сям'і, май 1937 г. Салаўкі.)*

### СЦВЯРДЖЭННЕ АДМАЎЛЕННЕМ

Найпрасцейшы і ўсім даступны ў доказах метад, якім мала хто рашаецца карыстацца. А без яго не абыходзіўся нават Мендзялееў, адкрываючы элемент за элементам у сваёй славутай табліцы.

Калі ад нечага цэлага адняць часцінку, і стройнасць цэлага парушыцца і ўжо не будзе цэлым, а наша ўяўленнё страціць успрыманне поўнай карціны, значыць, тая часцінка, якой не стала, мела вельмі значную каштоўнасць.

Спосабам выключэння, на хвіліну дапускаючы, што вось не было б мяне, не было б і людзей і падзей, злучаных між сабою наяўнасцю маёй прысутнасці, альбо нават дык вось у гэтым зборніку музыка на верш Буйлы належыць самому аўтару зборніка — М. Равінскаму. Праўда, і аб напісанні прозвішча кампазітара мушу зрабіць агаворку. На вокладцы ён — М.Равінскі, а на ўсіх старонках, дзе друкуюцца тэксты з факсімільнымі, напісанымі старанна і прыгожа ад рукі нотамі, скрозь пішацца "муз. М.Равенскага".

Ім, гэтым аўтарам, пакладзены на музыку і яшчэ два вершы паэтэсы: "Каб я крыллі мела" і "Я шукала". На вершы Максіма Багдановіча: "Завіруха" (У бубны дахаў вецер б'е), "Не кувай ты, шэрая зязюля". На вершы Якуба Коласа: "Край наш бедны", "Вясна" (Вясна, вясна жаданая) у рытме полькі, "Зіма" (Белым снегам замятае) і "Ой, ты вецер неспакойны".

Каларытную музычную карціну "У карчме" напісаў Мікола Равенскі на словы Дуніна-Марцінкевіча з паэмы "Гапон".

часы, у часы агрэсіўнай цэнзуры паэзія вымушана шукаць болей складаных і дасканалых сродкаў і формаў выказвання, таму і бліжэй да сваёй спецыфічнай аб'ёмнасці.

У поўнай згодзе з афіцыйнай думкай паэт ніколі не скажа новага слова. Мастацтва ў вечнай апазіцыі да манапольнага права на ісціну.

Таму ў нашы дні пры такіх слоўных феерверках з трыбун і з газетных палос і заняло мову паэтам.

Як ні парадаксальна, а ў найболей цяжкія для сябе часы паэзія заўсёды сталела, мужнела і самаўдасканальвалася.

### ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ ВОБРАЗА

Даўно ўжо Алесь Разанаў адкрыў для сябе новыя магчымасці выказацца ў лірычным вершы не традыцыйнымі сродкамі паэзіі, што ўзбагачаюць і самую паэзію не толькі метафарычнасцю, гукавой прасторай, а і магчымасцю бачання і спазнання ператварэння і пераўвасаблення яе ў аб'ект філасофскіх і эстэтычных дачыненняў, аб'яднаных вобразнай сістэмай мыслення паэта.

Некалі вызначаючы форму сваіх пошукаў, гэты, манапалізаваны ім, вопыт паэт называў "версэтамі", цяпер — "вершаказамі". Між сабой яны не антыподы, а яшчэ болей падкрэсліваюць самы творчы прынцып, якім аўтар даводзіць, што паэзіі яны не супроцьпаказаны, а, наадварот, могуць узбагачаць яе. І той вопыт, і тая практыка, якія набываліся Разанавым праз многія гады ўпартым эксперыментаваннем у слове, у мове, згодна спасціжэнню іх этымалагічных і алітарацыйных сувязяў, арганічна спалучыліся ў духоўным і матэрыяльным асяроддзі.

Гэта мае ўражанні ад публікацыі ў "ЛіМе" 13 сакавіка 1992 г. яго вершаў "Век", "Вежа", "Грыб", "Збан", "Каса", "Ноч", "Певень", якія прыемна ўсцешылі і яшчэ болей сцвердзілі, што паэт, можа, як ніколі раней, дасягнуў свайго жаданага плёну, хоць на шляху яго пошукаў было нямала чыста фармальнага штукарства, за што і аз грэшны ў свой час ушчуваў паэта ў артыкуле "Слова ў вершы" (1984 г.).

Рады, што ні ў чым не прыйдзецца вінавaціцца мне, цешачыся таму, чаму цешыўся і тады ў сваіх развагах пошукам наватарскім і перспектыўным. Думаю, зусім невыпадкова ў часе разваг над новымі вершамі А.Разанава, відаць, па вельмі блізкай аналогіі прыйшоў на памяць арыгінальны вопыт А.Вазнясенскага не толькі як паэта, але і архітэктара, дызайнера, што з дапамогай простых, часта пабытавых рэчаў ствараe вобразы, за якімі бачацца і чытаюцца з'явы, ідэі, сімвалы і знакі, што не могуць не ўразіць і не ўзрушыць значнасцю думкі пры ўсёй, здавалася б, наіўнай простасці, даступнасці і зрокавай пластычнасці матэрыялу.

У Вазнясенскага яны называюцца "Відэомы". І творацца з пабытавых звычайных рэчаў. Скажам, кавалак вяроўкі, завязаны пятлёю, і белы доўгі шоўкавы шалік аб'ядналіся ў адной трагічнай кампазіцыі і сышліся лёсамі — Сяргея Ясеніна і Айседоры Дункан. Гэта толькі адзін прыклад, як апорны сігнальны знак, дастатковы для таго, каб наша памяць разгарнула ўсю метафару і прачытала ўсё, што яна ведае, што запісана на яе шпальтах.

Як бачыце, Вазнясенскаму быццам мала слова, якое ўжо ўдасканаліў да віртуознай кандыцыі, майстар шукае яшчэ самавыяўлення і ў матэрыяльным, у рэчавым асяроддзі. І яго "відэомы" — таксама паэзія.

Матэрыял для Алеся Разанава, для яго паэзіі спрадвечны — мова. Толькі ён не бярэ яе гатоўкаю з ужо адпрацаваных пластоў, а шчодра і настойна ўзбагачае новымі энерганосьбітамі вобраза.

Для яго ў кожным слове свой атам, але каб дайсці да яго ядра і нарэшце расчапіць яго, паэт штораз мусіць прабіцца праз бясконцасць этымалагічных абалонак. так нараджаецца верш Разанава.

### СТАРОНКІ БОЛЮ І ТРЫВОГІ

Пазваніўшы Івану Антонавічу Брылю, павіншаваў яго з новай публікацыяй, якой пачынаецца кастрычніцкі нумар "Полымя" (1993) — "Свае старонкі". Сапраўды, свае, ульсныя, з болем, з пакутамі, з трывогай за лёс народа, за яго будучыню.

Нацыянальная ідэя як галоўны кантрапункт усяго стройнага і паслядоўнага ладу гэтых дзённікавых занатовак са сваімі жыццёвымі фабуламі і сюжэтамі, запісаных часта на хаду, у самых розных абставінах і пры сустрэчах з людзьмі, пачынаючы з "нізоў" і канчаючы "вярхамі", спачатку да канца праходзіць скрозь усе горкія развагі, боль сэрца і душы пісьменніка.

Госпадзі, няўжо ж самім табою суджана нам такая доля і будучыня, калі ўжо і народ зняверыўся: от, хай ідзе, як і да чаго ідзецца? Чыё звяставанне спраўдзілася? Маладога прарока: "О, Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет, у ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш!", ці прарока апакаліпсісу, калі чвэрць нашай роднай зямлі ўжо зарасла атрутным чарнобылем? А няўж ж і нашы папярэднікі, пачынаючы ад Скарыны, болей аптымістычна глядзелі ў перспектыву, чым пазнейшыя.

*(Працяг на стар. 14–15)*

Васіль ВІТКА

# АКАЛЬЦАВАНЫЯ ПТУШКІ

### ДА ТЭМЫ "ДЗЕЦІ І МОВА"

Наша праўнучка з тых дзяцей, што пачынаюць гаварыць са спазненнем. Але мяне гэта не бянтэжыць, не засмучае. наадварот, я цешуся, назіраючы, як ідзе вельмі цікавы для мяне і паступова развіваецца і ўзбагачаецца самы працэс авалодання словам.

Дзіця якраз у тым узросце, калі многія гавораць, а яна ў свае два гады толькі пачынае, праўда, вельмі актыўна, адкрываць і спазнаваць словы, галоўным чынам, праз слых, разумеючы ўсё, што ёй гаворыш, аднак адважваючыся ўпэўнена вымаўляць толькі аднаскладовыя, падначальваючы гэтаму спосабу вымаўлення і двух, і трохскладовыя. Але бачачы, што яе не разумеюць, бярэ мяне за руку і вядзе да той рэчы, цацкі, кнігі, якія ёй конча неабходны. З кожным днём узрастае патрэба самавыяўлення ў слове як сродку дачыненняў і ўзаемаразумення з роднымі і блізкімі.

Што для мяне новае, чаго не разумеў па сваіх назіраннях, калі пачыналі гаварыць мае дзеці, а потым, па болей свежых уражаннях, і мае ўнукі?

У кожнага дзіцяці свой уласны, індывідуальны і непаўторны спосаб далучэння да слова.

Вось Жэнечка, яшчэ не ўмеючы гаварыць, а ўжо колькі разоў паказвала, а дакладней сказаўшы, разыгрывала нам з бабкай цэлыя спектаклі, узрушаныя маналогі, поўныя буйных страсцей, эмоцый, перажыванняў, — і ўсё гэта ў самай багатай, яркай і разнастайнай гаме пачуццяў — ад захаплення да абурэння нечым, ад засмучэння да спачування, ад расчаравання да бурнай радасці і ўрачыстай перамогі. У самых неверагодных ролях у яе знаходзіліся адпаведныя жэсты і міміка, рухі і логіка паводзін. Гэта была не толькі імітацыя, але і творчасць.

Дзіця ўжо зусім блізка падышло і вось-вось пераступіць Рубікон — ад бязмоўя да ўлады над словам. І пераадолее мяжу, можа быць, адразу і значна лягчэй, чым іншыя ў яе ўзросце. І толькі таму, мне думаецца, што Бог ёй даў болей верны спосаб авалодання моваї — спазнанне яе праз пачуцці. Эмацыянальнае спазнанне заўсёды было, ёсць і будзе вышэй за разумовае, рацыяналістычнае.

І асаблівым пацвярджэннем гэтай маёй думкі быў эпізод у час перадачы па тэлебачанні вячэрняй праграмы для дзяцей "Спакойнай ночы, малышы!", якую наша Жэнечка, здаецца, і не надта ўважліва глядзела, але якой нечаканасцю для нас было, калі яна раптам прыпала ўсім слыхам да першых гукаў моцартаўскай калыханкі, і адразу ж да настрою мелодыі далучыўся тоненькі, як празрысты струменьчык, і яе галасок. Дзіва дзіўнае! Дзіця спявала — чыста, хораша і стройна. Я ўпершыню пачуў спеўны галасок праўнучкі. І гэта было і маё душэўнае ўзрушэнне і радасць — дзяўчынка ўпершыню і незаўважна для сябе натуральна далучылася да харастваа гукавой гармоніі і слыхам, і душою.

Так я яшчэ раз упэўніўся ў думцы, што і ў першабытным сваім маленстве чалавек заспяваў раней, чым загаварыў.

**"...Сакрэт творчасці — у захаванні юнацтва. Сакрэт геніяльнасці — у захаванні маленства, дзіцячай інтуіцыі на** залежных ад майго ўдзелу.

Часцей задумайся: без мяне мой народ няпоўны. (Андрэй Платонаў).

Строгі крытэрый, але самы неабходны, асабліва нам, беларусам.

### УВАСКРАШЭННЕ ПАЭТА

У Саюзе пісьменнікаў — вечар, прысвечаны стагоддзю Алеся Гаруна. Нарэшце! Уваскрашэнне паэта.

Перад уваходам у клуб тоўпіцца чарга ля кніжнага кіёска. Па два, па тры экземпляры, а то і болей купляюць, што называецца, нарасхват "Матчын дар" — факсімільнае выданне.

Упершыню некалькі пакаленняў беларусаў будзе чытаць творы вялікага паэта-пакутніка.

Са сцэны гаварылася многа балючай праўды і горкага дакору самім сабе, што столькі год (па сутнасці 70!) паэт быў у забыцці і нябыце, хоць і пасля вайны рабіліся спробы сказаць праўду. Перш за ўсё прыгадваю артыкул М.Ларчанкі, за які мяне, грэшнага, пацягнулі ў ружовы дом, загадзя падрыхтаваўшы праект пастановы аб зняцці з пасады рэдактара.

На жаль, і на юбілейным вечары, галоўным чынам, гаворка ішла аб палітычна-грамадскім аспекце творчасці, а не аб яго незвычайна самабытным таленце. Такія яго шэдэўры — анталагічныя і хрэстаматыйныя, як "У прыпар", "Завіруха", нават не былі ўспомнены. Тэндэнцыя сацыялагізацыі і палітызацыі ўсё яшчэ бярэ верх у нашых тэарэтыкаў. А ідэалізацыя, дык тая не пасаромелася і вачэй усёй залы. Над сцэнай красаваўся партрэт паэта, сапраўды, красаваўся, бо ў людзей жа, што сядзелі ў зале, у кожнага быў "Матчын дар", а ў ім — адзіная прыжыццёвая фатаграфічная картка, па якой мы і маем уяўленне аб Гаруне, мінскім рабочым, рамеснікy ў танным пінжачку, рубашцы ў дробны гарошак, каўнер якой нават не прыгладжаны, а краямі вытыркае ўгору. А на сцэне як ён прыхарашыўся! Спецыяльна да свайго першага стогадовага юбілею і адпаведна сучаснай модзе! І што асабліва ўражвала, дык гэта яго зялёны гальштук! Пастараўся мастак — з дакумента, з праўды зрабіў фальшыўку.

Па даўняй аналогіі прыгадалася, як некалі ў самым першым доме пісьменнікаў па Савецкай вуліцы яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў пры ўваходзе былі вывешаны партрэты вядомых маладнякоўцаў, прыгожых беларускіх хлопцаў у модных тады вышываных кашулях. Але неўзабаве павеяў сіберны вецер з усходу і ўсе партрэты "ўцяплілі" — замест кашуль надзелі чорныя скуранкі.

Крый нас, Божа, гэтак абысціся і са спадчынай вялікага паэта.

### КАМПАЗІТАР, ГОДНЫ НАРОДНАЙ ПАШАНЫ

Чамусьці ў нас, беларусаў, надзіва нетрывалая памяць, як дзіравае рэшата. За якое адно пакаленне нават наша інтэлігенцыя можа начыста забыць, хто што добрае зрабіў для свайго народа. Прыгадваем вершы, спяваем песні, а хто іх напісаў, стварыў музыку, часцей за ўсё не ведаем. Лягчэй сказаць: народнае, народная музыка.

Так амаль заўсёды чую, калі спяваюць здаўна ўсім вядомы верш Канстанцыі Буйлы "Люблю наш край". А музыка таксама ж не безыменная. Я і сам доўга не ведаў, што ў гэтае, такой простай і мілай, задушэўнай мелодыі ёсць аўтар.

Яшчэ з першых пасляваенных гадоў, блізка паўвека паміж кніг і архіўных папак ляжаў у мяне зборнік песень з нотамі, выдадзены "беларускім кааперацыйна-выдавецкім таварыствам "Савецкая Беларусь" — так на вокладцы напісана, а на тытульным лісце — "Таварыства "Адраджэньне", Менск, 1922 г.",

**Шум, крык, гоман у карчме,**
**Кіпіць сельская дружына,**
**Піва, мёд, гарэлку п'е,**
**Ажно курыцца чупрына...**

— і канчаючы заліхвацкімі прыпеўкамі:

**Эй, чух, Кацярынка!**
**Чабоцікі красны;**
**Чаму ж блішчаць, каго любяць**
**Твае вочкі ясны?**

Вядомы верш Янкі Купалы "Гэй, паехаў сын Даніла", напісаны ў форме і ў стылі народнай песні, мабыць, на той час ужо меў і мелодыю. Таму занатаваная кампазітарам пазначана як "гарманізацыя М.Равенскага".

Гэтак жа гарманізаваны ім "Жаўнерыксаколік" Змітрака Бядулі, "Ах, ты Нёманрака" Цішкі Гартнага, цудоўныя народныя: "Лявоніха", "Рабіна", "Ды ўжо сонейка", "Чачотачка", "Зашумела дуброва", "Ой не кукуй", "Як я молада ў матулькі жыла", "Зялёны дубочак", калядная: "Вароты скрыпяць", валачобная: "А хто ў полі" і шмат іншых.

Вось якое песеннае багацце, яркае, самабытнае! А паспрабуйце даведацца, хто ён, руплівец і дбайны збіральнік стваранага народам і ім самім, кампазітарам, яшчэ нашым сучаснікам, а ўжо за нейкае паўстагоддзе паспеў забыцца, прапасці ў нетрах нашага беларускага бяспамяцтва.

Дарэмна будзеце шукаць яго прозвішча ў нашай агульнай энцыклапедыі, у пяцітомным даведніку "Літаратура і мастацтва": няма такога — ні М.Равінскага, ні М.Равенскага.

Нізкі паклон табе, сапраўдны падзвіжнік, кампазітар, годны высокай народнай пашаны!

**P.S.** Пяццю гадамі пазней пасля гэтага запісу прыемна было даznацца, што родная дачка кампазітара В.М.Аляксеенка — салістка хору Беларускага тэлебачання і радыё, якім кіруе вядомы прафесар Віктар Роўда. Вольга Мікалаеўна таксама не мела бацькавага зборніка, які я быў рады падараваць ёй з надзеяй, што Беларусь яшчэ спазнае вялікі талент кампазітара і будзе ганарыцца ім перад светам.

### КОЛЬКІ РАЗОЎ Я НАРАДЖАЎСЯ

Доўгае жыццё пражыў я. Але, акрамя года свайго нараджэння, у другі і трэці раз з нараджэннем сваіх дзяцей. Яшчэ з большым узрушэннем і прасвятленнем у чацвёрты, пяты і шосты — з нараджэннем унукаў. І з асаблівым адчуваннем радасці ўваскрашэння і абнаўлення душы ў сёмы і восьмы — з нараджэннем праўнучак.

Вось які абсяг майго існавання на зямлі!

Цяпер, на схіле ўзросту, усё часцей і часцей свaёй памяццю вяртаюся да свайго пачатку, да ўласнага маленства, да маладосці сваіх бацькоў — Марыі Міхайлаўны і Васіля Максімавіча, да старасці бабкі Аксені Андрэеўны з роду Філіповічаў.

Імем маёй маці назвалі ўнучку, а імем маёй бабкі ўнучка назвала маю праўнучку, зусім не маючы на ўвазе імяннoй радаслоўнай эстафеты, але для мяне і гэтая акалічнасць як бы яшчэ адна вешка (вітка), што пазначыла тыя неабсяжныя даляглядьі, якія я бачу праз усю часавую прастору свайго перажытага.

Каторы раз зноў прыходжу да думкі, што чалавек жыве і павінен жыць адначасна і сінхронна ў трох вымярэннях: сучасным, мінулым і будучым.

### ЧАМУ ПАЭТАМ ЗАНЯЛО МОВУ?

Паэзія адкрытым тэкстам не можа быць паэзіяй. Мова яе — метафара, вобраз, алегорыя, алюзія болей аб'ёмныя матэрыяльнай слова.

У асабліва палітызаваныя, ідэалагізаваныя

**АД РЭДАКЦЫІ**

Гэты матэрыял Васіль Вітка прапанаваў рэдакцыі незадоўга да сваёй смерці. Апублікаваць яго пры жыцці Цімоха Васільевіча мы не паспелі. Робім гэта зараз, зважаючы на тое, што мудрае слова пісьменніка не паддаецца дэвальвацыі часам.

## ШЛЯХ У ЕЎРОПУ

**Цэнтр Еўрапейскіх доследаў і культурных ініцыятыў "Эўра Форум" выдаў першы беларускі філасофска-культуралагічны і літаратуразнаўчы часопіс "Фрагменты». Імёны аўтараў нумара — Мілаш Кундэра, Валянцін Акудовіч, Сяргей Дубавец, Марцін Гайдэгер, Валерка Булгакаў, Ігар Бабкоў, Збігнеў Герберт, Станіслаў Ігнацы Вайткевіч, Алег Дзярновіч, Кшыштаф Чыжэўскі, Вацлаў Гавел ды інш. — гавораць самі за сябе. "Крэда нашага выдання, — пішуць выдаўцы ў прадмове, — гэта Сярэдняя Еўропа, як месца, дзе цэнтр — паўсюль, а акружнасць — нідзе; гэта жывыя твары і жывое мысленне, па-за ўсялякімі інстытуалізацыямі і сацыялізацыямі, гэта культурны авангард і незалежныя "апрычоныя інтэлектуалы", якія гатовыя ва ўсялякі момант парушаць навязаны нам "рэжым праўды"... Часопіс выйшаў невялікім накладам. Аднак яго яшчэ можна замовіць у Мінску па тэлефоне 256-36-13 ("Эўра Форум").**

**Акрамя таго, "Эўра Форум" апошнім часам выдаў некалькі адметных і цікавых кніг. Прапануем чытачам "ЛіМа" кароткія анатацыі на іх.**

**Энтані Сміт. "Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі"**

**Кніга Энтані Сміта, прафесара сацыялогіі Лонданскага універсітэта, аднаго з вядучых даследчыкаў праблем этнічнасці і нацыяналізму, даўно ўжо зрабілася сучаснай класікай. Яна прысвечана шматлікім трансфармацыям нацыяналізму ў нашым стагоддзі, параўнанню яго з такімі ідэалогіямі "выратавання свету", як камунізм, фашызм і расізм. Разлічана на рэштکі інтэлектуалаў, а таксама на шырокае кола чытачоў.**

**Шарль Дэбаш, Жан-Мары Пант'е. "Уводзіны ў палітыку"**

**Кніга Шарля Дэбаша і Жан-Мары Пант'е "Уводзіны ў палітыку" сапраўды спрабуе ўвесці чытача ў свет палітыкі, з тым, каб пакінуць яго там назаўсёды. З крыху нязвыклай для французаў сістэматычнасцю аўтары імкнуцца вычарпаць гэты бясконцы універсум, разгледзець і растлумачыць практычна ўсё — ад этымалогіі слоў да складаных псіхалагічных матывацый. "Уводзіны ў палітыку" прэтэндуюць стаць настольнай кнігай, на якой будзе вучыцца не адна генерацыя палітыкаў, палітолагаў і проста студэнтаў.**

**Жана Эрш. "Філасофскае здумленне. Гісторыя заходняй філасофіі"**

**Свой агляд заходнееўрапейскай філасофіі Жана Эрш грунтуе не на фармальных праблемах, а на першапрычыне філасофскага мыслення — здумленні. У гэтым арыгінальнасць кнігі.**

**Філасофскае здумленне заўсёды ў руху, заўсёды ў пошуках жывога сэнсу. Апавядаючы пра гэтае здумленне, Жана Эрш пераасэнсоўвае, па сутнасці, усю філасофскую традыцыю: дасакратыкі, Платон, Арыстоцель, эпікурэйцы, стоікі, святы Аўгустын, Тамаш Аквінскі, Дэкарт, Ляйбніц, Лок, Кант, Гегель, Конт, Маркс, Фрэйд, Бэргсон, Кіркегар, Ніцшэ, Гусэрль, Гайдэгер, Яспэрс. Паводле слоў аўтара, здумленне гэтых філосафаў будзе актуальным ва ўсе часы.**

**Кнігі можна набыць у цэнтральных кнігарнях г.Мінска: "Светач", "Кнігарня пісьменніка", "Палітніга", "Беларусь".**

**Замовіць кнігі можна й непасрэдна ў "Эўра Форуме".** *Тэл. 256-36-13.*

## ПАВЕРЫЎ САВЕЦКАМУ "РАЮ"...

**Алесь Салагуб (нарадзіўся 18 кастрычніка 1906 года ў вёсцы Зарудзічы цяперашняга Смаргонскага раёна), скончыў Віленскую беларускую гімназію, прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе, двойчы (у 1924 і ў 1927 гадах) зняволькваўся польскімі ўладамі ў турму. Жадаючы жыць у савецкай краіне, А. Салагуб у 1928 годзе нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу. У 1931 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1931—1933 гадах вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. 10 жніўня 1933 года быў арыштаваны, аб'яўлены "ворагам народа". 9 студзеня 1934 года А. Салагуба прыгаварылі да выключнай меры пакарання і 17 мая таго ж года ён быў расстраляны.**

**Першыя вершы А. Салагуб напісаў яшчэ ў 1924 годзе ў польскай турме.**

**З 1925-га друкаваўся ў заходнебеларускім друку. У Мінску выдаў зборнік вершаў "Лукішкі" (1929). Выступаў як крытык, літаратуразнавец, займаўся публіцыстычнай дзейнасцю. У 1961 годзе часопіс "Полымя" апублікаваў "Лукішскі дзённік" А. Салагуба, які паэт вёў у зняволенні. Творы А. Салагуба прадстаўлены ў калектыўных зборніках "Сцягі і паходні" (1965), "Ростані волі" (1990).**

# АКАЛЬЦАВАНЫЯ ПТУШКІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Па-сапраўднаму народны Багушэвіч ужо з трывогаю папярэджваў: "Не цурайцеся, каб не ўмерлі", хоць наступны, яшчэ спадзеючыся і верачы, зведаў ужо і горкія сумненні, пачуўшы: "Па колькі ж нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?" А неўзабаве перадсмяротны смутак малодшага: "Народ, Беларускі народ! Ты — цёмны, сляпы, нібы крот". Няўжо ж мы — апошнія і ўжо зусім непатрэбныя народу, што так безыменным і сыдзе ў нябыт?

Я ўжо няраз хапаўся, як за паратунак, за такую думку: а што, калі б увесь наш люд, які яшчэ застаўся на гэтай пакутнай, набраклай крывёю зямлі, нарэшце, атручанай на вякі, перасяліць (вопыт жа дэпартацыі ў нас вядомы) на які-небудзь акіянскі востраў? Можа б, там мы адрадзіліся нанава, па прыкладу такіх, як маленькая Ісландыя, што ўжо сталася вядомай свету і адметнасцю сваёй культуры і славаю народа? А калі не на акіянскі востраў, дык у тую ж Сібір ці Далёкі Усход, дзе яшчэ столькі неабжытых прастораў!

Даўно заўважана, як беларусы здольныя абжываць неабжытае. Але не менш каштоўная і тая ўласцівасць іх душы і характару, калі на новым месцы раптам абуджаюцца іх даўно паснулыя пачуцці па ўсім родным і дарагім. І па забытых звычаях, і па ўспомненай мове, і песні. Магчыма, і ў нас потым знайшоўся б свой Майсей, каб, павадзіўшы яшчэ сорак год і па пустыні, нарэшце прывесці ў родныя палесціны?

Беларус па прыродзе настальгічны. Дзе б мы ні апынуліся, разам з намі наша генная памяць. А памяць нам даў Бог вялікую, ды яшчэ і ў глыбінных запасах. Толькі куды з ёю дзецца? Дзе разгарнуцца ў поўную сілу? Куды падацца?

Пры нагодзе, калі сустрэнуся з Іванам Антонавічам, папрабую выказаць яму гэтыя наіўныя, але, як мне здаецца, не такія безнадзейныя думкі, тым болей выкліканыя яго развагамі. А калі і ўсміхнецца з маёй манілаўшчыны, то і ў мяне на душы пасвятлее.

## ЦЕРАМ, ЦЕРАМ, ЦЕРАМОК

Па сваіх уласных законах ідзе працэс развіцця і ўдасканалення — змена адной эпохі другой, наступнай. Але ў чалавека, нават у яго калектыўным вопыце не выстарчае і ніколі не стае цярпення і здольнасці зразумець поступ, строй і логіку хады часу. І ён заўсёды, як той Піліп з канапель, недарэчы і безразважна кідаецца, хапаецца, пішчом, гвалтам лезе не ў сваё, упэўнены, што толькі ён і можа развязаць вузел усіх, якія яму здаюцца, супярэчнасцей.

На нашай, не такой яшчэ далёкай памяці адбыліся войны: Карэя, В'етнам, Афганістан, на Бліжнім Усходзе — доўгія, зацяжныя і адна з самых кароткіх у Персідскай затоцы. Не выкіпеў кацёл у Югаславіі, кіпіць у Чачні. І заўважце, самы недарэчны парадокс гісторыі — найболей крыві на руках "гуманістаў", што на словах ашалела змагаліся за мір, а тым часам гвалтоўна стрымлівалі і разбуралі натуральны працэс развіцця грамадства і падзей, да якіх, як да разбітага карыта, прайшлі самі. І таму найбольшыя страты, пакуты і ахвяры мусім цярпець мы каторы ўжо год, а канца не відаць.

Еднасць, што перад светам выстаўлялася за прыклад, за ідэал, нікога ўжо не прывабіць. Еўропа хутчэй пабудуе свой дом і, навучаная горкім вопытам, доўга будзе асцерагацца мядзведзя, каторы, як у той казцы, убачыўшы калектыўнае збудаванне, гатоў будзе ў навасельцы: — Церам, церам, церамок, хто ў тым цераме жыве?

## СЕРАБРО І ЗОЛАТА

Маё з Воляю сярэбранае вяселле супала якраз з днём, калі я быў у Друскеніках. Прыйшоў на тэлеграф, узяў бланк і напісаў: "Поздравляю серебром надеюсь на золото". Дастаяўшы чаргі, падаў у акенца. А тэлеграфістка, бачу, прачытаўшы раз, чытае другі. Што там лічыць — усяго разам з адрасам дзесяць слоў?

Цераз акенца паглядзела на мяне і толькі буркнула: — Хвілінаку, — і разам з тэлеграмай накіравалася ў бакавыя дзверы. А тут ужо і чарга на мяне напірае:

— Што там у вас так доўга?

З дзвярэй, нарэшце, выходзіць мая службістка. А за ёю мужчына. Пэўна, большы службіст. Пільна паўглядаўся ў мяне і абое зноў зніклі за дзвярыма. А чарга тым часам усё сваё нецярпенне абрынула ўжо на мяне:

— Вы што, у Амерыку тэлеграму пасылаеце?

— Ды не, у Мінск. Жонку з серабром віншую, спадзяюся на золата.

Знайшліся здагадлівыя, весела зарагаталі:

— Валютчык!

Якраз так і ўспрынялі мой шыфр. І на ўсякі выпадак, згодна паказанага на бланку адраса санаторыя, пазванілі туды і ўпэўніліся, ці ёсць такі. Валютчык быў злоўлены. Дзякуй Богу, сваё залатое вяселле адзначаў дома.

## МОВА

"**А мяне гэта датычыцца?** — спытаў сын". Так паводле "Наст. газеты" (29.12.90) гаворыць сын з маці. Заўважым, сын — першакласнік. Якою моваю ён загаворыць у наступных класах, калі ў першым ужо ведае: "80 працэнтаў злачынстваў робіцца ад алкаголю". Гэта ён паведамляе свайму бацьку.

**"Шпік беларускі"** — адразу і не расшалопаў. А гэта надпіс над пластом сала ў мясным аддзеле магазіна.

**"Трэба быць наетым..."** — курсіў, як кажуць, мой, хоць не цяжка здагадацца, што мае на ўвазе аўтар: каб добра працаваць, трэба быць накормленым, сытым. Аднак — не вельмі лашчыць слых, тым болей чуць гэта з вуснаў жанчыны.

**"Яшчэ б!"** — чытаю ў перакладзе рускае прыслоўе. Той, хто гэтак перакладае, мабыць, ніколі не чуў у нашай гаворцы: "Дзіва што!"

**"Тлумачальны слоўнік"**. З таго часу, як ён выйшаў і, мабыць, у многіх з нас напагатове, часта заглядваю ў яго і я, калі на памяць наплывае знаёмае з маленства слова, сказ, фразеалагізм: цікава, ці ёсць, ці занатаваны ў слоўніку?

У большасці выпадкаў — няма. Тады на палях старонак устаўляю ўспомненае. І не раз падумалася, калі б кожны, каму рупіць клопат аб мове, дадаваў у свой экземпляр тое, што яшчэ не забылася, дык праз колькі год у наступных перавыданнях мы значна пабагацелі ў сваіх лексічных запасах.

**"Яткі"** — з нечай лёгкай рукі пушчанае ў абыходак у значэнні: латок, прылавак, кіёск, палатка. У газетах пішуць: "яткі "Саюздруку". Змалку памятаю, яткамі зваліся і завуцца мясныя рады на рынку. Нават прымаўка сведчыць: "Яхкае, як сабака на ятках".

**"Разбілі парк"**, **"Задулі домну"** — гатоўкаю бяруць з рускай, не ўдаючыся ў сэнс, як па-беларуску ўспрымаецца: разбіць — знішчыць, задуць — задзьмуць, патушыць.

**"Знаходжанне завершана"**. Чым не ўзор, зусім не далёкі ад славутай "адсутнасці прысутнасці"?

**"Прапанавалі закранутым асобам вытлумачыцца"**. Каб уцяміць, пра што хоча сказаць аўтар, трэба перакласці наадварот: "предлагали затронутым (критикой) лицам объясниться".

"Трэба знаходзіць іншыя шляхі **пагаджэння**". Відаць, мелі на ўвазе "пагадненні", "згоду", ("Нар. газета").

*"Якая з жанчын не хоча быць прыцягальнай?"* — пытаецца газета "Добры вечар", рэкламуючы новую жаночую цырульню на Траецкім прадмесці, па сутнасці ўжо адразу зняважыўшы яе будучых кліентак. Навошта гвалтам іх **цягнуць**, калі, я ўпэўнены, што кожная, наадварот, і не хоча быць "прыцягальнай", дастаткова проста быць "прывабнай".

**"Новая сукенка караля"** — абвясцілі па нашым радыё ў дзень 180-годдзя Х.-К.Андэрсена, так пераклаўшы назву яго славутай казкі.

**"Злепак часу"** — назвала "Звязда" скульптара А.Бембеля ў дзень яго 80-годдзя. Якая вобразная дакладнасць! Добра, што я не скульптар, тым болей — не юбіляр.

**"Венок девочек"** — так пераклалі адна другой юныя мінчанкі, убачыўшы на кніжным прылаўку "Вянок дзівосаў".

**"Раз за разам"** замест раз-пораз.

**"Ён не ў стане зрабіць гэта"** і "Ён не ўстане зрабіць гэта". Якая розніца паміж гэтымі двума сказамі. Ніякай. Убачыць можна толькі вачыма. А гэта ж перакладаецца пры дапамозе слоўніка: "Он не в состоянии"... Бо калі ён не ўстане, значыць, ляжыць, хворы або зусім мёртвы, як мёртвая і мова, на якой піша аўтар.

**"Неўяўляльныя жахі"** — ("Нар. газета"). Папрабуйце вымавіць. Галоўны клопат перакладчыка, каб адпаведна супала колькасць слоў, хоць па-беларуску трэба было сказаць: "Жахі, якія немагчыма сабе ўявіць" або "Жахі, што не паддаюцца ўяўленню".

**"Наступствы"**. Яшчэ няма ў слоўніках, але шырока пайшло ў абыходак асабліва пасля Чарнобыльскай бяды. "Последствия" хтосьці пераклаў, не ўдумваючыся ў рускую этымалогію. Не спецыяліст, не філолаг, магчыма, замест нязграбнага "наступствы" сказаў бы — "паследкі", або нават "спадкі" — горкая спадчына пасля бяды.

У Насовіча наступства — наступ, напад. У другім значэнні — пераемнасць.

*"Перадаём палюбіўшуюся вам песню"* — радыё, канцэрт па заяўках. Супрацьпаказаныя, неўласцівыя беларускай мове дзеепрыметныя формы асабліва актывізаваліся і на старонках друку і ў службовай лексіцы: "шуюся", "шыяся", "чых", "чыхся", "чаямыя", "ушчыся", "юшчыся" — і гэтак бясконца: адны чыхаюць, другія чухаюцца.

**"Тычыцца"**. Зноў дурацкае гэта слоўца! Спатыкаюся аб яго, як які патырчак на дарозе. Народны празаік піша: "Што тычыцца Льва Мікалаевіча Талстога..." Так і карціць запытацца: "Чаго ты тычашся з Львом Мікалаевічам? Няўжо нельга прасцей: "Што да Льва Мікалаевіча, дык я..."

**"У мове шукайце ратунку"**, — піша Грыгорэ Віеру, мой малдаўскі калега, дзіцячы паэт, аўтар (разам з С.Вангелі) славутага малдаўскага буквара, член Румынскай акадэміі навук.

## МІГРАЦЫЯ СЛОВА

Не вялікі знаўца лінгвістыкі, думаю, што адна з самых цікавых яе спецыяльнасцяў, калі ёсць такая, гэта даследаванне гістарычнай міграцыі слова. Як адно з адной мовы пераходзіць у другую, набываючы зусім іншае значэнне, а ў сваёй, прыстасоўваючыся да новай эпохі, цалкам захаваўшыся, але вызначае ўжо новую залежнасць ад свайго часу.

**Мультыплікацыя.** Хто не ведае яе цяпер? Ведаюць усе, асабліва дзеці. Але няхай не будзе для вас нечаканасцю, што ведаў яе яшчэ і Пётр I у сваім малалецтве, калі з вялікім намаганнем засвойваў арыфметыку, назвы яе чатырох дзеянняў.

Самае цяжкае з іх для юнага цара было множанне — multiplicatio! Вось тлумачэнне Пятра, напісанае яго рукой, як рашаюць задачку на множанне: "Что хочешъ умножат число стаф наверх, а которым умножат хочешъ подіспот". (В.Ключевский. Курс русской истории, т. IV).

**Бахілы.** Вядомае яшчэ з дапятроўскай Русі. Занатавана ў Даля як рабочы абутак. Розныя назвы, адпаведныя працоўнаму прызначэнню: бахілкі, упакі, чаркі, аларчыкі, бахоры, каты, кенгі. Упершыню здзівіўся бахілам, яго сучаснаму гучанню, чытаючы раман "Пётр I".

Хто ў наш час не ведаў і не ведае, што, пачаўшы з вайны і яшчэ доўга пасля, асабліва вясковы люд — ад малога да старога — быў абуты ў бахілы, самаробныя галёшы з гумавых аўтапакрышак?

У гісторыі засведчана беларускай прымаўкай: "Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну".

## НЕЙРАЛІНГВІСТЫКА

Цяпер гэта галіна мовазнаўства, якая вывучае, даследуе сувязь мовы і мозгу, а нейрасеміётыка займаецца сувяззю розных відаў знакаў з мозгам чалавека. Вядома, што левае паўшар'е загадвае мовай, а правае — музыкай.

Марыса Равеля спасціг інсульт, пасля якога ён доўга і з вялікім намаганнем авалодваў мовай, не мог гаварыць, але поўнасцю захаваў здольнасць не толькі ўспрымаць, але і тварыць музыку.

## КАРАЛІНА І ФРАНЦІШАК

Гэта, мабыць, адзін-адзіны твор, які вядомы паэт склаў спецыяльна для дзяцей малодшага ўзросту.

Не запісаўшы твор у дзённік, я памятаю яго і цяпер:

**Караліна**
**І Францішак**
**Пад ялінай**
**Ловяць мышак.**

Было тое даўно, калі і мы, яшчэ маладыя, і дзеці нашы малыя любілі летаваць у Каралішчавіцкім лесе.

Караліна і Францішак былі ўлюбёнцамі дзяцей. А ўславіў іх Аркадзь Куляшоў. І потым часта на ўсе лады любіў дэкламаваць, як толькі ўбачыць сваіх герояў — кошку і ката.

## ВОДГУК НА ЖНІВЕНЬСКІ ПУТЧ

**Калі гэтак путчыла ад камунізму,**
**Лепш было загадзя паставіць клізму.**

*1991*

## НА ЎТВАРЭННЕ СНД

**Згарэла Нова-Агарова,**
**Апала попелам у Белавежы**
**На нашыя лясы-дубровы,**
**На беларускае памежжа.**

**Хто знае, родны мой народзе,**
**Каторы раз ужо, каторы,**
**Калі і ў новае стагоддзе**
**Нас ашукае зноў гісторыя.**

*Снежань, 1991*

## СЕМ ПАРТРЭТАЎ СЯМІ ПАЭТАЎ

Засведчу яшчэ адну ўцешную падзею дня. "Літ. і маст." (3.09.93) апублікавала артыкул Галіны Анатольеўны Каржанеўскай. Пішу з такой урачыстай павагай да імя паэтэсы таму, што гэты ее арыгінальны дэбют у аналізе (а хутчэй у характарыстыцы) сямёх сучасных паэтаў. Спадзяюся, прыемна ўразіў не толькі аднаго мяне. Уразіў нечаканасцю спосабу характарыстыкі.

Свядома не называючы ні імёнаў, ні прозвішчаў аўтараў, творчасць якіх яна даследуе, Галіна стварыла сем манаграфій-мініяцюр, у кожнай з якіх — аблічча асобы і жывы характар паэта. Хто ўважна сочыць за нашай паэзіяй, без асаблівых намаганняў пазнае кожнага. Ну а хто не сочыць і не вельмі ведае літаратуру? Спадзяюся, той яшчэ болей зацікавіцца, дзе б і каго з іх пачытаць. І гэта таксама прыём "вярбоўкі" новых чытачоў паэзіі, думаю, не менш важны і карысны. Гэта ўсё адно, як для аматараў разгадваць красворды — практыка болей карысная за любыя іншыя захапленні. А галоўнае, што і для самой аўтаркі як "партрэтыста" яшчэ і магчымасць большай аб'ектыўнасці характарыстык. Я не думаю, што каторы з сямёх пакрыўдзіцца на недакладнасць сваёй візітнай карткі, бо кожны носіць сваё асабовае імя, якое пазнаецца і без вымаўлення яго ўслых.

## РЫФМА Ў ЖЫВОЙ ГАВОРЦЫ

Здаўна між людзей у асаблівай пашаноўлі той, хто дасканала валодае словам. А калі яшчэ сказанае можа прыпячатаць і рыфмай — о, тут самая большая ўцеха і асалода!..

Памятаю гэта па мамінай сястры, цётцы Настусі. А здольнасць гэтая перадалася і яе дачцэ, маёй стрыечнай сястры Мані.

Бывала, збіраемся з жонкай паехаць у Еўлічы, а яна ўжо загадзя просіць, каб конча наказалі ў Малшэвічы, нехай прыйдзе Маня.

На гасціну збіралася ўся радня і сябрына. А ў цэнтры ўвагі — Маня. Як скажа што, ды яшчэ прыкладзе ў рыфму, тут усе і палягаюць з рогату.

— Ой, Манечка, ты — сапраўдны Райкін! — сказала ў захапленні Воля.

— Мела б якіі, была б Райкін, — пачуўся адказ, і ўсе зарагаталі яшчэ весялей, дапытліва пазіраючы на мяне: "А ты вось так можаш?" — як бы пытаўся кожны. "Канешне, не магу", — прызнаваўся я сам сабе, але заўсёды радуюся гэтай здольнасці ў многіх нашых вясковых людзей, асабліва жанок і маладзіц гаварыць у рыфму, складаць прыпеўкі і прымаўкі.

Радуюся, перачытваючы Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, яго кнігі, падараваныя некалі мне, і цешачыся не толькі таму, як у жывой гаворцы творыцца мова ва ўсіх яе формах, але і неспадзяваным сугуччам слоў і часта ў такім спалучэнні, у якім не заўсёды можа пачуць і вуха прафесійнага паэта: "Быў бы пеўчым, ды хадзіць у неўчым" — сустрэў толькі ў Пастарнака. "Зяць, пабыўшы ў цёшчы, рад уцёкшы" — ні ў кога не сустрэў — у беларускіх.

Усё гэта было для мяне як адкрыццё залатых радовішчаў паэзіі, калі я складаў у вершах слоўнік народнай мовы для дзяцей, прысвечаны памяці самаахвярнага падзвіжніка і незабыўнага рупліўца беларускага слова.

## КАЗАЧНІК РЭДКІ — ПСЕЎДАНІМ СЕРЖПУТОЎСКАГА

Друкуючы ў "ЛіМе" верш "Казачнік Рэдкі", я ўжо выказаў гэтае сваё меркаванне. Яшчэ болей упэўніўся, зноў перачытаўшы казкі. Што ж да аўтара, дык якога А. Сержпутоўскі нібыта запісваў іх, дык біяграфічныя звесткі настолькі няпэўныя, што ніяк не могуць засведчыць рэальную, болей рэдкую, іншую асобу, чым асоба самога Сержпутоўскага.

Схаваўшыся за псеўданім, Аляксандр Казіміравіч сам быў і даследчыкам, і каментатарам казак. Выдумваючы многія сюжэты, не выдумаў, аднак, біяграфіі свайму сааўтару, абышоўшыся агульнымі адзнакамі яго натуры: "Нягледзячы на стогадовы ўзрост, Рэдкі вызначаўся незвычайнай бадзёрасцю, вясёлым характарам і здольнасцю расказваць цэлыя гадзінамі".

Але так і засталіся невядомымі для нас элементарныя рэчы — Рэдкі, гэта вясковая мянушка ці сапраўдное прозвішча? Невядома ні імя, ні імя па бацьку. Сцвярджаюць, пражыў ён 115 гадоў і памёр у 1910 годзе — не такая ўжо і даўніна па часе. Нямала пабывала цікаўных даследчыкаў і на радзіме міфічнага палешука ў вёсцы Вялікі Рожын, аднак новымі падрабязнасцямі навука не ўзбагацілася. Цікавая падрабязнасць: акрамя Сержпутоўскага ад непісьменнага Рэдкага ніхто болей, ніводзін фалькларыст казак не запісваў.

Напярэдадні вайны і пасля частым госцем Рожына бываў вядомы фалькларыст прафесар Л.Бараг. У сваёй кнізе "Беларуская казка", ужо шырока вядомай у свеце, як мне здалося, ён быў найбольш блізкі да думкі, што вусная народная казка, збліжаючыся з літаратурай, непасрэдна ўплывала на фармаванне беларускай мастацкай прозы. Аднак, сказаўшы а, прафесар не рашыўся вымавіць б.

Псеўданім Сержпутоўскага, правадзейнага члена Інбелкульта (акадэміі), археолага, этнографа, гісторыка і лінгвіста, настолькі ўжо кананізаваны і ператвораны ў легенду, і дагэтуль болей вядомы, чым сапраўдны аўтар цудоўных казак, якія даўно сталі хрэстаматыйнымі і анталагічнымі ў беларускай літаратуры.

## КАРЧМА ПРЫ ДАРОЗЕ

Яшчэ адна вострая стрэмка ў сэрца. Пазванілі з Саюза пісьменнікаў — памёр Анатоль Вялюгін. (24.10.1994.)

Нізкі палон яго памяці. За пасляваеннае паўстагоддзе ў беларускай паэзіі, у сузор'і яе імёнаў гэтае далёка высвечвала сваёй адметнасцю. Прызнаны майстра, ён вабіў многіх малодшых і новых, хто гарнуўся да паэзіі. Большасць з іх, з асяроддзя ўплыву і асабістых сімпатый да свайго настаўніка, цяпер, у нашы дні, — найболей вядомыя і прызнаныя аўтарытэты літаратуры. Творчая спадчына Вялюгіна не толькі ў яго творах, а і ў яго вопыце і ўплыве, якімі ён узбагаціў маладзейшых за сябе.

Другі нумар "Полымя" 1995 адкрываецца развітальнымі вершамі Анатоля. Іх сем, як і сем дзесяткаў гадоў, пражытых паэтам. І кожны як вяха, сцвярджэнне самага цяжкага ў яго апошні — 1994.

"Карчма пры дарозе". Які болей дакладны, трагічны вобраз гісторыі роднай зямлі можна знайсці, што ўзяў паэт у аснову верша? Тут і водгук яшчэ з часоў пушкінскай "карчмы на літоўскай граніцы", пазначанай мяжой імперскай смуты, што аж да нашых дзён як пятля на шыі народа, а новым авантурыстам толькі і засталося зашмаргнуць яе, каб удушыць беларуса.

"Свае чужаземцы штодня чакаюць усходніх дароў". Дакладней не скажаш, як сказаў Толя. "Карчма пры дарозе, карчма — балююць бандыт і гандляр".

Так яшчэ адзін самаахвярнік з перадсмяротнай пятлі выгукнуў словы праклёну "сваім чужаземцам", змалку ўзгадаваным не малаком роднай маці, грудзі якой у злосці і нянавісці скусаны ўжо не адным пакаленнем пачужалых пярэваратняў, якія так і не зазналі слодычы матчынага малака, бо ўскормлены штучным і атручаным.

Атручаны народ, атручана яго зямля. "Заклятым годам" назваў Анатоль свой апошні, сёмы верш, у якім і прадчуванне развітальнай часіны і нават назвала "хвароб навала", што "іржавай пілою нутро распілавала" — панкрэатыт.

Паэт да апошняе грані быў дакладны ў кожным радку і слове. Верным свайму сумленню перад пражытым пакутным і трагічным часам.

## НА ВІДУ ПЕРАД УСІМ СВЕТАМ

23 лютага 1995 г., па тэле з Астанкіна пасля праграмы "Время" адразу ж пераключылася на Крэмль экстранная перадача аб прабыванні прэзідэнта Расіі ў Мінску.

І вось на экране ў цэнтры ўвагі свету яны ўжо ўдвух. Дыялог двух роўных і раўнапраўных у перамозе: адзін купіў, другі прадаў.

"Я доволен результатами..." — гаворыць першы.

"Предварительный социологический опрос показал, — услед яму дадае другі, — будем проводить референдум".

А першы ўжо нагатове і катэгарычна: "Русский язык должен быть государственным".

Абодва ўсё і рашылі. На віду перад усім светам.

## ВЕРТЫКАЛЬНЫЯ ВЕРТУХАІ

"Дэпутаты зрабілі тое, што даўно абяцалі: сфатаграфаваліся, выпілі на банкеце — і раз'ехаліся", — так паведаміла пра апошнюю сесію Вярхоўнага Савета на першай сваёй старонцы "Народная газета" (14 красавіка 1995) з яе, мабыць, ужо апошнім намаганнем пажартаваць, хоць за гэты два тыдні і яна ўжо стала не той, якой была са сваёй рэпутацыяй, якую страціла адразу ж, калі верхні вертухай заткнуў ёй рот.

Ніжэйшыя вертухаі, атрымаўшы гарантыі, што кожны вяртаецца ў сваю зону і на сваю вышку, дзе захоўваецца не толькі яго ранейшая ўлада, але і права на ўсё, чым паспеў нажыцца ў "народных абранніках".

# Аляксандр КАПУСЦІН

16 кастрычніка 1996 года раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік Аляксандр Капусцін.

Аляксандр Пятровіч Капусцін нарадзіўся 12 лютага 1924 года ў вёсцы Старая Рудня Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

У гады Вялікай Айчыннай вайны мужна змагаўся супраць фашысцкіх захопнікаў: стварыў камсамольска-маладзёжную падпольную групу, камандаваў аддзяленнем партызанскага атрада імя Будзённага, а з 1943 года ваяваў на 1-ым Украінскім фронце. Быў кантужаны і тройчы паранены. Пасля вайны працаваў на роднай Гомельшчыне ў органах юстыцыі. Скончыў Мінскую юрыдычную школу, гістарычны факультэт Гомельскага настаўніцкага інстытута імя В. Чкалава, а таксама Вышэйшыя юрыдычныя курсы ў Маскве. У 1965 годзе яго прызначылі загадчыкам аддзела абласной газеты "Гомельская праўда". З 1971 года працаваў старшым рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі навукі і культуры БЕЛТА. Доўгі час (1973—1980) быў супрацоўнікам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" — спачатку адказным сакратаром, а потым намеснікам галоўнага рэдактара.

Першая публікацыя Аляксандра Капусціна ўбачыла свет у 1943 годзе ў падпольнай газеце "Гомельская праўда". Сталая літаратурная праца пісьменніка пачалася з 1955 года. Выдаў кнігі прозы "Суд ідзе", "Мерай закона і сумлення", "Суд вырашыў", "Чалавек з пазіцыяй", "Белыя гусі лета прарочаць", "Покліч сэрца", "Размова ў дарозе", "Скажу праўду", "Быць чалавекам", "Рэха даўніх баёў", "Гудок далёкага поезда", "Салёная раса" і іншыя.

Аляксандр Капусцін адгукаўся на самыя балючыя пытанні нашага жыцця, быў мастаком са сваёй тэмай. Ён да апошняга часу не выпускаў з рук пісьменніцкае пяро, як Ганаровы грамадзянін Жлобіна пастаянна сустракаўся са сваімі землякамі, хораша пісаў пра іх. Уся творчасць пісьменніка была прасякнута палымянай любоўю да Бацькаўшчыны.

За баявыя подзвігі і самаадданую працу на ніве беларускай літаратуры Аляксандр Капусцін быў узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай



вайны 1 ступені, медалём "За адвагу" і іншымі медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Пайшоў з жыцця самабытны пісьменнік, добры сябра, чалавек высокай маралі. Светлая памяць аб Аляксандры Капусціне назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# АПОШНЯЕ "БЫВАЙ"

Смерць заўсёды нешта страшнае і недарэчнае, тое, да чаго ніколі не прывыкнеш, асабліва калі чалавек перад гэтым быў поўны планаў і задум, любіў жыць і ўмеў радавацца жыццю, ціцаць яго па-сапраўднаму і пайшоў у нябыццё нечакана і раптоўна. А менавіта так і здарылася з А.Капусціным. Па добрай завядзёнцы Аляксандр Пятровіч і ў мінулую сераду 16 кастрычніка завітаў у "ЛіМ", дзе з часу сваёй працы меў шмат даўніх і добрых сяброў. Пагаварыў аб жыцці-быцці, падзяліўся радасцю, што нарэшце ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" атрымаў карэктуру сваёй новай кнігі "Усяму беламу свету", якая мусіць выйсці сёлета. Праўда, пры гэтым як бы між іншым зазначыў, што давялося паляжаць тры дні ў бальніцы, нешта сэрца патрывожыла, ды, маўляў, такой бяды... І паспяшаўся ў Дом літаратара, дзе праз некалькі хвілін пачынаўся агульны пісьменніцкі сход, на якім, як вядома, разглядаўся далейшы лёс "ЛіМа". Ягонага "ЛіМа", якому ён аддаў сем гадоў жыцця і пастаянным аўтарам якога з'яўляўся.

Як і ўсе прысутныя, А.Капусцін блізка ўспрымаў усё, што гаварылася на сходзе. Як і ўсе, перажываў за лёс штотыднёвіка. А перажыванні, эмацыянальная ўзрушанасць ды на хворае сэрца... І мала хто ўгледзеў, як ён ціха, трымаючыся за левы бок, выйшаў з залы...

"Хуткая" не паспела прыехаць. Яна ехала больш за паўгадзіны, хоць за гэты час ад яе бліжэйшай станцыі можна прыйсці пехам...

Кажучы апошняе "Бывай" Аляксандру Пятровічу, мы нізка схіляем галаву перад яго памяццю. Мы смуткуем, але скрозь слёзы праступае і пачуццё ўдзячнасці, што лёс звёў нас з гэтым цудоўным чалавекам. З ім лёгка і хораша працавалася. Ён быў тактоўным кіраўніком, ён умеў цаніць чужую думку і здатны быў да яе прыслухоўвацца. А яшчэ ён любіў праўду і толькі праўду. І назва адной з яго кніг "Скажу праўду" набывае сімвалічны сэнс. Гэтае імкненне да праўды, пастаяннае жаданне аб'ектыўнасці ў Аляксандра Пятровіча жыло яшчэ з тых часоў, калі яму давялося са зброяй у руках абараняць Радзіму. Яно падмацавалася падчас працы ў судовых органах і на журналісцкай і пісьменніцкай ніве.

Няхай жа пухам будзе табе, дарагі Аляксандр Пятровіч, родная зямля! Мы заўсёды будзем памятаць цябе, як будуць памятаць цябе і тыя, хто хоць аднойчы сустракаўся з табой, хто чытаў твае кнігі.

**ЛІМАЎЦЫ**

# ТЫ Ў НАШЫХ СЭРЦАХ, ДРУЖА

І яшчэ адна балючая страта.

Рэспубліка Беларусь страціла свайго абаронцу Аляксандра Пятровіча Капусціна. Вайна зрабіла яго змагаром у юнацкія гады. У свае дваццаць гадоў, абараняючы Радзіму, ён быў кантужаны і тройчы паранены.

Саюз пісьменнікаў страціў свайго актыўнага байца. А.Капусцін шчыра перажываў усе нягоды нашай творчай суполкі. Апошні сход стаў сведкам яго смерці.

Жлобінцы, землякі Аляксандра Пятровіча страцілі свайго вернага сына, ганаровага грамадзяніна горада. Магу засведчыць: яны сэрцам любілі, шанавалі яго. І гэта было ўзаемна. Да апошняга дня ён атрымліваў у Мінску жлобінскую раёнку і чытаў яе ўсю, як пісьмо землякоў да яго.

Жонка Эмілія Іванаўна страціла свайго вернага і любячага мужа. Калі Аляксандр Пятровіч гаварыў пра яе, вочы яго зіхацелі, іскрыліся, зацішталі вясновымі незабудкамі.

Сябры А.Капусціна, а ў іх кагорце і я, страцілі чалавека, які пяшчотна абараняў наша сяброўства, які не прапускаў імгнення, каб парадавацца за сябра, паспачуваць, нешта падказаць, пажадаць яму, параіцца з ім.

Веру: калі памірае чалавек, страту нясе ўсё чалавецтва. Гэта так, бо кожны чалавек на планеце — асоба непаўторная, адзіная ў сваёй індывідуальнасці.

У той восеньскі, вясёлкавы дзень я вяртаўся са сваёй чарнобыльскай Гомельшчыны ў Мінск. А ў гэты час, па другой, амаль паралельнай дарозе, везлі Аляксандра Пятровіча Капусціна на Жлобіншчыну, на яго любую радзіму, каб аддаць цела роднай зямельцы на вечны спачын.

Размінуліся.

Не развіталіся. І гэта мушу рабіць публічна.

Бывай, дружа. Маё сэрца, пакуль будзе стукаць, не перастане плакаць па табе. Нашчадкі, веру, ацэняць тваё чэснае служэнне Беларусі. А кніжкі, пакінутыя табой у спадчыну, засведчаць тваю нязрушную душу, пільнае вока і спагадлівае, трывожнае сэрца.

Не трымай крыўду, дружа. Апошнія гады завіхурылі жыццё кожнага так, што іншым разам не ведаеш, на якім свеце жывеш. І гэта не спрыяла частым сустрэчам. Цяпер вымушаны шкадаваць, колькі недагаворана, недажартавана ў нашай сябрыне.

Адыходзіць бабіна лета. Неба пачынае восеньскі плач. Яно, здаецца, разам з намі плача па табе, незабыўны Аляксандр Пятровіч.

А ты, дарагі дружа, нарадзіўся некалі нанрадвесні. Хай жа гэта добрая пара нясе тваё імя, тваё жыццё і твае літаратурныя творы ў вечнасць.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім з выпадку смерці пісьменніка Аляксандра Пятровіча КАПУСЦІНА.**

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне ГОЛУБ Тэрэсе Станіславаўне, намесніку дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.**

